# У ДАРОЗЕ НЯСПЫННАЙ

Аркадзь Аляксандравіч Куляшоў належыць да тых выдатных і сапраўдных мастакоў слова, чыя творчасць і лёс шматлучна і неадрыўна звязаны з лёсам свайго народа і сваёй Радзімы. Шматлікія чытачы добра ведаюць і творчасць паэта і пройдзены ім праз гады і дзесяцігоддзі вялікі шлях. На гэтым шляху ўсё галоўнае ў грамадскім развіцці і цудоўным жыцці Савецкай краіны станавілася зместам і пафасам творчасці Аркадзя Куляшова і выяўлялася з вялікай паэтычнай сілай і ідэйна-мастацкай значнасцю.

Разнастайна і шматгранна ўвасобіў паэт у сваёй творчасці жыццё і думкі народныя. Калі ахапіць унутраным зрокам усю творчасць Аркадзя Куляшова, становіцца асабліва відавочным, як многа дзеецца на яе старонках таго душэўна-чалавечага, што істотна для многіх людзей і выяўляе іхнія ўласныя перажыванні і ўражанні, пачуцці і думкі.

Памятаеце? Спачатку: трактарыст Аніс «ладзіць рэвалюцыйны паход», разворваючы векавыя межы вясковага аднаасобніцтва; бяжыць у роспачы за ім следам цётка Вольга: «Схапіў маю палоску і панёс» («Сонечнае заўтра»); светла кахаецца «з Іванам сваім» маладая калгасніца Хрыс-

ціна («У зялёнай дуброве»); радасна-тужліва круціцца кірмашовая карусель і доўжаць нашу маладосць салодкія і самотныя сустрэчы і развітанні ў «Юнацкім свеце».

Затым... Выходзіць юнак у разведку («Рашучы заўтра бой...»); на канчатковую бітву, ад якой «лёс зямлі залежа», ідуць «хлопцы апошняй вайны»; з непахіснай вернасцю Радзіме прымае смерць мужны пагранічнік Баранаў Васіль...

А вось ужо ідзе са сцягам брыгады праз вайну і гора, глытаючы дарожны пыл,— як мсцівец і летапісец народны — Алесь Рыбка, а наўкол яго разліваецца неагляднае мора народнай бяды: спяваюць жахлівую песню пра аратага, яго жонку Агату і іхнюю дачушку заняволеныя жнеі («Зрубіце сасну і труну майму бацьку зрабіце, а ў тую труну разам з ім і мяне палажыце»); гіне самы сьвяты вынік працы чалавечай — пасечанае кулямётамі, здратаванае захопнікамі, роднае, народнае жыта; бяжыць з акрайцам хлеба згаладалы хлопчык «на халоднай зямлі, па лістах» і па нашых сэрцах. З палону шле «куды-небудзь свой ліст», адрасаваны каханаму хлопцу, бядотная беларуская дзяўчына. Горкім болем працінае нашы душы той навечна страшны момант, калі «цэліць кат у льняныя галовы» маленькіх заложнікаў, дзяцей Бацькі Міная. У бязлітасным пекле вайны вандруюць разам з цымбаламі «Васілёк са сваёю сястрою». Ідзе нарэшце з Перамогай Мірон Гукай...

І глыбака кантактуе з нашымі душамі свет куляшоўскай паэзіі апошніх гадоў — свет «Новай кнігі» і «Маналога», паэм «Цунамі» і «Далёка да акіяна», самых апошніх лірычных цыклаў.

Усё гэта так увайшло ў нашу свядомасць і трывала замацавалася ў ёй, што здаецца, быццам было гэта з намі, адбываецца ў нашых сэрцах. За ўсім гэтым — вялікая праўда жыцця, неабдымны свет радасцяў і бедаў народных, неабходны і дарагі для нас багаты душэўны вопыт юнацтва і сталасці, працы і кахання, барацьбы і здзяйсненняў, трывожных думак і светлых летуценняў, суровай памяці і глыбокай любві да жыцця, да людзей.

На гэтай аснове даўно ўсталявалася і з гадамі ўзмацнела непарыўная сувязь паэта з яго чытачамі і чытачоў з паэтам.

Вось чаму для вельмі многіх з нас кожная новая сустрэча з паэзіяй Аркадзя Куляшова — абяцанне значнай і важнай душэўнай надзеі.

Знаёмая, не раз чытаная, любімая паэзія... Колькі разоў прыходзіла яна і паланіла сваёй праўдай і прыгажосцю, дарыла глыбокія перажыванні! Колькі перажыта ўжо разам з паэтавым словам радасці і гора, колькі разоў з юнацкага верша, ваеннай балады, новага лірычнага цыкла пачыналася для нас наноў жыццё куляшоўскай паэзіі, заўсёды нечаканай: то па-юнацку адкрытай і непасрэднай, то засяроджанай і задумлівай, то радаснай і ўзнёслай, то драматычнай і жалобнай... Прыходзілі новыя пачуцці, і ажывала былое — хваляванні і думкі, выкліканыя калісьці, пры ранейшым чытанні, той настрой і стан, тыя жыццёвыя ўражанні, якія раптам знаходзілі сябе ў паэтавых словах.

Цяпер гэта паэзія прыйдзе да чытача ў самым поўным і прадстаўнічым выданні — пяцітомным Зборы твораў.

Тут, у пяцітомніку,— амаль усё, што ведаюць, памятаюць і любяць шматлікія чытачы Аркадзя Куляшова: раннія творы, даваенныя нізкі «Сонечнае заўтра» і «Юнацкі свет», і паэмы — ад «Крыўды» і «Аманалу» да «Грознай пушчы» і «Далёка да акіяна», вершы і балады гадоў Вялікай Айчыннай вайны і пасляваенная творчасць, нарэшце — «Новая кніга» і «Маналог», «Варшаўскі шлях», выдатныя творчыя дасягненні апошніх гадоў. І сабраныя разам лепшыя куляшоўскія пераклады — надзвычай важная і вельмі значная частка паэтавай работы — яскравае сведчанне шырыні і моцы куляшоўскага таленту, які здолеў далучыць да беларускай паэзіі такія выдатныя набыткі сусветнай паэзіі і братніх літаратур, як творы Пушкіна і Лермантава, Ясеніна, Ісакоўскага, Шаўчэнкі, Малышкі, Гамзатава, Куліева, як неўміручыя «Спеў аб Гаявацe» Лангфэла і «Энеіда» Катлярэўскага...

Для даследчыкаў літаратуры — гэта новая зручная магчымасць глянуць на ўвесь творчы шлях паэта, убачыць дужанне і развіццё куляшоўскай паэзіі ад першых твораў да сённяшніх вышыняў, прасачыць яе трывалыя сувязі з беларускай нацыянальнай традыцыяй, з рускай класічнай паэзіяй і агульнаславянскай паэтычнай культурай, яе складаныя сувязі з асяроддзем і часам, яшчэ раз прыгледзецца да няспынных творчых пошукаў паэта, вярнуцца яшчэ раз да яго выдатных твораў.

А проста чытач можа з любога тома і любой старонкі зноў прыйсці ў свет цудоўнай куляшоўскай паэзіі, у свет вялікага натхнення і незвычайных вобразаў, значных дум і моцных пачуццяў.

Народнаму паэту Беларусі Аркадзю Аляксандравічу Куляшову спаўняецца шэсцьдзесят гадоў (ён нарадзіўся 6 лютага 1914 года ў Самацеевічах Касцюковіцкага раёна). Гэта — высокая і мудрая пара чалавечай і грамадзянскай сталасці, і Куляшоў увайшоў у яе са словам важкім *і* выверанным, вынашаным і змястоўным, забяспечаным усім жыццёвым вопытам і непахісным грамадзянскім светапоглядам, гуманістычнай верай у чалавека і ў праўду камуністычных ідэалаў. Яго паэзія дае нам выдатны прыклад унутранай паслядоўнасці і мастацкай сабранасці, арганічнай суадноснасці жыццёвых і творчых ісцін, прыватных настрояў і таго абагуленага перажывання, у якое месцяцца, кажучы словамі А. Твардоўскага, «все дни и дали». Паэтава душа бярэ сёння духоўныя вышыні філасофскага шматаблічнага асэнсавання сучаснасці, яе вызначальных гістарычных і сацыяльна-палітычных вектараў, яе новых прасторава-часовых уяўленняў і гуманістычных перспектыў...

Але пачнём з першых старонак, з ранняй творчасці. Куляшоў як паэт пачаўся рана, надзвычай рана. Ён друкаваўся яшчэ ў школьныя гады. У 1926 годзе ўбачыў свет на старонках клімавіцкай акружной газеты «Наш працаўнік» яго першы верш. У юнацкім узросце паэт ужо ўваходзіць

у беларускую літаратуру як актыўны і плённы творца, як свежы і адметны талент, што падае вялікія надзеі.

Беларуская паэзія не ведае, здаецца, другога такога ранняга і крутога творчага ўзыходу. У шаснаццаць гадоў — першая кніга («Росквіт зямлі», 1930), у васемнаццаць — яшчэ дзве («Па песню, па сонца!..» і «Медзі дождж», 1932). Неўзабаве — некалькі цікавых, смелых у мастацкіх рашэннях і значных ідэйна-эстэтычнымі вартасцямі паэм, лірычных цыклаў, пазначаных інтэнсіўнасцю ідэйна-мастацкага развіцця, настойлівасцю і шырынёй ідэйна-тэматычных *і* фарматворных пошукаў («Аркадзь Куляшоў жыве гэтымі пошукамі, пошукамі вялікай жыццёвай праўды і яркай мастацкай выдумкі»,— адзначаў яшчэ ў 1935 годзе П. Глебка)...

Лірычны свет маладога Куляшова поўніўся тым, чым жыла краіна, — героікай Кастрычніка і грамадзянскай вайны, пафасам грамадскіх перамен, усталяваннем новых прынцыпаў і формаў чалавечых узаемаадносін. У ім суладна лучыліся будзённасць і акрыленасць, аб'ектыўныя малюнкі жыцця і асабістыя перажыванні, рамантыка пакалення і працоўны будзень краіны. Малады паэт лёгка, проста і хораша выходзіў да людзей («Гэтыя людзі: Анісы, Алесі, Вольгі — жывыя, блізкія, свае...»), далучаўся душой да іх, да з'яў і фактаў іхняга жыцця. Вершы яго шырока і свабодна ўвасобілі гэты душэўны кантакт паэта з жыццёвай явай і саму гэту яву — маладую, сонечную, працоўную, па-новаму «перакроеную» і памкнёную ў «сонечнае заўтра».

Непераходнай красою і дзівоснай свежасцю палоняць і сёння вершы, што склалі ў свой час слынны куляшоўскі цыкл «Юнацкі свет» (1938—1941) — «Бюро даведак», «Воблака», «Ельнік», «На сотай вярсце»... Тут — той шчаслівы і рэдкі выпадак, калі само юнацтва так поўна расказала аб сабе, калі яно з творчай сталасцю і юнай непасрэднасцю раскрыла, разгарнула свой унутраны свет, паведала лірычна-пранікліва — то са смуткам, то ўсмешліва, то ў складаным перапляценні розных настрояў — аб сваім каханні, аб

сустрэчах і развітаннях, аб першым жыццёвым вопыце з яго салодкай самотнасцю і аб радасным адчуванні ўласнай маладосці. І з такім даверам да часу, рэчаіснасці, з такім упэўненым і смелым позіркам у далягляд.

Даваенная творчасць Куляшова ўвасобіла імклівы ўзлёт творчых сіл народа, радасць сацыялістычных здзяйсненняў, новыя маральна-душэўныя якасці чалавечага светаўспрыняцця і самаадчування — унутраную раскаванасць і сацыяльную ўпэўненасць, пачуццё роўнасці ў калектывісцкім сацыялістычным грамадстве. Вельмі справядлівымі з'яўляюцца словы крытыка Р. Бярозкіна, які пісаў у адным з артыкулаў: «Тое, што мы называем ідэйным і творчым ростам Куляшова-паэта, ёсць, акрамя ўсяго іншага, працэс пашырэння першапачатковых паняццяў праўды і справядлівасці, выхаваных у ім самой рэчаіснасцю, працэс іх няспыннага ўзбагачэння практыкай сацыялістычнага будаўніцтва, зразуметага як э т а п рэвалюцыі».

Куляшоў-паэт вельмі хутка рос як чалавек і грамадзянін. Юнацкае летуценне не засланіла яго ад суровых подыхаў часу. Ён з усё большай лірычнай пранікнёнасцю ўсведамляў сваю адказнасць перад Радзімай і народам. Прачулым і палымяным словам — вынашана, а не рытарычна — ён загаварыў аб пагрозе новай вайны і сустрэў яе ўнутрана змабілізаваным, гатовым да змагання пяром і словам.

Творамі ўсенароднага гучання, незвычайнай лірычнай сілы і духоўнай ёмістасці сталі яго ваенныя вершы, балады і паэма «Сцяг брыгады». Драматычныя, нават трагічныя — як і час, у які яны ствараліся,— яны валодалі вялікай духапад'ёмнасцю, яны вельмі і вельмі шмат гаварылі нашым душам, што такое Радзіма, свабода, родны краявід і матчына мова, з чым жыць і як паміраць, як змагацца.

Паэма «Сцяг брыгады», суровая і гераічная, мужная і стрыманая, пафасная і пяшчотная, раскрывае нам велізарны свет духоўнага жыцця беларускага народа ў часы вайны. Гэта проста-такі незвычайны па эмацыянальнай сіле

і мастацкай выразнасці твор. Тут — ўсё, што прыйшло на Беларусь разам з вайною. Гора і трывога, пакутлівае адступленне, гартаванне веры і ўпэўненасці, цяжкі боль ростані з блізкімі, вымушанае развітанне з роднай зямлёй, асаблівая любасць да ўсяго, што намагаецца адабраць вораг,— да роднай мовы (усе народныя выслоўі, прыгаворкі, фальклорныя звароты да птушак, ручая, дрэў аблашчаны і сагрэты любоўю аўтара і абуджаюць у нас моцнае і шырокае нацыянальна-патрыятычнае пачуццё), да беларускай песні, змест якой усёй сваёй духоўнай сілай супрацьстаіць варожай навале, да народных паданняў... Усё, чым жыў беларускі народ, яго працоўны подзвіг і ўсе яго духоўныя багацці, звычаі, традыцыі, абрады — у непрымірымай варожасці з фашысцкім нашэсцем.

Паэма «Сцяг брыгады» стала адным з буйнейшых дасягненняў усёй савецкай паэзіі, бліскучым узорам народнасці ў мастацтве — «па вялікай істотнасці і гістарычнай значнасці зместу ў спалучэнні з багаццем самастойных і арганічных нацыянальных сродкаў формы» (так пісаў А. Твардоўскі ў выдатным артыкуле, прысвечаным гэтай паэме).

Чарадзейная, хвалюючая паэма «Прыгоды цымбал» дапоўніла ваенную паэзію Куляшова яшчэ адной гарачай хваляй, высветліла трагічную калізію, звязаную з лёсам дзяцей на вайне. Цудоўны гэты твор мае свой асаблівы аспект выяўлення народнасці — усе яго падзеі, пранізаныя светаўспрыняццем дзяцінства, пераходамі ад казачнага да рэальна-верагоднага, быццам адбываюцца ў адкрытай душы народнай, узрушанай і растрывожанай, гатовай на любыя ахвяры, каб толькі ўратаваць гэта дзяцінства, вярнуць яму зноў жыццёвую радасць і святочнасць.

Пасляваенная творчасць Куляшова ўжо, здаецца, ніколі не развітваецца з вайною. Усе праявы мірнага жыцця, новыя перажыванні паэта прама і ўскосна суадносяцца з ваенным вопытам. Гэта можна сказаць нават пра такія творы, як паэмы «Новае рэчышча», «Толькі ўперад» і напісаная на заходнебеларускім матэрыяле «Грозная пушча» —

ёсць і на іх выразны адбітак перажытага і зведанага ў Вялікай Айчыннай.

У 1947 годзе Куляшоў напісаў верш «Зямля», у якім мірнае жыццё раскрываецца ў незвычайным для тагачаснай паэзіі ракурсе: касманаўты глядзяць на зямлю з вышыні касмічнага палёту, і ім радасна бачыць, «што жывуць і кіруюць зямлёю людзі адзінай працоўнай сям'ёю». Гэта — аб шчасці міру, заваяванага ў нядаўніх баях:

Будзе прыемнай назад вам дарога —
Быццам салдатам з паходу цяжкога.
Здасца зямля вам, ад смагі зялёным,
Флягай з вадою, балонам з азонам.
Здасца яна вам, шчаслівым бясконца.
Хлебам ружовым, што выпекла сонца...

У творчасць паэта ўваходзіць і ўсё больш мацнее іншы матыў: клопат пра мір і шчасце людзей, барацьба супроць небяспекі новай вайны. У вершах «Камуністы», «Слова да Аб'яднаных Нацый» паэт выступае як страсны прамоўца, які ад імя народа, што адолеў фашызм і не збіраецца ні перад кім схіляць галавы, выказвае жаданне жыць у міры і згодзе з усімі народамі і цвёрда верыць у перамогу камунізма.

Душэўнае жыццё паэта бачыцца нам ужо ў новай якасці: і ў шырэйшай сацыяльна-грамадскай перспектыве, і ў больш цесных сувязях з галоўнымі грамадска-палітычнымі пытаннямі чалавечага быцця, і ў большай унутранай засяроджанасці, і ў большай абагуленасці жыццёвага вопыту.

Былі ў пасляваеннай паэзіі Куляшова перапынкі, калі маўчанне паэта непакоіла чытачоў. Але ў гэты ж час усё больш выспявалі тыя новыя творчыя якасці, якія на поўную моц выявіліся ў «Новай кнізе» і «Маналогу»: шырыня ідэйнага гарызонту, філасофская глыбіня, гістарызм мыслення, надзвычай значнае па змястоўнасці напаўненне агульначалавечым асобнага чалавечага лёсу, сінтэз у перажываннях вынікаў усяго жыццёвага вопыту.

Лірыка Куляшова апошніх гадоў вызначаецца асаблівай філасофскай насычанасцю, сканцэнтраванасцю ўнутранага вопыту, гушчынёй зместу, класічнай строгасцю формы. Але ёсць у ёй і ўнутраная свабода, лёгкасць, нейкая душэўная прасторнасць, інтанацыйная разнастайнасць. З'яднаная адзінствам тэм, праблем і матываў у адзіны і цэласны маналог, гэта лірыка захоплівае велізарны аб'ём свядомасці сучаснага чалавека. Узнятае да вышынь духоўнасці, нагружанае важкім вопытам («Пішу: я, сведка ўсіх падзей, сірочых слёз, вайны, разлукі, жадаю шчасця для людзей...»), паэтава слова не становіцца халодна-адцягненым. Яно то раднае, то гнеўнае, то пранізанае святлом, то напоўненае гаркотай. Яно проста, ясна і непасрэдна кантактуе і ўзаемадзейнічае з навакольным светам і прыходзіць да чытача «ракою чыстай і люстранай» — як трапяткое, шчырае і празрыстае, моцнае і глыбокае пачуццё.

З сённяшняй паэзіі Куляшова прыходзіць да нас у лірычнай цэласнасці і адзінстве ўвесь свет чалавечага жыцця, яго галоўныя і вечныя праблемы. Гэта скразны лірычны маналог аб жыцці, смерці, чалавечай пераемнасці (пераемнасці ідэалаў, ведаў, маральных норм, гістарычных традыцый), аб барацьбе і творчасці, аб трывогах неспакойнага веку — пагрозах чалавецтву і чалавечнасці. Гэты маналог уключае ў сябе розныя пласты чалавечага вопыту: традыцыйныя, адвечныя зносіны чалавека з прыродай і ўяўленні сучаснай навукі, нацыянальна-непаўторнае і ўсеагульначалавечае. І не ў нейкай адцягнена-абстрагаванай форме, а ў выглядзе зусім канкрэтнага чалавечага перажывання, у якім вобразная думка то адгукаецца біяграфічным успамінам, то праходзіць праз асабістыя перажыванні — кахання, жыццёвых страт, спадзяванняў, адкрыццяў.

Куляшова хочацца ўвесь час цытаваць, прыводзіць вялікія вытрымкі з яго паэтычных тэкстаў. Бо як іначай паказаць іхнюю красу і духоўную сілу, гарманічную зладжанасць і ўнутраную з'яднанасць у іх жыццёвага і творчага, канкрэтна-чалавечага і гістарычнага, іх узаемапераходнае

адзінства «ширококрылых вдохновений» і «мудрости расчета», страсці і стрыманасці, напружанасці і нязмушанасці...

З многіх якасцяў сённяшняй куляшоўскай лірыкі вылучым умоўна тое, што найбольш, можа, вызначае яе душэўна-чалавечае аблічча. Адказнасць за сваё слова, унутраная змабілізаванасць («гадоў на марнасць не аддам»), адкрыты позірк на жыццёвыя драматызм і складанасць («лепш цяжка жыць, чым быць бадзёрым трупам»), творчая і грамадзянская смеласць, гатоўнасць да выпрабаванняў, камуністычная пераконанасць ідэалаў — усё гэта з розных бакоў і ў рознай настраёвасці адкрываецца нам з паэтавых вершаў. Духоўныя абсягі куляшоўскай паэзіі ахопліваюць свет касмічны і зямны, па-сучаснаму шырока высвечваюць шматзначнасць усіх чалавечых пачуццяў. І каханне, і натхненне, і хуткаплынныя перажыванні дзяцінства, і трудныя дарогі памяці, і многае іншае, што займае чалавечую душу,— існуе ў шчыльнай сувязі між сабою і з шырокім сацыяльна-грамадскім быццём. Вялікім і ўсёабдымным пачуццём ахоплівае паэт сучасны свет, злучае далягляды прыроды і гісторыі, зближае прошласць і будучыню, яднае чалавека з народам і народ з чалавецтвам:

Мне кожны год, нібы жыццём другім,  
Жыць у дваццаты век наш давялося...  
Я — акіяну жытняга калосся:  
Мільёны лёсаў змешчаны ў маім,  
Яшчэ да дна не вычарпаным лёсе...

І сказанае ім здаецца неабходным і важным, успрымаецца як духоўны вынік агульнаграмадскіх шуканняў. Куляшоў — чалавек і паэт, які валодае глыбокім і мужным адзінствам асобы і здатны на мэтанакіраваны, сацыяльна і мастачка ўсвядомлены духоўны пошук. Паэт не раз дамагаўся ў сваёй творчасці выключнай і (як абавязвае мастацтва паэзіі) *непаўторнай* у сваім харастве і канкрэтна-гістарычнай сутнасці адпаведнасці мастацкай формы самым складаным задачам. Як сапраўдны вялікі мастак ён ніко-

лі не задавальняецца знойдзеным, смела і рашуча шукае новыя формы і сродкі паэтычнага выяўлення, такія, каб яны былі гранічна суадпаведныя зместу і сутнасці падзей, выяўлялі ўнутраны рух асобы, яе развіццё разам з часам і грамадствам.

Ён заўсёды «ў дарозе няспыннай», не запыняе і не запавольвае сваёй хады. У яго стае сілы пераадольваць інерцыю ва ўласнай творчасці, змяняцца і расці. Нечакана новым паўстаў ён перад намі ў творах, напісаных на парозе шасцідзесятых гадоў, а неўзабаве ён адважыўся на новыя, адказныя і рызыкоўныя пошукі, калі ствараў спачатку драматычна-згушчаны «Маналог», а потым паэму «Цунамі» з яе ўмоўна-абстрагаванай сюжэтнай калізіяй і «Далёка да акіяна» — паэму шмат у чым аўтабіяграфічную, канкрэтызаваную ў многіх бытавых і гістарычных момантах, маштабна ўзбуйненую філасофскім *і* маральнаграмадскім вопытам сучаснасці.

Уласна-эстэтычныя вартасц*і* спалучаюцца ў гэтых творах з шырокім грамадска-гістарычным і філасофскім зместам. Гэта творы розныя, ьельмі розныя, але глыбінка звязаныя адзінай канцэпцыяй жыцця, творчасці і сучаснага быцця.

Гаркотна-палыновы «Маналог», які прысвечаны памяці сяброў-паэтаў З. Астапенкі і Ю. Таўбіна, запоўнены нялёгкім роздумам аб маральным абавязку чалавека перад асабістай і грамадскай памяццю, аб непераможнай сіле праўды, аб значэнні творчасці, аб адказнасці перад сябрамі і часам.

Паэма «Цунамі» — размова аб тым, што «няма шляхоў да самазахавання, няма дарог да светазабыцця у час ліхі ўзаемапалявання сіл супрацьлеглых: смерці і жыцця», аб тым, што людзі — «жыцця людскога сувязныя» — не могуць і не маюць права ўхіляцца ад «агульнага мацерыка» сіл міру і справядлівасці.

Лірыка-эпічная паэма «Далёка да акіяна» — роздум і ўспаміны аб перажытым, праз якія асобныя лёсы людзей, каханне, слава, асабістая памяць суадносяцца з ходай гісто-

рыі, высвятляючы іхні гістарычны змест і агульначалавечнае значэнне.

Усё гэта — творы суровыя, драматычныя. Але яны прасякнуты вялікай сілай жыццесцвярджэння і дыялектычна глыбокім поглядам на свет. Яны яшчэ больш замацоўваюць творчасць Куляшова на перадавых пазіцыях грамадскага жыцця і ідэйнай барацьбы, паўней раскрываюць унутраны свет паэта — нашага сучасніка, «салдата свайго часу», камуніста-барацьбіта, чалавека з мужным сэрцам і чуйнай душой, годнага пераемніка традыцый Купалы, Коласа, Багдановіча і сапраўднага наватара-майстра, паэтычныя адкрыцці якога пашыраюць духоўныя далягляды народа.

Імя Аркадзя Куляшова, народнага паэта Беларусі, двойчы лаўрэата Дзяржаўных прэмій СССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі ЦК ЛКСМБ, карыстаецца заслужанай пашанай і ўсенародным прызнаннем. Яго творчасць высока нясе сцяг партыйнасці і народнасці ў беларускай паэзіі і няспынна выводзіць яе на новыя рубяжы ідэйнамастацкай дасканаласці. Яна непахісная і смелая ў сваім імкненні да праўды і справядлівасці.

Свет Куляшова — заўсёды свет сапраўднай паэзіі. Бо і што такое паэзія, калі не вечная адданасць жыццю і ёй самой, яркасць пачуццяў, напружанне душы і думкі, пазнанне сябе і людзей, вышэйшая форма чалавечага яднання — дарога ў акіян чалавечнасці.

*В. Бечык*

## ДАРОГІ

### I

Калі адзін сяджу ў сваім пакоі,
Калі скучыцца дождж паціху ў вокны,—
Здаецца мне, туды, ў далёкі свет,
Пакінуты у розныя часы
І ў розныя часы прачуты мною,
Перанашуся я...
Разгортваю старонкі
Шляхоў пад небам сінім, па якіх
Ішлі, ішлі і след кідалі ногі;
І жоўтыя пяскі і шум бярозны —
Мне гэта ўсё знаёма да драбніц,
Да кожнае маленькае засечкі,
Сякерай невядомаю на дрэве
Калісьці зробленай...
На хвалях успамінаў,
Здаецца, падхапіў мяне палёт —
Ад болю лёгкага, ад песень сэрца млее,
А там, унізе, моцнымі рукамі
На гэтай вышыні мяне трымаюць
Усе мае семнаццаць год жыцця.

II

Успамінаецца мой ціхі край забыты,
Дзе рос, дзе першы раз рукой нясмелай
Усё, што ў юным накіпела сэрцы,
Ўсе радасці дзіцячае пары,
Ўсё горкае ў таемны сшытак вынес...
І лёгка мне было, і плакаў я,
Таму што ўсё смяялася навокал,
Таму што ў радасці не чуеш горкіх слёз.

І помніцца мне першае каханне;
З тых пор ніколі болей не кахаў
Так шчыра і так лёгка і так сумна,
Як я кахаў яе — адну дзяўчыну,
Якую людзі клікалі Алесяй
(Знаць прозвішча нікому не цікава),
З прыгожымі задумнымі вачыма,
З якою я праходзіў курс навук
У нашай небагатай сямігодцы...

Ты да мяне прыехала, таварыш,
Блукалі мы з табой па тых мясцінах,
Дзе жыў я першыя свае гады...
Ў жытах з табой зрывалі каласы.
Ў лес ідучы, мы іх вязалі разам.
Запальвалі пасля агонь вялікі
І ў стройных соснах смажылі пражмо.
І ў травах лежачы (за край знікала сонца),
Пра будучнасць мы марылі з табой,
І думкаю былі ўсхвалёваны адной,
І радасцю былі ўсхвалёваны адной,
І песняю былі ўсхвалёваны адной...

III

І два гады не чуў я шуму сосен,
Радзімыя мясціны, два гады
Я не хадзіў, не падзяляў я з вамі
Высокага ляснога суму дрэў!..
І хмары шызыя прайшлі над краем гэтым,
Не закрануўшы галавы маёй.
Дажджы лілі, на лісце кроплі палі,
Берасцяная клікала труба,
І статкі йшлі на пыльныя дарогі,
На неба напаўзалі вечары...
...Часы суніц чырвоных, спелых
Адкукавалі ўдаль зязюляй,
Адпелі поўным голасам дзяўчыны
І канулі, як канула юнацтва,
І адышлі, як сталасць адыходзіць,
Ад кошыкаў, ад стомы, ад вятроў...
Ад кошыкаў,—
У іх мы носім плён,
Ад стомы,—
што ідзе пасля,
І ад вятроў — і ўсходніх і заходніх,
Што хмары гоняць, што гартаюць кнігу
З'яднаных зор, маланак, перуноў...
Часы суніц чырвоных, спелых
Адкукавалі ўдаль зязюляй...
І перуны грымелі, і лісты
Асвечваліся зарывам маланак.
Рабінавыя ночы, вы прайшлі
Пад знакам восені, шумлівых бур,
Прайшлі, калі я не сачыў за небам.
Тады рабіны плакалі...
далёка
Ад месца, дзе жыву я зараз...
Я знаю, седзячы ў сваім пакоі,

Што там, дзе возера ляжыць каля акна,
Дзе нізка дым ад коміна ідзе,—
Там радасць мусіць жыць і будзе жыць
заўсёды,
Пад ранкамі, пад вечарамі неба,
З суніцамі чырвонымі і спелымі,
З юнацкімі гарачымі ўспамінамі...

*1930 г.*

* * *

Гармонік новы, басовы рып,
Ліпнёвы вечар у цвеце ліп.

Бялявай стужкай вакол мястэчка
Віецца ў змроку, бруіцца рэчка.

З нябёс маўклівых глядзяцца зоры,
Адлюстраваны ў рачным прасторы.

Гучыць далёка у чыстым полі
Юнацтва песня аб светлай долі.

Гармонік новы, басовы рып,
Ліпнёвы вечар у цвеце ліп.

*1927 г.*

* * *

Радасна і сумна шалясцяць асіны —
Гоман жаўталісця я пачуў у іх,
І нітуюць неба струны-павуціны
Ў сонечных праменнях чыстых, залатых.

Заплялася песня, заплялася ў ніцях —
Абнімаў рукамі залаты прастор…
Кружыцца лістота, кружыцца, імчыцца,
Высцілае ў полі восеньскі узор.

А халодны вецер лётае, сваволіць,
І шуміць ля рэчкі, і шуміць трысцё.
Я ў далёкіх далях бачу радасць, волю,
Хоць і гінуць кветкі, але ёсць жыццё.

Радасна і сумна шалясцяць асіны,
Радасна і сумна шалясцяць дубы.
У кляновых лісцях віснуць павуціны,
У срабрыстых ніцях жоўтыя сады.

*1927 г.*

## НА ШЛЯХУ

Гінуць дажджыстыя хмар валаконцы,
Дыхае свежасцю сіняя гладзь.
Хочацца шыры, паветра і сонца,
Хочацца з лісцяў расінкі страсаць.

Хочацца мне прыдарожнай дубровы
Песні вясёлыя слухаць душой.
Колькі там радасных сцежак кляновых,
Казак жывых за таемнай імглой!

*1927 г.*

## ВОСЕНЬ

Адцвілі блакітам васількі,
Каласы схіліліся дадолу.
У снапы кладзецца жытні колас,
Пад снапамі енчаць Кавалькі.

Жаўталісце з роем павуцін
У маністу восені сплялося.
Горкі асыпаецца палын,
Дзень бяжыць з палёў пужлівым
лосем.

*1927 г.*

## НА АСНЕЖАНЫХ ДАЛЯХ

Пульхны снег закаціўся ў сумёт,
Звонкім смехам, агнём заіскрыўся,
І жыцця сакаліны палёт
Над палянамі ў радасць разліўся.

Падарункамі снежнай пары
Дзень рассыпаўся ў словах-крышталях,
Буйнай ніваю песні парыў
Узышоў на аснежаных далях.

Зазвінеў, зашумеў навіной,
Каласкамі кіпучых Саветаў,
Серп і молат завіўшы ў вянок,
Што праменнямі сонца сагрэты.

Я — юнак, я палёў сваіх сын,
Абніму навіну маладую,
Абніму і, за рэхам машын,
Да другога жыцця павяслую.

Павяслую туды, дзе метал
Не сціхае, дзе гучныя коні
Абуджаюць маўклівыя гоні,
Быццам песні юнацкі запал.

Падарункамі снежнай пары
Дзень рассыпаўся ў словах-крышталях,
Буйным коласам сэрца парыў
Узышоў на аснежаных далях.

*1928 г.*

## РАНІЦА

Панавіслі, панавіслі
Вольхі родныя над вадою.
Ветры гойдаюць калыску
Роснай раніцы пад гарою.
Узнялося, узнялося
Ранне
Чырванню-зарою,
Захісталася калоссем,
Заіскрылася расою.
Пазаслала аксамітам
Панарамы каляровыя,
І у жыта,
І у жыта
Каснікі ўпляла барвовыя!

*1928 г.*

## БЫВАЙ...

Бывай, абуджаная сэрцам, дарагая.
Чаму так горка, не магу я зразумець.
Шкада заранкі мне, што ў небе дагарае
На ўсходзе дня майго, якому ружавець.

Ці помніш першае нясмелае прызнанне?..
Над намі жаўранкам звінеў і плакаў май.
Назаўтра золкае, туманнае світанне,
Суровы позірк твой і мой нямы адчай.

Пайшла ты, любая, пад гоман жоўтых сосен,
Пайшла, маўклівая, пад хваль жытнёвых
шум,
Туды, дзе гойдала зялёнае калоссе
На сцежках ростані мой адзінокі сум.

Пайшла за ціхія, далёкія прасторы
Світальнай зоркай ты, што гасне ў сіняве.
Душы пакрыўджанай гарачыя дакоры
Слязой халоднаю застылі на траве.

Пайшла, пакінуўшы мне золкі і туманны,
Палынны жаль смугой ахутаных дарог,
Каб я хвілінны боль і горыч гэтай раны
Гадамі ў сэрцы заглушыць сваім не мог.

Пайшла, ніколі ўжо не вернешся, Алеся.
Бывай, смуглявая, каханая, бывай.
Стаю на ростанях былых, а з паднябесся
Самотным жаўранкам звініць і плача май.

Бывай, абуджаная ў сэрцы, дарагая.
Твой светлы вобраз панясу я па жыцці.
На ўсходзе дня майго заранка дагарае,
Каб позна вечарам на захадзе ўзысці.

*1928 г*

## РОСТАНЬ

Пакідаю я сягоння,
Можа нават назаўжды,
І рамонкавыя гоні,
І зялёныя сады.

Песню лета над ракою
Заспявалі каласкі,
Абвілі сваёй красою
Русы волас васількі.

Кавалькі ў лугах гавораць,
У вушах іх спеў звініць.
Там за сінім ціхім борам
Шмат засмучаных суніц.

Ды імчаць наперад коні,
І на доўгія гады
Пакідаю я сягоння
Гоні родныя, сады.

*1928 г.*

## ПЯЦІГОДКА

Яна падышла да мяне і сказала:
— Таварыш, паслухай сягоння мяне,—
За долам зялёным, за чорным вакзалам
Прасторы бязмежныя сняць аб вясне...

І я зразумеў, ахмялеў ад уздыму,
Рашучыя словы да мэты вялі...
Прасмалены сталлю, пракопчаны дымам,
Я зноў на знаёмыя ехаў палі.

Шырокае поле, мае вы загоны!
Таемныя шэпты і спеў каласоў...
Як вецер шумлівы, як віхар зялёны,
Цягнік прыпыніўся ля сініх лясоў.

І ў працы напорнай, і ў працы магутнай
Праплыў па-над полем, над вёскаю час —
І вырас на ніве, як волат чыгунны,
Як дзень — пераможны калгас.

І потым вясной, дзе раней былі межы,
У новай красе зацвіталі палі —
Прыходзіў вялікі, прыходзіў мяцежны
І радасны росквіт суровай зямлі.

Сябры! У будаўнічых рашучых паходах,
Дзе сэрцы палаюць любімай зарой,
На карце вялікіх жывых пяцігодак
Мы творчыя справы акрэслім мяжой.

Хай новыя людзі назаўтра пабачаць,
Як сэрцы імкнуліся край будаваць,
Пабачаць і ў песнях прачулых адзначаць
Адважных байцоў незлічоную раць.

Пачуюць магутную песню заводаў,
Убачаць няведаны росквіт зямлі
І разам па карце жывых пяцігодак
Пазнаюць, чым нашыя сэрцы жылі.

*1929 г.*

* * *

Абодва мы зямлёю ўзгадаваны
І бачым сны аб сонечнай зямлі.
Дык панясём з сабой, як дар жаданы,
Яе палі, шырокія палі.

Ці бачыў ты: зьлавіўшы прагна сонца,
Што коціцца па нівах, па лясах,
Яна ў палях, што цягнуцца бясконца,
Яго калыша ў спелых каласах.

Вясной зялёнаю на сонечных прыпеках
Ці чуў калі ты водарац зямлі,—
І гэты пах знаёмы і глыбокі
Ці можа нас з табою не хмяліць?

А прыйдзе час, зямля заружавее...
О, хараство асенняе рабін!
Хто малады, той гэта разумее,
Як песню маці разумее сын.

Абодва мы зямлёю ўзгадаваны,
Абодва мы сыны сваёй зямлі.
Дык панясём у песнях дар жаданы —
Яе палі, шырокія палі.

*1929 г.*

## ПЕСНЯ ПЕРАМОГ

Дружа мой, ці чуеш,
Як пяюць палі
Песню маладую
Аб жывой зямлі?
Праз гадоў нягоды
Крочыць новы век,
Светлыя паходы
Ладзіць чалавек.
Чутны ўсюды нашы
Песні перамог...
Зарунелі пашы...
Паплавы, мурог
Пад блакітным маем
Буйна расцвілі...
Мы гады ўслаўляем
Росквітам зямлі.
Росквітам шматлікіх
Маладых лясоў,
Буйных ды вялікіх
Спелых каласоў.
Мы — магутны волат,
Што стрымаць прыйшоў
Назаўсёды кола
Нам чужых вякоў.
Дружа мой, ці чуеш,
Як пяюць палі
Песню маладую
Аб жывой зямлі?

*1929 г.*

* * *

Выйшла камуна
Зажынкі спраўляць
На жоўты
Прастор аксамітны.
Стракоча жняярка
І гоніць пастаць
Сярод
Урадлівага жыта.

Стракоча жняярка,
А следам за ёй
Кладуцца рады
За радамі...
«Не гэтак, таварыш...
Спыніся...
Стой!»
І водгулле
Множаць далі.

Здаволены людзі —
Багаты ўраджай,
Машына
Спраўляецца шпарка...
«Мы ўсе адбудуем
Жытнёвы край!..» —
Сцвярджае гучна
Жняярка.

А недзе ў лядах
Паляць карчы,
Заворвае трактар
Гектары.
«Нам трэба
Балота перамагчы,
Аздобіць рунню
Абшары».

І поле смяецца,
І гронкі рабін
Святочным настроем
Ірдзяцца.

Не замаўкае,
Пад гул машын,
Калектыўная праца.

*1929 г*

## НА ЗЯМЛІ

Ад дыму сінее
Над полем гладзь,
Гуркоча,
Пыхціць машына...
«Працуй, мой таварыш,
Глядзі і ладзь,
Не хутка яшчэ адпачынак!
Таварыш,
Мы зрубім дашчэнту карчы,
Нам трэ
За зямлю змагацца.
І кожны наш крок
Адгалоскам гучыць
І ў сэрцы,
І ў песні,
І ў працы...
І кожны кавалачак
Чорных палёў
Тут будзе шырокай
Пашай,
Тут будзе калісьці
Шчасцем гадоў,
А значыць — і нашым
Шчасцем.
І будзе, таварыш,
Тут жыта расці,
Што ў песнях яго
Не апішаш,
Вышай, чым людзі

Бываюць ў жыцці,
І за жыццё наша
Вышай…
Будуць спрадвеку
Казаць каласы,
Песні спяваць
Спрадвеку
Пра нашы гады,
Пра нашы часы,
Пра кожнага чалавека…
Таварыш мой любы,
Працуй — ары,
Хай праца
Не стыне наша…

Прыйдзе тады
Чалавек на зары
Сюды на шырокія
Пашы…
Прыйдзе наш праўнук,
А можа, ўнук,
І тут, у хвіліну
Спакою,
Калоссе раскажа
Быліну яму,
Раскажа
Пра нас з табою…
Як гэты кавалачак
Чорных палёў
Стаў раптам
Шырокай пашай,
Вялікім, прыгожым
Шчасцем гадоў,
А значыць —
І нашым шчасцем…

Ад дыму сінее
Над полем гладзь,
І сцелецца дым
Пад гарою...
Таварыш, нам шчасце
Вякоў каваць,
Прыгожае
І маладое!»

*1929 г.*

## РАДАСЦЬ

Любы край,
Часы прыносяць
Нам другія дні —
Ў полі буйнае калоссе
Песняю звініць...

Дзе раслі ў пустэлях травы,
Слаўся дзікі мох,—
Там расце ў вялікіх справах
Радасць перамог!

Дзе былі адны балоты,—
У інакшы дзень
Зашасцелі ў пазалоце
Жыта і ячмень.

Дзе цвілі
Туман, слізота
У інакшы час,—
У палях, палях шырокіх
Вырастаў калгас...

Любы край,
Табе спяваю
І складаю верш
Я аб тым, што ты ўзрастаеш
І што ты ўзрасцеш.

*1929 г.*

## МАЛАЦЬБА

Адшумела лета каласамі,
Ў паплавах зялёных адцвіло;
Журавы на поўдзень пад крыламі
Паняслі ліпнёвае сяло...

І цяпер
За гаем на майдане,
Дзе ў налівах серабрыцца сад,
Сустракае сонечнае ранне
На траве халодная раса.

Восень, восень!
Птушка залатая,
Прыгаством і ты чаруеш нас,—
Паглядзі, за хатай дагарае
На лістах крушын барвовы час.

І такія пекныя узоры
Тчэ кляноў задумны лістапад...
На гумне з завеямі гаворыць
Малатарань радасны атрад.

І у гэтым гомане няўпынным,
І ў ціхуткім шэпаце лістоў
Чую рух вялікае машыны
Нашых дзён і будучых гадоў.

Адшумела лета каласамі,
Ў паплавах зялёных адцвіло;
Журавы на поўдзень пад крыламі
Паняслі ліпнёвае сяло...

*1929 г.*

## МАНЕЎРЫ

Брук грыміць, як сталь, пружыняць
нервы,
Песня пакалыхвае штыкі.
З гарадка выходзяць на манеўры
Камсамольцаў першыя палкі.

Горды крок. Трубач трывогу грае,
Быццам свет апавяшчае ён:
Хто, скажыце, сёння нас стрымае,
Калі мы — і сіла, і закон?!

Сустракай нас, радаснае поле,
Гул машын, трымценне правадоў!
Тут бацькі змагаліся за волю,
Паміралі ў замеці гадоў.

І цяпер на родныя прасторы
Мы прыйшлі вучыцца бараніць
Любы край машынаў і матораў,
Каласістых, ураджайных ніў.

Бо яшчэ не змоўкла завіруха
Над палямі нашай стараны —
Мы яшчэ яскрава чуем грукат,
Цяжкі поступ новае вайны.

Гэй, трубач, гарніст, іграй трывогу!
Крочыць наш юнацкі батальён.
Чуеш, свет! Шырэй для нас дарогу:
Мы сягоння — сіла і закон!

*1929 г.*

* * *

Мігнулі, як знічкі,
Далёкія годы —
Змаганне, паходы,
Суровасць ЧК.
І людзі ішлі
Праз ліхія нягоды,
Каб лепшую долю
Знайсці, прычакаць.

Рабочы з Данбаса,
З Масквы і Каломны,
Калмык, беларус,
Украінец, якут
Пакінулі юрты,
Заводы і домны,
Каб разам пазбыцца
Спрадвечных пакут.

Падраная світка,
Расхрыстаны грудзі,
На сонца салдацкі
Загледзеўся бот...
Ніколі ніхто
Тыя дні не забудзе,
Хоць сэрцам адбою
Няма ад турбот.

Хоць сёння за працай —
За цэглай, за вапнай —

Рабочы, настаўнік,
Паэт, селянін,
Хоць сённяшніх будняў
Імклівасці квапнай
Больш цэмент патрэбны,
Чым успамін.

Ды толькі не сцерліся
З памяці нашай,
Не змоўклі, не сціхлі
Часы кананад...
І крочыць, спяваючы
Гучныя маршы,
Галодных гадоў
Пераможны атрад.

І свецяцца зоркі,
І людзі, як хвалі,—
То падаюць,
То ўваскрасаюць яны...
Мінулыя дні...
Незабыўныя далі...
Рамантыка грамадзянскай вайны.

*1929 г*

* * *

Учора над загонамі,
праз гулкія франты,
Імчалі канагонамі
вялікія гады.
Разутыя, голодныя
гады, як змагары,—
Халодныя, паходныя
праймалі іх вятры.
Яшчэ дагэтуль помняцца
завеі грозных сцюж:
Будзёнаўская конніца,
сыпняк, Дарагабуж.
Лез вораг, вар'яцеючы,
усё, што мог, крышыў,
Шрапнель і кулі сеючы,
нібы груган кружыў.
Пуцінаю-дарогаю
ўзрываліся масты.
Імчалі з перамогаю,
як змагары, гады,
Масты масцілі новыя
над берагамі рэк,
Каб рубяжы суровыя
адваяваць навек.
Бацькі яшчэ ў семнаццатым
спалілі і змялі
Масты, што ў дні жабрацкія
пакіраваць маглі.
Сягоння праз індустрыю
наш новы шлях ляжыць

Мастамі збудаванымі...
Хто можа нас спыніць?
Праймаюць нас магутныя
вятры і скразнякі,
І зоркі пяцікутныя
для нас — як маякі.
І скажам у паходзе мы,
на поўны ўстаўшы рост:
Усе шляхі, што пройдзены,—
у будучыню мост!

*1929 г.*

* * *

Натхненне нахлыне, прыбоямі слоў
Трывожыць працоўны дзень...
Гарачым агнём неспакойная кроў —
Па пругкіх жылах струмень!

Мы сёння будуем вялікія дні,
Падмуркі высокіх сцен.
І песняй бадзёрай вясёла звініць
І твой няўрымслівы цэх.

У кузнях, дзе працы жар не патух,
Ты гучным рытмам жывеш,
Там востры, як штык, глыбокі, як плуг,
Гартуецца ў горне верш.

Гарачым агнём, неспакойная кроў,
Па жылах жывых струмень!..
Натхненне нахлынула, плынню слоў
Распачынае дзень.

*1929 г.*

* * *

Пакаленне маё
Не абпалена боем,
Яшчэ ўчора
Мы гальштук насілі — не шлем.
Мы па буднях ідзём
Камсамольскім строем,
І паэты пра нас
Не пісалі паэм.

У мяне на стале
Вершаваныя кнігі,
На старонках жыве
Дзевятнаццаты год.
Гераічныя людзі —
Камдзівы, камбрыгі
Падымалі ў паход
Раскаваны народ.

Танкі йшлі па акопах,
Як чорныя цені,
Мчала Першая конная
Па прасцягах глухіх,
Без лірычнага адступлення
Білі белыя нашых,
А нашы — іх.

Пра маё пакаленне
Пісалі мала,
Хоць яно, не зважаючы

На маладосць,
На падлеткавы ўзрост свой,
Імя мае,
Хоць майму пакаленню
Шаснаццаць ёсць.

Хоць маё пакаленне
Адно з першых
На высокай вежы
Савецкіх дзён,
Хоць маё пакаленне
Прыйшло з песняй,
І прастор яму ў заўтрашні дзень
Відзён.

Не служылі
Ні ў конніцы мы,
Ні ў пяхоце,
Не вінтоўка — рыдлёўка
У нашых руках.
Пракладаем мы ў даль
Магістраль на балоце
І брукуем каменнем
Гасцінец-шлях.

*1930 г.*

## РАСПРАЦОЎКІ

На ўскапаныя пласты
Фасфарытнага камення
Восень сыпала лісты
Залатой кляновай жменяй...
Быў такі на свеце час,
Прыязджалі інжынеры,
Вывучалі ціхі пласт
І таемныя памеры.
Пазнаваць глыбінь зямлі
Ў тую восень дрэваў рыжых
З інжынерамі прыйшлі
Камсамольцы вёсак бліжніх.
І пад сонцам жоўтых сноў
Юныя энтузіясты
Кіркамі
Крышылі схоў
Непадатлівага пласту.
Трэба выведаць яго,
Запаліць падземны прыцем,
Каб пасля ўраджайны год
Вырастаў на фасфарыце.
Па вясне зямлю ўзнялі
Экскаватары, рыдлёўкі,
Загулі
і зажылі —
Заспявалі распрацоўкі.

*1930 г.*

## РАСЦВІЛІ САДЫ

Расцвілі мае сады
Над шырокаю дарогай,
Песень шчасныя лады
Сэрца кратаюць трывогай...
Гэты час, і гэты свет,
І квятлівы водар гэты —
Ўсё ацэньвае паэт
Як вясновыя прыкметы.
У прыкметах гэтых ёсць
Сэнс адзіны, асабовы —
Маладых галінак рост,
Што складае рост вясновы.
Ў гэты дзень вясна мая
Да мяне прыходзіць смела,
І таму прадбачу я
Пэўны рух і пругкасць цела.
Надыходзіць песня зноў
І кладзе сабе ў аснову,
Здэцца, лірыку садоў
І удумлівыя словы.
У мяне цяпер адна
Найважнейшая прыкмета —
Ў вокны крадзецца вясна
Ўсхваляванага паэта.

*1930 г.*

* * *

Ночка сядзе на суччა рабін,
Грукне ў вокны зялёнай рукой...
Будзе зелле яна церабіць
З тых радкоў, што здабыты табой.

Прэч адтуль, экзатычны Тыбет,
Рамантычнае мора, тайга.
Будзе край твой трывожыць цябе —
Радасць руні, пракосаў туга.

І, як сын іх, ты будзеш любіць
Словы тыя, якія натхніў
Гэты шорах і стукат рабін
Пад вятрамі загадкавых ніў.

Ну, а потым з іх звяжаш вянкі,
Як дзяўчаты вянкі з васількоў,
Пусціш іх — за радкамі радкі —
На імклівую рэчку гадоў.

Паплывуць праз вясны каламуць,
Праз гарачага лета блакіт,
Як патонуць — дык, значыць, памруць,
Значыць, кануць вянкамі ў нябыт.

Не крыўдуй, не журыся, паэт,
Тут прычына, як кажуць, адна —
Тваіх думак не хітры сакрэт
Ці не смелая песень вясна.

*1930 г.*

* * *

Як дзень адыходзіць, прыходзіць нябыт
Начных заспакоеных сноў,
Ізноў я выходжу глядзець на блакіт,
На зоры далёкія зноў.

Як нам таямнічы іх шлях разгадаць?
Яны за арбітай зямлі
Праз дальнія далі, праз сінюю гладзь
Плывуць, як плывуць караблі.

Плывуць, і шляхоў іх праменная ніць
Загадкава мару кране:
І там у каго-небудзь сэрца гарыць,
Як сэрца гарыць у мяне!

Магчыма, і ён за пачаткамі схем
Сядзіць і не лічыць гадзін
Над безліччу гэткіх, як мы, тэарэм,
Над планам складаных машын.

Прымі прывітанне, бясконцы сусвет
Далёкіх Цэнтаўраў і Львоў,
Далёкі таварыш, далёкі паэт
З няходжаных Млечных Шляхоў.

А я на зямлі — малады астраном —
З нязнаным размовы вяду,
Наш вецер трывожыць траву за акном,
Наш вецер трывожыць ваду.

Далёкі таварыш і казак і сноў,
І песень абуджаных госць,
У жылах тваіх неспакойная кроў,
Няўрымслівая маладосць!

Мы творчаю прагай разбурым мяжу,
Працуй над складанасцю схем,
І я калі-небудзь табе раскажу
Урыўкі пачатых паэм.

Тады мы ў прасторы абжытых планет —
Да іх жыхароў і жылля —
Ад нашых хацін адашлём свой прывет:
«Увага!..
Гаворыць...
Зямля!»

*1930 г.*

## ЗА ЗОРЫ, ЗА МЕСІК, ЗА ВЕТРАВЫ СМЕХ...

За зоры, за месік, за ветравы смех
Выплачваю песняй адзінай...
Чырвоныя здані злятаюць са стрэх
Далёкай нябеснай краіны.

Не здані, а зоры на небе гараць
Агнём маладым і мяцежным,
Над цёмнымі пушчамі Млечная Гаць
Прасцерлася поясам вечным.

— Разумныя зоры, я выйшаў на пляж,
Дзе хваля абмые, папесціць.
Аддаў у часопіс лірычны багаж
І сёння я вольны ад песень.

Сягоння я вольны, як месік, як драч
З вусатых азёраў і купін.
...А зоры? Іначай на небе гараць,
Іх смех, іх красу не падкупіш...

І чую я вецер, і громы, і звон,
І Крыма далёкую славу,—
Тут орды забытых татарскіх плямён
Учыняць крывавую справу,

Адскачуць, адзвоняць, адсвішчуць у стэп,
І коні ўзмятуць капытамі,
Каб іх не клялі ля разбураных сцен,
Каб іхніх слядоў не пыталі...

Залопала крыллямі ноч на сяле,
На берагах чарнаморскіх,
І закачаліся ў горным сядле
Зоры ў баку Пяцігорска.

Я здаў у часопіс лірычны багаж,
Я вольны сягоння ад песень,
Я выйшаў пра зоры памарыць на пляж,
Дзе хваля абмые, папесціць.

А зоры?
З іх сочыцца пена і пот
І кроў ад драцінак калючых,
А зоры ўрываюцца праз Перакоп
У першых палках рэвалюцыі.

*1930 г, Крым*

## СІБІР

Бацькі майго жывога пакалення,
Маіх сяброў
калоднікі-дзяды —
Бяссмертныя героі вызвалення —
Крывёй сваёй прабілі шлях сюды.
Па тым шляху, шукаючы ратунку,
З раменнай пугай,
за канём услед
Ішоў,
пракляўшы грошы і чыгунку,
Шукаць зямлі перасяленец-дзед.
Ён сек тайгу, паліў карчы старанна
І проса ў лядах сеяў па вясне.
Японскі кат
за сына-партызана
Яго павесіў на сухой сасне.
Дык вось чаму заву цябе радзімай,
Сібірскі край няходжаных лясоў,
У першы дзень майго жыцця,
магчыма,
Нас парадніла дзедаўская кроў.
Чакай мяне, я да цябе прыеду,
І ў той жа снег падзе мая нага,
Дзе першы раз вятры спявалі дзеду
І плакала шумлівая тайга...

*1930 г.*

## НА ЛЕСАНАРЫХТОЎКАХ

### I

Спрачаюцца хітрыя пілы,
Ляціць пілаванне, як шрот,
І рушацца сосны і піхты
На землях паўночных шырот.

Маленькі спалохаўся заяц
І ў тундру далёкую збег...
У лесе мяцеліца злая
Знямее і ляжа на снег.

Сярод барадатага люду
Адзін ён бязвусы зусім,
Напяў паласатую хутру
Ад ветру марозных зім.

А трэскі — направа, налева,
Іх вецер са снегам змяшаў.
Прад ім стогадовыя дрэвы
Чаргой скамянелай ляжаць.

Іх трэба абчысціць, абгладзіць
І разам укласці сушыць,
Дзе вецер вужакаю лазіць
І точаць марозы нажы.

І цэлымі суткамі ў лесе
Працуюць пад гоман галін.
Ідуць маладыя экспрэсы,
Кідаючы дым на ўспамін.

Дыхнуўшы на мора, на сплавы,
Кіруе назад паравоз —
Імчаць яго розныя справы
Праз пушчы і хвой і бяроз.

На гэтакім самым экспрэсе,
З лістамі асенніх дарог,
Вялі яго чорныя рэйкі
Сюды, на зімовы перон,

Дзе хітра спрачаліся пілы
І ўсцяж пад марознай зарой
Валіліся сосны і піхты
На землях паўночных шырот.

**2**

Яны начавалі ў старожцы...
Накінуўшы цёплы кажух,
Ішоў ён па мяккай дарожцы,
З галін атрасаючы пух.

У лес, пад кашлатыя хвоі,
Як добра ісці аднаму,
У мужным, у ціхім спакоі
Суровую бачыць зіму.

Усё нерухома і нема.
Ён свісне — прысядуць кусты...
І рэха расце, як паэма
Шчаслівай яго паўнаты.

Глядзелі тады ў захапленні
І ў дружным здзіўленні сябры
На поўныя шышак кішэні,
На шапку ў смале і кары,

Калі ён прыйшоў у старожку,
Кажух каля грубкі паслаў,
Махоркі ў казіную ножку
Насыпаў і грэцца пачаў.

Ён край неабдымны нядаўна
Адчуў за сябе і за ўсіх.
Сябрам усміхаўся ён слаўна
І шышак падкідваў сухіх,—

Хай дровы ярчэй разгарацца!..
Хай добрыя рукі сяброў,
Грубыя ад сцюжы і працы,
Да полымя цягнуцца зноў.

*1930—1936 гг.*

## ПА ПЕСНЮ, ПА СОНЦА

Краіна, ты чуеш мой заклік, мой голас,
Поўны, як спелыя сонцы суніц,
Ён рос, калі йшла ты разутай і голай,
Бадзяўся ў лясах і пужаў суніц...
Ты йшла,
ты спявала,
ты мерала мілі,
Цябе руйнавалі, цябе клялі
Англійскія лорды, паэты, каралі,
Дажджы твае сінія косці мылі,
А ты змагалася, ты не зважала...
І пад выцвіўшым небам у шэры колер
Аралі, сеялі, касілі, жалі
Старыя людзі Клімы, Міколы —
Апошнія сілы клалі свае,
Коней тваіх кармілі аўсом
І слухалі гармат далёкія перакаты;
І бачна было, як гарэлі хаты,
Як дзесьці далёка пайшла вайна.
І зналі яны, што жыццё ім здрадзіць,
Што ім не пабачыць новы свет,
Што смерць падкрадаецца да іхняй сям'і,
Як да берагу рэчкі ўвечары сом,—
І рушыцца жыццё іх, як не адна сасна
Рушылася, ўсім целам страсянуўшы
разам,
На гнілыя карэнні сваёй зямлі...
Сівыя сведкі часоў прыгону,
Сведкі забытай турэцкай вайны

Аралі твае здратаваныя гоні,
Хлебам кармілі тваіх армейцаў...
Праўда, краіна, і яны
Былі таксама твае сыны?
Дык адвядзі ім пачэснае месца
Ў кнігах, што пішуцца пра вайну,
Ў кнігах пра нашую перамогу
Песню складзі пра іх не адну,
Так адзначаючы іх дарогу!
За дрэннае слова, за здраду, за помсту —
Куляй адказвала, адказвала смерцю,
Арміяй штыкоў блішчэла твая постаць,
Імчалася тысячаногім смерчам...
Ішлі твае сыны, маладыя, свежыя,
Ішлі і неслі на штыках перамогу.
Паўставалі гарады новымі вежамі,
Адзначаючы іх баявую дарогу.
І вецер блукаў па дарогах не дрэнны,
І вецер пяскамі замятаў палкі,
І вецер атручваў вочы газамі,
І вецер крычаў ў завадскія сірэны,
І вецер у бой заклікаў штыкі
І з імі хадзіў у атакі разам...
Ішла ты праз вогнішчы, праз руіны,
Дзе многа смерці, дзе многа слёз,—
Плакалі бабулі па ўнуках і ўнучках,
Па ўнуках — з чырвонаю зоркай на шлеме,
Па ўнучках, што біліся за краіну,
За існаванне палёў і бяроз,
За радасць зямлі і шырокіх пушчаў,
За шэлест яе яравой саломы,
За працоўныя вечары і ранні...
Плакалі маткі, як сыны ваявалі —
Хадзілі са стрэльбамі па асінніку.
Слёзы іхнія былі горкімі,
Каціліся яны па зморшчках шчок,

Падалі яны, як дожджыку кроплі;
Валасы маткі на сабе вырывалі,
Праглядзелі шляхі, далягляды сінія
І шукалі сыноў сваіх за ўзгоркамі…
Краіна — гэта пакуты дачок,
Рукі якіх прапахлі укропам,
Рукі якіх прапахлі травой,
Рукі якіх малаком прапацелі,
Гэта слёзы тваіх дачок…
Слёзы былі ад шчырага гора…
Чулі яны громкі голас твой,
Смерці тваёй яны не хацелі,
Не праклінаалі твой громкі крок,
А ў слёзах табе не было дакору…

Ты чуеш, краіна, мой голас,
Поўны, як спелыя сонцы суніц,—
Голас людзей новага прызыву,
Што прыйшлі да цябе на работу.
Ён рос, калі йшла ты разутай і голай,
Бадзяўся ў лясах і пужаў сініц,
Звінеў па лясах, па садах тваіх зычна,
А зараз ён славіць ударную роту!..
І так я іду да цябе не на службу,
А ў слаўныя шэрагі сініх блуз,
У кнігах адзначу я нашу дружбу,
У песнях адзначу я наш саюз…
Скажаш: — Ідзі!..
І я буду ісці!..
Вера твая ў маім целе…
Пагрукаеш ты ў аконца
І скажаш: — Па песню, па сонца!..
Дарога палотны пад ногі сцеле.
І я іду па сонца, па песню
І мэту тваю здзейсню!..
*1930 г.*

**Усе мы**
**сонечнае заўтра**
**песцілі,**
**А яно сягоння**
**скаланула**
**вёску й горад.**
**Сустракайце ж**
**маладымі песнямі,**
**Любіце яго так,**
**як любілі ўчора.**

## БАЛОТА

Вы ўяўляеце,
  што такое балота? —
Трава ў рост чалавека,
Вада...
  Потым травяная парода,
Што завецца торфам адвеку.
На балоце
  туманы
    сцюдзёнасцю праймаюць,
Уздымаюцца палотнамі
    перад сонцам нізкім,
Ваўкі
  жыць чалавека
    сюды не прымаюць,
Дзікія качкі
      не знаюцца
      ні з кім...
Гэта балота...
  Але людзі ёсць таксама,
Гэтыя людзі —
  сапраўдныя лесуны,

З імі я рос і пазнаёміўся сам...
І я знаю — разумеюць яны,
што жыць можна лепей,
А не так — у балоце,
ў лесе...
Але разам з тым
ім шкада
балацянога лепету,
Звыкніся, зжыліся,
і яно ў вочы не лезе.

Але новае ўрываецца
з ячэйкай камсамольскай,
З маладым пакаленнем
гальштука чырвонага;
Яно дабіваецца самохаць волі,
Законы балацяныя
вон гоніць.

І ў 1929 годзе
было так:
Мы, камсамольцы, сказалі:
— Годзе! —
І з рыдлёўкамі
пайшлі на балота.

Пасля
за намі следам,
Як па чэрвеньскай рані,
плавалі балачыны,
Прыйшлі былыя камбедаўцы
І працавалі да начы...
Працавалі не адзін дзень,
Працавалі тыдзень,
другі.

Прыходзілі
ночы і зоры
на нас глядзець,
Прыходзіла стома,
грубая,
як дзяруга...
Вечарамі жартавалі, гутарылі.
Тады вогнішча
разгаралася
і гасла.
Там
Упершыню
з’яднаным гуртам
Мы з камбедаўцамі
вырашылі
стварыць калгас.

*1931 г*

## ПЕРШАЯ СТРЭЧА
## З ТРАКТАРЫСТАМ АНІСАМ

Прынімайце
сённяшняе новае
да сэрца
блізка,
Любіце яго так,
як любілі ўчора,—
Стане вам зразумелай мая гаворка
І стрэча з трактарыстам Анісам.
...З-за саду трактар вырваўся раптам,
Страсянуўшы былы маёнтак-дачу.
Угледзеўшы мяне,
Аніс
сцішае трактар,
Усміхаецца...
І я крычу яму:
— Бачу!
І гэтае «бачу» —
звычайнае слова,
Нахлынула...
І ўспаміны ляцяць строма:
Балота,
звон рыдлёвак
І грубая,
як дзяруга,
стома.
Два гады я не быў тут ні разу
(Цэлая вечнасць — два гады),
Таму і таварыш Аніс мне рады,

Таму і мяне ўсхаваляваЛі
трактаравы сляды.
Таму ўскакваю на трактар непрасёмшы...
Ад гулу дрыжаць у маёнтку вокны.
Трактарыст Аніс
мне расказвае
пра ўсё,
Ён дужы, як мядзведзь,
загарэлы
і потны.
Голас яго, як басовы звон...
Ад радасці,
ад вады,
ад ёмкага ветру
Ён гаворыць мудрае слова:
— Во! —
Кулаком рассякаючы паветра.
Ён мне расказвае, як цётка Вольга,
Угледзеўшы,
як трактар
ладзіць
«рэвалюцыйны паход»,
Бегла навуш па заўголлю
Збіраць на сяле бабскі «сход».
Тады крычала на ўсе вуліцы,
Захліпаючыся ад бегатні
да слёз:
— А мае ж вы татулечкі,
Схапіў маю палоску і панёс!

*1931 г*

## «ПЕРШАБЫТНЫ ЧАЛАВЕК»

У тым гаі жыў апошні нехацімец,
Яго дапякала Вольга, седзячы на плоце.
— А не забіў цябе, Сяменька, радзімец,
Чаго ты сядзіш у гэтым балоце!
Яму крыўдна за такія словы,
І ён кажа: — Дапякае кажны...

Кугакалі ў гаі совы
І лёталі кажаны.
Ківалі верхавіннем высокія вольхі.
Іх балота ўзрасціла.
Ён развітваецца з цёткай Вольгай
І ідзе да сваёй хаціны.
Там ён адразае з вольхі лавец,
Раскладае вогнішча —
жарыць сала.
Гэта і ёсць —
«першабытны чалавек»,
Такая клічка да яго прыстала.
Гай яго шумам глушыць,
Совы, кажаны не даюць быту,
І жыве ён сярод
асакі, гнілушак,
Гэты галетнік —
чалавек першабытны.
Я не першы раз заходжу
пагутарыць,
падзівіцца.
Сягоння вецер сціх у макушках.

Ён спявае:
«Як пайшла ж Мар’яніца
А ў млын па муку».
Пасля,
як змоўкла песня ў сіняй стыні,
Ён гаворыць...
А ўжо спявалі пеўні.
Позна.
— Быў я на Украіне,
Многа там песень даўніх, розных...
Праспяваўшы песню не адну,
Калі затухла вогнішча,
рассеяўся дым,
Ён кажа навіну:
— Запішуся ў саўгас.
Ваш калгас яшчэ малады.
Я маўчу. І ён кажа далей,
Зірнуўшы на хатку незвычайную:
— Хацеў я наладзіць сваё,
каб не залежаць,
Ды толькі цяпер не такі,
новы час...

*

На дарогах лесавых,
дзе вавёркі
арэхі лушчаць,
Прыслухоўваючыся,
як па-новаму
жывуць пожні,
Сярод мёртвага цвету гнілушак
Дажываў
«першабытны чалавек»
апошні.

*1931 г.*

## ТАВАРЫШ АЛЕСЬ

Расціла цыпкі
          рыжая
          балот руда...
Туды,
        дзе лес
                    тугу збярог,
Яго берасцяная клікала труба,
І статкі йшлі, узняўшы пыл з дарог.
Усё суровае,
          без проспы —
І пройме вецер,
    і дождж не сціхне...
 Там шлях яго
          праз лес
          праходзіў просты.
Па тым шляху прыйшла задума,
                                        ціхасць.
Ён ведае у лесе ўсё да рэшты.
Мы з ім адно — па дружбе, па крыві,

Мы ходзім з ім да рэчкі
І ставім пераметы ў вір.
Яго цікавіць ўсё,
      нат зорка Марс.
І я ж такі дзівак, такія мы...
Асвятляе вогнішча задумных нас,
 І мы слухаем —
      ідуць самы.

Самовы вочы ніжуць цемру вод,
І кажа ён:
«Самы глядзяць на зоры...»
Чакае перамёт,
Стаяць кусты лазовыя дазорам.
...Калі ж
калатнецца лес,
апошнім лістам
Злавіўшы сонца
ранішнюю зару,
Ён ідзе вудзіць «апартуністаў» —
Закідаць лёску
на бесядную быйстру.
Тады пачынае ён
з рыбай размаўляць,
А я тым часам
рагатаць
да болю
буду.
Гэты ў яго — «апартуніст»,
той — «сімулянт» —
Той,
Каторы не бярэцца на вуду.

*1931 г*

## НА ЎБОРЦЫ СЕНА

Дождж прашумеў на пачатак,
Узыходзіла сонца ў сотні вясёлак...
Цэлы дзень быў узятак,
І працавалі пчолы.
З песнямі мы ішлі праз Цыкуны,
З намі сенаграбілкі,
        брыгадзір
        і табельшчык...
Прыпякло сонца.
        Зацвыркалі цвыркуны.
І мы ўзяліся за граблі.
Учарашняе сена падсохла ладна.
І калі пачалася тая спякота,
Дзесяць чалавек —
        наша брыгада —
Ударна клалі копы.
Мы не за страх —
        за сваё рабілі,
У кожным сэрцы — малады запал,
Не спраўляліся сенаграбілкі,
Кожная хвіліна — капа.
Смяюцца хлопцы:
        — На сто адсоткаў! —
Сарочкі скідаем,
        каб цела загарэла...
Звініць галава ад цвыркуноў, ад сонца.
Ёмка кладзецца бярэма за бярэмам.
Калі сонца стала ніжэй дубоў,
Калі апошні высах пот,

Якраз калі мы збіраліся дамоў,
Налічыў табельшчык пяцьсот коп.

*

А там,
сярод маленькіх
бярозак, елак,
Дзе лес сягоння ціхі такі,
Аж валіліся калгасныя пчолы
Ад мёду на ляткі.
Там без куродыму і сеткі
Даглядаў пчол цэлы дзень
Той, каго любяць дзеці,—
Такі белы-белы дзед.

*1931 г.*

## НА ЛУЗЕ ЎНАЧЫ

Тое ж самае вогнішча,
І дыміць сасновы хвораст...
Вечаровы позні час.
Няма ні суму, ні хворасці.
Такі здаровы пах сена,
І Алесь глядзіць на зоркавы блакіт...
Сябрамі здаюцца сосен цені,
Што ўцякаюць
ад вогнішчавай рукі.

Заўсёды бывае так весела,
І такі ж на сэрцы спакой,
Калі ты ведаеш, што ты ўвесь
Тут не чужы чалавек — свой.
Заходзіла сонца ў лесе
І сягоння на пагоду.

Мы вартаўнікамі з Алесем:
Вартуем сена ад шкоды.
Пасталі копы ў рост сосен,
І расце наша дарога дум...
Кажа Алесь,
што хутка восень
І як тады вербы гудуць.
Я яго слухаць буду,
І ён сказаць не праміне,
Што сёлета пячы бульбу

Будзе адзін,
без мяне.
Калі ж на палі, прадымленыя газай,
Прывезлі трактарысты
сталёвы скрогат,
Знікла наша рамантыка разам
І рамантычная дум дарога.
Не такія мы казалі словы…
І вось яно
прыйшло на шляхі —
Наша
агульнае,
галоўнае,
І ўрэзала ў зямлю лемяхі.

Здавалася, што мы ў нечым вінны…
Агонь апошні хвораст знішчыў,
І попел, як пух савіны,
На рамантычным вогнішчы ўсплыў.

І тады Алесь пытае гэтак,
Зірнуўшы на новыя сонцы зямлі:
— Ці праўду пісалі газеты,
Што мы ўступілі
ў Сацыялізм?

Запаліўшы ў палях
электрычныя сонцы,
У адказ,
што гэта праўда —
не мана,
Гулі і гулі трактару бясконца,
І ўздымалася
плугамі цаліна.

*1931 г.*

## СУСТРАКАЙЦЕ МАЛАДЫМІ ПЕСНЯМІ

Усе мы
сонечнае заўтра
песцілі,
А яно сягоння
скаланула
вёску й горад.
Сустракайце ж маладымі песнямі,
Любіце яго так,
як любілі ўчора!
І якраз цяпер
перад вамі
У сваёй хадзе штодзённай
Прайшлі сённяшняга кавалкі —
Яго жыццё будзённае.
Яно ў сэрцы выспела сілай,
Уквечана словам шчырым,
Яно
шуміць ласкава,
як калгасная канюшына,
І разгортваецца,
як трактар,
шырака...
Кіньце
дачу,
зялёныя бярозы, вольхі...
Мне ўсміхаецца Аніс ветла...
Гэтыя людзі:
Анісы, Алесі, Вольгі —
Жывыя, блізкія, свае.

— Памятаеш, Алесь, лясы ціхія,
Як пад дажджамі моклі калісь,
Як мы разам
на балоце
расцілі цыпкі
І нас берасцяныя трубы клікалі?
Усё гэта ў сэрцы выспела сілай
І ўквечана словам шчырым,
яно шуміць ласкава,
як калгасная канюшына,
І разгортваецца,
як трактар,
шырака.
...Не спявайце
пра сум
світальных рос.
Кіньце паэтычныя гульні!..
Роспач
і сум танны
не рос
На нашых шляхах агульных.
Прынімаю
сённяшняе новае
да сэрца блізка,
Я яго люблю,
як любіў учора,
Няхай яно
словам-маланкай
бліскае
І працінае наскрозь
сэрца
ворага!

*1931 г*

## САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТ

Яшчэ не растаяў пах сігар,
у попелцы гас агарак,
Калі падышоў да стала качагар
і вытрас дым качагарак.
— На сухоты хварэе мой меншы брат,
і дзеці калеюць у хаце...
Падняўся з крэсла прафбюракрат,
прапанаваў: — Сядайце!
— Сягоння ў працы адмовілі мне,
і я дачакаўся галоднай кары...
— Як толькі пракляты крызіс міне
і Таварыства прадасць тавары...
Наступіць эпоха вялікіх мар...

І прафбюракрату казаў качагар:
— У бацькавай хаце быў той жа холад,
скрыпела пад тымі ж вятрамі хата,
Як выпраўлялі мы ў паход
старэйшага майго брата.
Ён прайшоў дванаццаць расійскіх рэк,
сам кіраваў батальённым боем,
Дзесяць рускіх рабочых засек,
і вы яго звалі героем.

Але праз год ён казаў: — Салдаты!
Расійскі паўстаў салдат!
Здрадзілі нам сацыял-дэмакраты!..
Садзіцца ў крэсла прафбюракрат
і доўга глядзіць у справы:

— Ў астрозе згніе твой старэйшы брат —
ён вораг нашай дзяржавы...
— Сястра мая за грахі чые
заклікае начных гасцей?
Тупыя галодныя вочы яе
за чорную смерць чарней!
З голаду пухнуць дзеці мае,
я дваццаць год працаваў
качагарам!

— Як толькі праклятвы крызіс міне
і Таварыства прадасць тавары...
Наступіць эпоха вялікіх мар...
Падняўся з крэсла стары качагар:
— Ты нам не прароч рай,
Веры не будзе табе, сабакар!
Мы пачынаем штрайк!

*1932 г.*

## ХАЎТУРЫ

I

Суседа на могілкі вёз трунар
і горыч адчуў нутром:
Сухі, як вобла, нябожчык шкляр
ляжыць за яго гарбом.
Малодшага сына калоціць страх,
старэйшы сцяў кулакі —
Шырокі ляжыць перад імі шлях,
і можна ісці ў жабракі.
Вясна ў шалёным прыпары,
і хмара дождж валачэ...
Дачка старэйшая ў трауры,
ёй сонца вочы пячэ...
Малодшая нясе ружы,
і ружай расцвіў яе твар.
— Не рушце яе! Не рушце! —
шэпча гарбун-трунар.—
Малодшы, ты зложыш косці —
худы ты і лёгкі, як пух;
Старэйшы, ты пойдзеш у госці
да брудных партовых шлюх...
І ты, што ў трауры, слухай,
ты бацькаўшчыну праклянеш!
Ты станеш партовай шлюхай,
шчаслівай не станеш але ж!
І тут нічога не зробіш —
такі наш пракляты лёс.
Ад самай страшнай хваробы

згніе да касці твой нос!
З табой начаваць будзе кожны:
буржуй, валацуга, поп;
У мех зашнуруюць кожаны,
травой зарасце твой троп.
А ты, малодшая, з ружай,
суседа майго дачка,
Ты вырасцеш, будзеш дужай
і дзецям дасі малака.
На костках сястры і брата
ты крызіс переажывеш,
Ты будзеш гуляць багата.
па рэках, па вышках веж.

А я прыхільнік другога,
кажу трунару: «Вар'ят!
Рабочых дзяцей дарога
іначай ідзе акурат!
Ці справа ў адным толькі хлебе,
які дабываюць з траў?
А ты раскажы ім лепей,
каго ты ўчора хаваў!»

**2**

Якраз перад золкам учора
(сказ пачынай такі)
Хавалі свайго рабкора
чырвоныя франтавікі.
У лесе глухім магіла
прымала яго труну;
Дванаццаць маўзераў біла,
бор будзіла ад сну.
Пасля ўрачыстага бою
слова браў камандзір:

— Развітваемся з табою
і сыплем на дошкі жвір...
Хаваем цябе мы самі
і грозны спяваем гімн,
Цябе мы апаясалі
чырвоным сцягам тваім!
Імя тваё не забыта —
зрабіў ты справу сваю!
Знайшлі мы цябе забітага
у няроўным баю...
Фермерскі бык паласаты
лізаў на грудзях тваіх кроў,
Глядзеў на нашыя хаты
і доўга, працягла роў.
І вось мы ладзім хаўтуры,
схіляем сцягі над труной;
Мы ўсе палацы і турмы
і цэрквы зруйнуем з зямлёй!
Мы ж нашым бацькам абяцалі
зямлі перайначыць лёс,
Мы ж сэрцы кладзём на шалі,
на шалі тугі і слёз!

*1932 г.*

## ТАБУНЫ

У водах раннім
Вырысам вясны
Адлюстраваны
Людзі, табуны.

Скрозь па вірах
Не адшукаць зімы —
Вядуць свой шлях
Не крыгі, а самы.

Чуваць, як тупа,
Нібы пад дажджом,
Аб корань дуба
Конь б’е капытом.

Ты ж прыгадай
Сябе парабчуком:
Быў месяц май,
У белых вішнях дом.

Ты вёў стаеннікаў
За павады
Пад ношай венікаў
Каля вады.

Ты вострым плугам
Рэзаў дзірваны,
Насіў з дзяругі
Шытыя штаны.

Тугу насіў ты
Полем хутарскім
І сярод сытых
Мары меў аб тым,

Як лепш каровам
Дагадзіць чужым —
Ці добрым словам,
Ці дубцом крывым.

Дзень сёння ясны.
Сонца рэкі п’е.
Табун калгасны
Капытамі б’е.

Вільготнасць хмары
Чуе конскі нюх,
Грымот удары
Лічыш ты, канюх!

Успамінаеш ты
Дваццаты год,
Як, рана ўстаўшы, вы ішлі на ўсход
З сястрою жыта жаць гаспадару.
На ўзлессі дзяцел гулка дзёўб кару.
Ваш гаспадар услед за вамі вёў
Уланаў карны ўзвод да балатоў.
Там мірна спалі на старых імхах
Між купін партызаны.
Доўгі шлях,
Ад хутара да першае сасны,
Прайшла твая сястра...
Там спяць сыны
Тых матак, што ад панскіх бізуноў
Загінулі, не выдаўшы сыноў.
Што крыкнуць ім? Як папярэдзіць іх?

Уланы блізка. Бор зусім прыціх,
Змаўкаюць дробных птушак галасы,—
Яна пракукавала тры разы...
І ўчула злосны шэпт гаспадара:
— Зязюлі ў нас кукуюць да Пятра,
А ўжо жніво, сястрыца!..
У бары
Ты ўбачыў, як з драўлянай кабуры
Выцягваў маўзер афіцэр:
— Пся крэў!..
І падала на мяккі мох між дрэў
Твая сястра.
Далёка за сялом
Плыла зара,
Гарматны чуўся гром.

Зноў сонца. Песням
Сёння ўвысь расці,
На тым узлессі
Табуны пасці.

Дзяўчына, ўстанем,
Пройдзем белы сад,
Тут ходзіць раннем
Па расе твой брат.

Багатым стаў
Твой брат гаспадаром —
Табун прыгнаў,
Каб падкарміць аўсом;

Каб конь дзябёлым,
Цягавітым быў,
На дзіва сёлам
Аж да трох рабіў;

Каб у прыпар рос
Ураджай густы,
Ў пяцьсот гектараў
Аж гулі жыты;

Каб конь пад хмарай
У часы пагроз
На шляху — карай —
Шаблю смерці нёс!

*1934 г*

## ТАВАРЫШУ, ЯКІ ПЕРАМОГ СМЕРЦЬ

Пытаўся ты ў дарог зямлі,
У рэк, зірнуўшы ўніз:
Як смерць перамагчы, калі
Твой парашут павіс
І чатырохматорны птах
Нёс на хвасце сваім
Праз хмары, праз дажджы, праз жах
Цябе, з жыццём тваім?

Зірні:
зніжаюцца сябры,
Вятрам наперакор.
Іх парашутам, што ўгары,
Далоні дол прасцёр.
Там сёння свята. Там парад.
Не месца там — жальбе.
Там аташэ замежны рад
Паспачуваць табе.
Яму ўяўляецца рубеж
Трывожны для людзей,
Калі ты знічкай прамільгнеш
І не збярэш касцей...
І што... як знічку, не знайсці
Пасля ў бары глухім,

Пры спуску на парашуце парашутыст Марозаў выпадкова зачапіўся за хвост самалёта. Машына ішла з хуткасцю 240 кіламетраў у гадзіну. У такім становішчы Марозаў правісеў на парашуце 20 хвілін. Калі лётчыкі падалі яму вяроўку, ён змог абвязаць сябе ёю і выратавацца *(З газет)*.

Ні ў багавінні, ні ў трысці
Цябе з жыццём тваім.
І што нідзе не адшукаць
Слядоў тваіх, і што
Цябе сырой зямлі аддаць
Не здолее ніхто.
Дарэмны жаль!.. Хай паліць кроў
Твою не смерць, а злосць,
На жаль, што выказаць гатоў
Услых замежны госць.

Далёка там, дзе цені хмар,
Дзе ўсцяж стаяць пасты,
Дзяўчыны сумны бачу твар —
Яе кахаеш ты.
Яшчэ на плошчы бачу я
Сакратара ЦК,
У барацьбе за хлеб чыя
цябе вяла рука.
Па чыстых рэках, па вадзе
К табе вышэй дубоў
Хай падымаецца, ідзе
І дойдзе іх любоў!

Над пушчаю і над вадой
Машына робіць круг,
Яе вядзе начальнік твой
І твой старэйшы друг.
(Маленства. Лес. Галіны дрэў
У восеньскай расе.
Ты чуеш маці сумны спеў —
Яна грыбы нясе,
Ёй перабег дарогу ліс...)
Не! То вятры гудуць,
То сон... Табе з кабіны ўніз
Вяроўку падаюць.

Глухім імхом но парасцеш
На ясенях старых
І не загінеш, не памрэш
Ты між сяброў сваіх.
І ўжо спакойна ўніз глядзіш
На выгібы дарог,
На прадзедаў курган, на крыж,
Бо смерць ты перамог.

*1934 г.*

## З ДЗЁННІКА БРЫГАДЗІРА

### I

Учора прыехала ў госці
На лета дзяўчына ў калгас.
Адзначыў я на бяросце
На дрэве месяц і час.

Такі ўжо дзівак я! Блукаю
Па лесе адзін на зары.
Дзяўчыны імя выразаю
Сцізорыкам на кары.

Такі ўжо дзівак я! Мне добра
Стаяць і глядзець на раку,
Смяяцца і прозвішча —
Корба
Вырэзваць нажом на кійку.

Дзівак я! Дзівак я! Мне дваццаць,
Мне трэба кахаць і рабіць.
Наліма ў пячорах намацаць,
Над возерам качку забіць!

І доўга ж табе будзе сніцца,
Як рыбы праходзяць праз вір,
Як спеюць у пушчах суніцы,
Як жыта расце,
брыгадзір!

## II

Каня запрагаю ў калёсы,
Дугу закладаю ў гужы,
Вязу і сярпы я, і косы,
І граблі ў свой стан на Сажы.

Сястра ў маю кайстру паклала
Вячэру і полудзень — там
Кавалак гарачага сала
І хлеба якраз кілаграм.

У нас сенакос, і брыгада
Даўно ўжо чакае мяне,
Хістаецца цень мой у лядах,
І голуб турчыць на сасне.

Мінаю яры, ясакары,
Гудзе і гудзе авадзень;
Па грэчках вільготных,
па хмарах
Пазнаю я заўтрашні дзень.

На травах густых раніцою
У поплаве подых расы,
Над заваддзю, над вадою
І рэха,
І рух касы!

## III

І кменам, і смажанай рыбай,
І ветрам падула з гары,
Адтуль,
дзе пад сонечнай ліпай
Канчаюць пліту печкуры.

Праз двор, на гару, кулінары
Чыгунныя коцяць катлы —
Іх крамнік прывёз.
                                        На папары
За хатай пасуцца валы.

Катлы наліваюць. Даярка
Кладзе смаляныя карчы
У печку — гарэць будуць ярка
Яны пад плітою ўначы.

Пяску замясіўшы і гліны,
Правесіўшы роўна шнуры,
Апошнія ў сценку цагліны
Замазалі печкуры...

І самі здзівіліся:
— Бровар,
Хоць ты самагонку гані!
Частуе іх рыбаю повар,
І я ім пішу працадні.

IV

Ад рэчкі іду і стругаю
У граблі бярозавы клец.
— А я цябе, Павел, шукаю! —
Мяне аклікае хлапец.

Тлумачыць:
— Асіна крывая
У лузе расце на пясках.
Цябе там дзяўчына чакае,
Начальніка Корбы дачка.

Усе камсамольцы гулянку
Пайшлі туды ладзіць. І ты

Бяры ў майго бацькі бярданку
І Мірту і лезь у кусты!

Як рыбіна, трапіўшы ў нерат,
З глыбокага, цёмнага дна
Імкнецца на волю і ўперад,
Так ёкае сэрца:
«Яна!»
Яна? Я не ведаю. Толькі
Убачылі вочы мае
Адзін раз дзяўчыну, а колькі
Гаворкі было пра яе!

V

Асіна крывая!
Пад ёю
Разросся дзядоўнік і мох,
А там, за высокай травою,
Паселі яны ўдзевяцёх.

У стрэльбы свае забіваюць
Дранкулі, каб звера глушыць,
Вясёлую песню спяваюць
У рыбнай, птушынай глушы.

То шыбка іду, то паціху —
Я краем абходжу багну,
Нясу сваю стрэльбу і кнігу
«Паднятую цаліну».

Яе мы ў брыгадзе чытаем
У вольныя дні і часы,
На стане,
за рэчкай, за гаем,
Дзе спеюць жыты і аўсы.

А торба вісіць за плячамі,
А трубіць за лесам труба,
А сонца стаіць за дубамі,
І заўтра пачнецца касьба!

## ПОСПЕХ

У рабочыя цэнтры
Хлеб адгэтуль вязуць цягнікі,
Сала тлустага цэнтнеры,
Лён і сушаныя баравікі.

Багацее мясцовасць —
Мне пад вокны прыносяць сады
Спелых вішань барвовасць,
Кошык ягадаў, яблык пуды.

Каб уславіць іх, выйду
Пад вясёлкавыя абручы,
Зноў у глыб краявіду
Плёск язёў у сабе несучы.

Гэта тут аднастайны
Перайначвалі людзі пейзаж —
Працавалі камбайны,
Трактары пакідалі гараж...

На кулацкім папары
Маладога сядлалі каня,
У маўклівыя фары
Пазірала палёў шырыня.

Гэта тут участковы
Землямеры рабілі абход
І зямлю за дубровай
Разбівалі пад севазварот.

Поспех іхняй работы,
Гэтай праўды лірычная плынь
П’е дажджы і грымоты,
Прагне жыць, дасягае вышынь!

## ПАД ВІЛЬГОТНЫМІ КРОПЛЯМІ

Пад вільготнымі кроплямі
І лістамі аслепнуць сычы,
І пад мутнымі вокнамі
Раніцой расцвітуць касачы.

Тройчы зменіць аблічча
Залатое, блакітнае карп,
Псарня не заскавыча,
Гаспадарскі пільнуючы скарб...

Тут на нас неаднойчы
Клык тачыла аб клык ягамосць,
Гонар маючы воўчы
І сталыпінскай годнасці косць.

Ланцугі хутарскія
Рагаталі на рэбрах сабак,
Ратавалі ад кія
І ад кайстры, як прыйдзе жабрак.

Закапанае золата
У гліняным спявала б гаршку,
Хлеб, гадамі не молаты,
На вільготным прарос бы таку.

І надоўга сабачай
Тут хапіла б грызні і выцця,
Парабкоўскага плачу,
Галасістых хаўтур і жыцця.

Але з гулам і скрогатам
Адмыкаюцца коўраты хмар,
Енкам, плачам і рогатам
Сваё кодла кляне гаспадар.

Ён не жыта, не грошы,
А іх душы хаваў у зямлі.
Закапанае збожжа
У арэшніку ўчора знайшлі.

Не гусінаму крыку,
А людскому ён шаблю бярог,
Мыў расянаю вікай
І вастрыў аб каменны парог.

З ім ідуць канваіры —
Ўсё былыя яго парабкі,
І, як медныя гіры,
У кішэнях нясуць кулакі.

Золак, сонцам абмыты,
Здаўся жудасным гаспадару,
Як агністыя сіты,
Хмары зябкую цэдзяць зару.

Ціхі, нібы раздзеты,
Ён брыдзе пад світальным агнём,
Дзе ўсе птушкі — паэты
І ўсхвалёваны будучым днём.

Дзе праходзяць падзеі
Нараджэнняў вялікіх і мук,
Дзе ніводнай надзеі
Не пакінецца потым яму...

Дзе суровыя людзі,
Што цяпер пад канвоем вядуць,
Будуць вокуняў вудзіць,
Слухаць радыё, плавіць руду,

Плыць па розных кірунках,
Вывучаць тарфяныя пласты,
Будаваць на чыгунках
Праз шырокія рэкі масты...

Лётаць на парашутах,
Узыходзіць на горы, на снег,
Каб не жыць у пакутах,
Раз уславіўшы радасць і смех!

*1935 г.*

## НА ШТУРМ АПОШНІ!

П’ю дарагое сонца і цяпло
Той будучыні, што да вас ідзе,
Што залатое ўскінула вясло
Каля калгаснай хаты на вадзе...

За будучыню б гэту тройчы я
Пад Ільескасам з мёртвых уваскрос.
Іспанія! Іспанія мая!
Тваю б зямлю я на далонях нёс...

Тваю ваду, дыханне яе рыб,
Яшчэ па кроплі мёду ад пчалы
Я нёс бы ў сэрцы тых, што пачалі
Гнаць ідала з яго старых сядзіб.

Пакінуў ідал замак на зары,
Яго імчаў на захад тарантас,
Услед яму:
— Не забывайце нас!..—
Крычалі новыя гаспадары,
Збіваючы з іржавых агарож
У панскіх кузнях выкуты замок;
...Маліўся на сякеру і на нож,
Сваё гняздо пакінуўшы, яздок.

Не пану заспяваюць салаўі
І не яго маслінавым гаям,—
Сякерай будзе высякаць гаі,
Нажамі рэзаць глоткі салаўям...

Мае браты, таварышы, сябры!
Іспанія мая! З табою мы.
У крэпасці дамы пературвары,
Каб ты не знала чорнае турмы,
Каб не кіпелі горкімі слязьмі
Сервантэса раманы на кастры...

На штурм, на штурм апошні, змагары!

*1936 г.*

## ЧАРАЎНІЦА

Зацвіла чаромха.
                    Мала
Днём мы бачымся з табой.
Ты мяне прычаравала,
Як гавораць — варажбой.

Ты мяне сустрэнеш ветла —
Рад я сонцу,
              рад вясне.
Стане лёгка, стане светла
Быць з табою побач мне.

На гару ўзыходжу сцежкай,
Пад сабой не чую ног,
Так прайшоў бы я
                    з усмешкай
Можа тысячу дарог.

Ну, а ты? Каму вядома?..
Толькі раз былі ў кіно.
Я ўсю ноч праседзеў дома,
Пазіраючы ў акно.

Другам ты мяне назвала.
Кніжку я чытаць вазьму,
Разгарну — запомню мала,
Нават брыдка самаму.

Я не ведаў, што другога,
Не мяне,
кахала ты.
Здаў залікі. Зноў дарога,
Зноў зялёныя жыты.

— Мне даўно,— сказала цвёрда,—
Падабаецца другі.
Ладна,
я хлапец не горды,
Пасумую год, другі...

Вы паедзеце ў палаткі —
Добрых зычу лагероў!
Ну, а я? —
без перасадкі —
На канікулы дамоў.

Маці там чакае сына
У калгасе раніцой.
Вось і станцыя.
Машына,
Мусіць, наша,
Шофер свой.

Да яго ў кабінку сяду,
Раскажу ўсё дружбаку,
Будзе пыл клубіцца ззаду
На знаёмым бальшаку.

*1937—1938 гг.*

## ДРУЖБА

Сажнем, лентаю мерым
Мы палі, сенажаць.
Так магу землямерам
Неўзабаве я стаць.

Нават больш, не адбіцца
Нам ад чутак адных:
Ты — нявеста як быццам,
Я ж — як быццам жаніх.

Мы ішлі — пагалоскі
Следам беглі ў ляскі...
Нам прывозілі з вёскі
З гонкіх сосен слупкі.

Мы агонь раскладалі,
Мы абпальвалі іх,
Каб навечна стаялі
У капцах межавых.

Вось адбіта мяжа ўся —
Аглядаем удвох,
Вось табе я прызнаўся —
Не прызнацца не мог.

Ты ўздыхнула глыбока,
Ты махнула рукой,

Ты сказала:
— Далёка
Мілёначак мой!

Значыць, век не забыць нам
Ні пясок залаты,
Ні капцы ў спелым жыце —
Дружбы нашай сляды.

*1938 г.*

## ПЕСНЯ ЛІСТАНОСЦА

Даспявае маліна
У зялёным садку;
Ходзіць красна дзяўчына
Адна па цяньку.

Весялейшых гулянак
Чакае даўно...
Заўтра ў саменькі ранак
Пастучуся ў акно.

Павітацца з смуглянкай
Смелых слоў не знайду;
Ліст аддам, бразну клямкай,
За вароты пайду.

Вось прыходжу другі раз,
Ліст нясмела нясу;
Усміхаешся шчыра,
Заплятаеш касу.

Трэцім разам — чакала
Ціхіх крокаў маіх;
За каліткай дагнала,
Цалавала пры ўсіх.

Ёсць за садам дарога —
Не адна ходзіш ты,
А з хлапцом,
Ад якога
Я прыносіў лісты.

*1938 г.*

## ЗА ДВАІХ

Вучыліся з ім, выбягалі з ім
Вясну гукаць на бальшак;
Праз колькі чэрвеняў,
Колькі зім
Не верыцца ў смерць ніяк.

Я ў госці іду. З палявых работ
Вяртаюцца браты.
Дзве зоркі над пожняй нясе самалёт
Чаму гэта не ты?

Хаджу па гулкіх гумнах тваіх,
Прыехаўшы здалёк;
Снапы падаюць мне з вазоў залатых,
Снапы аднашу я на ток;
За што б ні ўзяўся я,
За дваіх
Мне трэба рабіць, браток.

*1938 г.*

## МАЛАДОСЦЬ

Я за трактарам калісьці бег,
Кінуўшы ў агонь вярцёл і сала;
Ты да ціхіх саламяных стрэх
З гулам пад'язджала.

Я ўпрыгожваў з дзеўчынай сваёй
Перад святам арку дзеразою;
Ззяла ты вясёлкавай дугой
Над калгаснай аркай, над страхою.

На таку ўмалот свой залаты
Вымяралі мы паўнюткім мехам;
Адгукалася па хатах ты
Пераможным рэхам.

Я цябе, жаданую, чакаў,
Сустракаў без крыўды, без трывогі,
Жоўценькім пясочкам пасыпаў
У прысадах летнія дарогі.

Па дарогах тых, па сцежках тых,
Па якіх ішла сяброў сям'я ўся,
Нёс цябе між даляў дарагіх
І натхнёна плакаў і смяяўся.

Шлю падзяку вёснам і сябрам,
Жытнім копам на шырокім полі...
Маладосць! — я ўсё табе аддам,
Не сыду з дарог тваіх ніколі.

*1938 г.*

# КАЛЯ САМАЙ ГРАНІЦЫ

## I

На кватэру настаўніка Данілы Пятровіча ў зімовую завейную ноч прыходзяць незнаёмыя людзі. Настаўнік і яго вучань Ігнат Давера зразумелі, што гэта парушальнікі граніцы.

Вось парай ахутана хата,
Дзве постаці, два кажухі...
Настаўнік глядзіць на Ігната,
Ігнат на яго: «Чужакі?!.»
За стол па-начальніцку селі,
Падсунулі лямпу бліжэй
І просяць з суседняй арцелі
Каня напытаць ім хутчэй.
Даніла Пятровіч сурова
Людзей сустракае чужых.
— Адкуль вы? Куды вы? І хто вы? —
Асобай цікавіцца іх.
Дзьме холад сухі, папяровы
З партфеляў старых скураных;
Снег тае ў старонках законаў,
Размякла балансу графа...
І сведчаць пячаці раёна:
Па часці зямельнай — Сямёнаў,
Па часці грашовай — Сафонаў,
Інструктар райза і райфа.
Настаўнік начальству такому
Спяшае патрапіць у тон:
— Вы, мусіць, са сходу?
— Вядома...

— А ехаць далёка?
— Ў раён.
За вокнамі сціхла завея.
Ігнат апранае кажух,
Начальства — ён сам разумее —
Ягоных чакае паслуг.
Хіба я маленькі? Сляпы я?
На сходзе, гавораць, былі:
Няйначай, дзяды ім сівыя
Ў партфелі — мяхі скураныя —
Барадамі снег намялі.
Начальства з дарогі. Змаглося...
Зазнала цяжкі яно шлях:
Паўзло ад мяжы па снягах...
І, пэўна, яму давялося
Партфелі трымаць у зубах.
— Сходзі за падводай, Ігнаце,—
Гаворыць хлапцу гаспадар.

Давера выходзіць. У хаце
Гасцінна шуміць самавар.
Пры хатнім сядзяць самавары
Інструктар райфа і райза,
На светлыя іх акуляры
Ад пары кладзецца раса.
Са шклянак паны-ягамосці
П'юць чай пасля цяжкіх прыгод.
І ўдзячна ўсміхаюцца госці:
«Даверлівы рускі народ».
Пра іх гаспадар з весялосці
Падумаў: «Зіма за акном...
Хай, нечага, кволыя косці
Мужыцкім прапараць чайком.
Іх справа, відаць, заняпала...
Заходніх дарог махляры
Сваіх самазванцаў, бывала,

Маскве падсылалі ў цары.
А сёння праз нашы кардоны,
Ахранак надзея й краса,
Паўзе самазванец раённы —
Інструктар райфа і райза.
Збяднела суседка-дзяржава,
Здрабнеў, абанкруціўся ўрад —
Яе самазваная слава
На блізкі ідзе заняпад...»

Настаўнік у добрым гуморы,
Начальству ўсміхаецца ён,
Выносіць з далёкай каморы
Забыты стары грамафон.
Ён рад, што начальства за чаем
Таксама ў гуморы...
— Для вас,
Дазвольце... пласцінку сыграем
«На сопках Маньчжурыі»... вальс.

Чакаючы весткі з кардона,
З панамі дзяржавы чужой
Сядзіць гаспадар грамафона
Пад шэрай бляшанай трубой.
Нялёгка яму ўспамінаці
Пад песню юнацкія дні:
Сярод местачковае знаці
Ён жыў без сям'і, без радні.
Хто быў ён? — настаўнік вясковы.
Што знаў ён? — урадніцкі бот.
Што помніць? — у вечар вясновы
Апошнія жончыны словы,
Памерла яна ад сухот.
На сопках Маньчжурыі дзікай
Сном вечным спіць царскі салдат,
Чужынец радзімы вялікай —

Данілы Пятровіча брат.
І сам ён — салдат катаваны,
І чуў, як гарматы гулі,
Як глуха звінелі кайданы
Калоднікаў рускай зямлі.

Да школы з паўночным візітам
Старое начальства прыйшло,
Два цені адбіткам забытым,
Тупым, задаволеным, сытым
Кладуцца на сцены, на шкло.
Начальства вось гэтае ўчора
Дзяліла свае барышы,
Сівога шаўца ці шахцёра
Душыла ў турэмнай цішы…
А сёння іх скончана слава.
Пад месяца ясным святлом
Трывожна: застава… застава…
Гудуць правады за акном.
Над полем цярушыцца іней
З марозных дратоў уначы,
Па светлай Савецкай краіне
Трывогу сваю несучы.

Замоўк грамафон. Пад санямі
Рыпяць палазы ў цішыні.
Давера Ігнат за гасцямі
Прыехаў з сяла на кані.
Халодны над школаю месяц —
Палярны вакол яго круг,
Па гэтай зімовай прыкмеце
Чакае народ завірух.
Па роўнаму сіняму полю,
Дзе белыя ўзлессі відны,
Увайшоўшы ў патрэбную ролю,
Замежныя едуць чыны.

У санях шырокіх Даверы,
На сене з арцельных лугоў
Задумаўся чын аб кар’еры:
Вось ён... падшывае паперы
Адказных службовых сталоў.
Чын выб’ецца ў людзі... і нізкі
Адважыць паклон яму Русь,—
Так думае Вінцусь Даўбніцкі —
Інструктар Сафонаў Пятрусь.
Пад месяца ўсмешкаю яснай
Сафонаў-Даўбніцкі ўзіму
Вязе для жывёлы калгаснай
У чорным партфелі чуму.
Тры коннікі напагатове
На ўзлессі чакаюць, стаяць,
Пад сінім святлом у дуброве
Спакойна клінкі зіхацяць.

А ну, ці не час вам, панове,
З шырокіх саней вылязаць!

Галовы ўбіраючы ў плечы,
Пад ціхай пагрозай ляза
Байцам аддаюць свае рэчы
«Інструктар райфа і райза».

## 2

У калгаснага вартаўніка Кліма Даверы быў забіты парушальнікамі граніцы сын — Ігнат. Праз нейкі час у госці да Кліма Даверы прыйшлі школьныя таварышы яго сына — Піліп і Наташа.

Тым часам вярнуліся з поля
І Кліма Даверы сыны.
Даўно ўжо чакае застолле

Гасцей дарагіх на бліны.
Ідуць даўгажданыя госці,
Жаданыя — ён і яна.
Ім Клім да парога падносіць
Дзве поўныя шклянкі віна.
— За ваша здароўе.
— За ваша...
Дзве шклянкі стаяць на стале.
Распытвае ў Кліма Наташа
Пра першы ўмалот на сяле.
За хатнім сталом палілася
Бяседа — ды ўсё не аб тым...
Пра сёлетні год у калгасе
Спакойна расказвае Клім.
Пад гоман іх мірнай вячэры,
Ігната Даверы спакой
Ахоўвае зорка з фанеры
Над жоўтай магільнай зямлёй.
Між сосен гарыць, як жывая,
Яе не забудзе Піліп:
І ў памяці ярка ўсплывае
Трохрадкі на досвітку ўсхліп.
Ён бачыць:
І школьную ліпу,
І цень ад яе за акном,
І чуецца глуха Піліпу
Гул бубна за родным сялом.
Ён шэпча:
— Ігнаце, Ігнаце...
Былі мы з табою сябры...
І ціха зрабілася ў хаце.
Закашляўся бацька стары...
Ён сына забітага думу
Дадумаў начамі ўжо сам,
На варце ўраджаю, без суму,
Што сёння дарue сябрам.

Канчаецца позна вячэра.
На хату выходзяць сыны.
Здымае іх бацька-Давера
Бярданку сваю са сцяны.
Абмацвае Клім патранташы —
Яму ўжо на варту пара.
Пасцель для сяброўкі-Наташы
Ігната Даверы сястра
У сенцах паслала.
А госцю —
Калёсы з травой на двары.
Спі крэпка, дышы прыгажосцю
Зор спелых, буйных угары.

Пайшла на брыгадную сходку
З братамі Даверы сястра.
І дрэмле Піліп
Пад ляскотку
Калгаснага вартаўніка.
Далёка, за гумнамі недзе,
Ён лік азяродам вядзе
І знае — хто пожнямі едзе,
Хто сцежкай дадому ідзе.
Адказнасць яго немалая,
Багата пад вартай дабра.
Святлом маладзік залівае
Яго бараду з серабра.

*1937—1938 гг.*

## ПРАКОП

Ён спаў, як брыгада
Ішла на работу
(Зрабіў сабе свята
Пракоп у суботу).

— А што за прычына? —
Пытае праўленне.
— З граніцы ад сына
Прыйшло запрашэнне...

Ён ранен.
Да хворага
Мне б адпрасіцца.
Мне пішуць: ён ворага
Гнаў ад граніцы...

Па цёмным балоце,
Дзе шэры лішайнік,
Дзе след у чароце
Забыў парушальнік.

Не выказаць словам,
Што дзеецца ў свеце...
Прынёс я пісьмо вам,
Чытайце, суседзі!

Пісьмо па парадку
Уголас чыталі.

З ліпнёвага ўзятку
Мядку накаталі.

Памалу, патроху
Збіралі гасцінна
Пракопа ў дарогу,
У госці да сына.

Ён браў, як належа,
І кайстру з сабою,
І коску з застрэшша,
І пляшку з вадою.

Прыехаў.
Для хворага
Радасць якая!

З Пракопам у бор яго
Доктар пускае.
Увечары з сынам
Над возерам сінім
Пад хвояй сядзелі,
На качак глядзелі.

— Ляціць яна, во яна!
Нас не баіцца...
— Іх біць не дазволена —
Блізка граніца.
Страляць па іх
Лічым
Мы забаўкай смешнай;
Удоваль нам дзічы
Хапае замежнай...

Купалася качка,
І вечар быў свежы.

У вольны дзень бацька
Пабыў на манежы.
Махалі направа,
Налева клінкамі;

Мецъ справу цікава
Пракопу з байцамі.
Паслухаў,
Як неба
Звінела ад свісту,
Пабачыў, як трэба
Страляць па фашысту.

Дамоў ад'язджаў ён,
Далі яму боты
З майстэрні дзяржаўнай —
Трывалай работы.

Дадому ён едзе
З узгорка на ўзгорак:
Кіламетраў дзесяць,
Кіламетраў сорак.

Расце канюшына —
Ён лапік адкосіць,
Бо конь не машына
І есці папросіць.

І конь пад дугою
Не ведае стомы.
Ідзе пехатою
Дзядок незнаёмы.

Час вольны. Дзень добры.
Жаданая стрэча...
— Дзень добры!..

— Дзень добры!
— Сядай, чалавеча!

Вятрак пры дарозе
Адлічвае хвілі;
Ў дзве люлькі на возе
Сябры задымілі.

У добрым настроі
І прыязнь жывая —
Пра сына-героя
Пракоп разважае.

Вось так ён,
Заставу
Наведаўшы, едзе.

Народную славу
Развозіць па свеце.

Мне чуць давялося
Пракопа гаворку,
Сядзець з ім на возе,
Курыць з ім махорку.

*1938 г.*

## БАРАНАЎ ВАСІЛЬ

### I

Васіль пакідае заставу,
Знікае з сябрамі ўначы
Выконваць будзённую справу —
Радзіму сваю берагчы.
Валёнкі, падбітыя скурай,
І ціха і цёпла рыпяць...

Бацькі пад зімовай віхурай
Дзяцей закалыхваюць спаць.

Ён іхні наказ чалавечы
У сцюжу нясе, у зіму.
І цёплую шубу на плечы
Надзела Радзіма яму.

Цяпер у яго за плячыма
Увесь яе скарб дарагі —
Ад хваляў паўдзённага Крыма
Да нетраў паўночнай тайгі.

Марозная ноч. У дазоры
Ў засадзе Баранаў Васіль.
Аслеплі маньчжурскія зоры,
І нанач зацьмілася сінь.
Вісяць туманы над граніцай,
Скрозь шэрую гэту імглу
Да сыпкіх снягоў не прабіцца
Халоднага неба святлу.

Пад гэтым святлом пазаўчора
На ўзводзе трымаў ён курок...
І, раненых кінуўшы, вораг
Крывёй захлынуўся і ўцёк.
Сягоння ж чакалі нядарам
Няўдалых налётчыкаў зноў,—
Адпомсціцца хітрым ударам
На досвітку вораг прыйшоў.
З драпежнаю мэтай і прагай,
Крадком перапоўзшы кардон,
З бяспрыкладнай лезе адвагай
На сорак байцоў батальён.
Напад, калатнінай і тлумам
Лясныя ўзбудзіўшы шляхі,
Пяхотным змяняецца штурмам,
І лезуць штыхі на штыхі.
Агнём кулямётным прыкрыты,
Ідзе за атрадам атрад,
З патайнай засады адбіты
Баранавым тройчы напад.

Ён ранен. Апошняй гранатай
Чацвёрты адкінут напад,
Атакі чакаючы пятай,
Баец азірнуўся назад.

Яго акружылі. Да хвоі
Спіной прысланіўся:
«Канец...»
І доўга ад вострае зброі
Штыхом адбіваўся баец.
Здалося:
Па хвоях скакалі
Вавёркі — малыя звяркі,
Барадамі сумна хісталі

З уральскіх калгасаў дзядзькі.
Адгэтуль далёка да дому...
Там спіць пад ільдамі рака.
Ён іхняга шчасця нікому
Ні грана не дасць, ні вяршка.

**2**

Ужо адкаціў кулямёты
Да самай мяжы батальён,
Адходзяць квантунскія роты
З ахвярай сваёй за кардон.
Суровыя выюць мяцелі,
Далёкая плача зямля,
Нясуць на японскім шынелі
К заставе чужой Васіля.
Не чуў — ці баляць яго раны,
Ці сцішыліся яны;
Віхураю закалыханы,
Ён сніў непрытомныя сны.
І сніў ён сяброў па заставе,
Нібыта, як некалі, зноў
Ён з імі ляжыць на атаве,
Прыехаўшы ў госці дамоў.
І смажыць яечню ім маці,
На стол падае каравай,
Абходзяць яны сенажаці,
Увесь яго радасны край.
Наведацца кожнае хаты
Байцоў заклікаюць дзядзькі,
Скакаць запрашаюць дзяўчаты,
На рыбу завуць рыбакі.
Нарэшце ён бачыць на ганку
Дзяўчыну.
Чакае яна.
Ужо маладзік на гулянку

З-за цёмнага выплыў гумна.
З байцамі сядзяць на бярвенні
Дзяўчаты, хлапцы, хлапчукі.
І вось яны разам,
Два цені
Кранаюцца срэбнай ракі.
Другія таксама кахалі
І шлюб неадкладны ўзялі.
— А вы ж як? — выпытваюць хвалі.—
А ваша вяселле калі?
Мяцелі ўжо сціхлі. Дарогі
Ляжаць ад Радзімы ў палон,
І нізкага месяца рогі
Святлом заліваюць кардон.
Як блізка яму, як далёка
Да родных, знаёмых мясцін!
На сэрца так цяжка, так лёгка
Кладзецца і сон і ўспамін.
Суровыя сціхлі мяцелі,
Далёкая плача зямля.
Нясуць на японскім шынелі
К заставе чужой Васіля.

## 3

Панеслі ад роднай краіны,
Ад роднай заставы ў зіму.
Ён ведаў, што з гэтай хвіліны
Жыццё не патрэбна яму.
Хай сцены прысутныя ўспомняць!
Маўчаў ён. Пытаўся ў яго
З квантунскага штаба японец
І дробненька тупаў нагой.
А пан перакладчык, з выдатных,
З наёмных сямёнаўскіх банд,
Такі ж нецярпліва-дакладны

І злосны рабіў пераклад.
Пыталіся:
Дзе на граніцы,
Схаваныя ў сопках якіх,
Гарматы глядзяць у байніцы
На варце абшараў сваіх?
Схаваны ў якія зямлянкі,
Каб загадзя рушыцца ў бой,
Савецкія хуткія танкі,
Што ломяць гушчары сабой?
Схаваны ў якія ангары
І дружна ў час небяспек
Ляцяць самалёты пад хмары,
Зніжаюцца смела да рэк?
Прыходзілі тройчы. Пыталі
Удвух, але ўсё пра адно.
У крэслах сядзелі.
Чакалі
Ці так пазіралі ў акно.
Тады ён прыўзняўся. Дарога
Ішла за слупы, за мяжу,
Радзіма чакала...
— Нічога,
Нічога я вам не скажу!..

4

Квантунскі чыноўнік ласкава
Даводзіў яму і сцвярджаў,
Што іх дарагая дзяржава —
Мацнейшая ў свеце з дзяржаў.
Яна яму стане радзімай,
Найлепшай радзімай з радзім,
Дасць працу, адорыць грашыма
І памятаць будзе аб ім.
Зямлі ён купіць сабе зможа

І жыць каля цёплых марэй
З японскай дзяўчынай прыгожай,
Хай толькі раскажа хутчэй...
Жывуць жа тут рускія людзі,
Ды як яшчэ, пане ты мой!
І ён перакладчыку ў грудзі
Пастукаў, як доктар:
— Герой!

Героі, аднак, змізарнелі,
Бо ўсё-такі, як ні кажы,
Раней яны фабрыку мелі
Па той бок маньчжурскай мяжы.
Але адбыліся падзеі,
Змянілася ўлада
І ўрад,
І не засталося надзеі,
Хоць пеша, патрапіць назад.
Змяніўся і выгляд іх хлёсткі,
Слухмяна віляюць хвастом,
Японскай чакаючы косткі
Пад бедным маньчжурскім сталом.

Так думаў Васіль.
І ад стравы
Адмовіўся з гэтай начы.
Далёка ад роднай заставы,
Не еўшы, ён сох, не сплючы.
Ні шчасця чужога, ні волі —
Няволі зазнаў ён турму.
Паны-перакладчыкі солі
Насыпалі ў раны яму.
Васіль не сказаў ім нічога.
Маўчаў ад зары да зары.
І розум да сэрца жывога
Упарта звяртаўся:

— Памры...
Яны яго білі за гэта,
І ён не хацеў ім сказаць,
Узброена як і адзета
Яго пагранічная часць.
Стаяць у вадзе прымушалі.
Ён думаў:
Калісьці яны
Сібірскіх дзядоў катавалі
У дні грамадзянскай вайны.
Дзядоў тых смяротныя раны
Адчуў ён: пад сэрцам гараць.
Іх справе, іх клятве адданы,
Баранаў пачаў паміраць.

5

Кароткі, халодны, як жаба,
Сядзіць за зялёным сталом
Чыноўнік квантунскага штаба
І рыпае вечным пяром.
Вачэй яго позірк парожні —
Апухлі яны, заплылі...
Салдаты на допыт апошні
К яму Васіля прывялі.
Ён глянуў. З паперамі папку
У шафу замкнуў за сталом,
Напяў аблавухую шапку
І выйшаў на двор з Васілём.
Разутага вывеў на ганак,
Каб родную ўбачыў зямлю.
Тайга заінела. Быў ранак.
— Ты вольны!..— сказаў Васілю.

Радзіма!
Ён кінуўся, босы,
У нетры густыя, дзе век
Ні сані не йшлі, ні калёсы
І лыжы не гнаў чалавек.
Ляцеў па выбоінах колкіх,
Аж снег пад нагамі гарэў,
У леташніх хвойных іголках
Здранцвеўшыя пальцы ён грэў.
У радасным, стомленым звоне
Прасілася сэрца дамоў.
Радзіма!
Твой сын не ў палоне,
Ён вольны, ён радасны зноў.
Святлом сваіх цёплых усмешак
Ты шлях пракладаеш яму,
І матчыны рукі да сцежак
Ты сыну прасцерла свайму.
І хутка, як роднага, прымуць
Яго на заставе байцы,
І вушы старожкія ўскінуць
На стрэл паляўнічы зайцы.
Упаў. Да заставы так блізка.
Пад хвояй сінелі снягі.
Над ім нахіляліся нізка
Галіны суровай тайгі.
Здалося: па хвоях скакалі
Вавёркі — малыя звяркі,
Барадамі сумна хісталі
З уральскіх калгасаў дзядзькі.
Адгэтуль далёка да дому...
Там спіць пад ільдамі рака.
Ён іхняга шчасця нікому
Ні грана не даў, ні вяршка.

Памёр у японскім палоне
Вялікай Радзімы герой.
Апошняю марай сваёй
Ён быў сярод нас на кардоне.
Чужая за вокнамі сінь...
Стаяць яго каты з трывогай.
Хоць сумна, але з перамогай
Загінуў Баранаў Васіль.
Мы ж памяць героя ўшануем
І справай і песняй, сябры,
І помнік яму пабудуем
З гранітнай уральскай гары.

*1937—1940 гг.*

З надзеяй гляджу
на крыніцу спатканую,
Хачу, каб яна
разлілася ракой...
Не Волгай магутнай,
Не нават Камаю,
Хоць Бесяддзю,
што на радзіме маёй.

## ВОБЛАКА

Уткнуўшы ў бераг вудзільно,
Я вуджу раніцою.
А воблака? Плыве яно
І небам і вадою.

Нарэшце клюнула разок —
І рыбка немалая! —
З пяром гусіным паплавок
Пад воблака нырае.

Стаіў дыханне. Цішыня...
Убок рукой умелай
Я падсякаю галаўня,
Цягну з хмарынкі белай.

Вада ў кругах,
Вада ў кругах
І неба ў ёй не тое...
А воблака? Яно ў руках
Трапечацца жывое.

*1937—1939 гг.*

## ЕЛЬНІК

У кожнага з нас
Ножык —
Адменнага ляза,
У кожнага з нас
Кошык —
Крынічная лаза.

Па ельніку мы кружым,
Ці ёсць баравікі?
Мы іх у печцы сушым
І ніжам на шнуркі.

Нясём удвух у свята
Да крамніка здаваць;
Насушана багата —
Рублёў на дваццаць пяць.

Рублі — дарослым.
Дробязь
Кладзём сабе ў кішэнь;
Сялом — усе так робяць! —
Красуем цэлы дзень.

Чаго захочам —
Купім.
Здаволены сабой.
Імчым між пнёў, між купін.
Куды? — у ельнік свой.

На мох пасеўшы ў засень,
У ельнічку густым

Цыгаркай
«Сценька Разін»,
Як сталыя, дымім.

Над намі звісла веццe,
Пад намі —
Мураўі,
У неба дым віецца —
Два тонкіх ручаі.

За дымам думкі следам
Плывуць —
Мая, твая…
Ты марыш быць паэтам,
Быць трактарыстам — я.

Над ельнікам імглістым
Плыве за годам год.
Стаў друг мой трактарыстам,
А я? —
Наадварот.

Праз вёсны, леты, зімы
На роднай цаліне
Я чую гул любімы…
— Працуй там за мяне.

Паўз ельнік ён праедзе,
Па дружбаку ўздыхне…
Верш трапіцца ў газеце:
— Пішы там за мяне.

Мы вершы з ім напішам,
Зямлю дагледзім з ім,
Адным дымком падышам
І ельнікам адным.

*Люты 1939 г.*

## КАРУСЕЛЬ

Бальшаком, на край зямлі і неба,
Я ўсю ночку цёмную ішоў,
Даганяў і абганяў, дзе трэба,
З лубкамі і сітамі дзядзькоў.

Ёсць на свеце роднае мястэчка,
Там штогод бываюць кірмашы;
Міма школы меленькая рэчка
Без мяне адна плыве ў цішы.

Мне дакор яе далёкі, звонкі
У забытым чуецца трысці.
Заўтра кірмашовы дзень.
У жонкі
На дзень адпрасіўся:
— Адпусці.

У сяброў па школе даўні звычай —
На кірмаш сысціся,
Пагуляць...
І на каруселі маляўнічай
Разам адкружыць хвілінак пяць.

Кожны мае дружбака такога,
Захавана ў сэрцы да якога
Прыязні даўнейшай цеплыня.
Кірмашовы дзень,
Гарачыня.

Вось у кірмашовы б дзень выходны
З ім ці з ёй зайсці ў куток выгодны
(Ёсць такія на зямлі куткі) —
Раз у сем гадоў павіць вянкі.

Пачуццё былое да дзяўчынкі
Нёс і я.
І тут яе сустрэў.
Між густых аглобляў, як між дрэў,
Я іду на аганёк касынкі.

А дзяўчына лузганцы кусае
І таксама некага шукае,
І ў вачах блукае неспакой,
І крычу я радасна:
— Пастой!

Мы адны з ёй. З нашых — больш нікога.
Той жа рып гармоняў, бубнаў гром.
Тая ж з кірмаша пад гай дарога.
— Што ж, пайшлі?
— Пайшлі...
І мы ідзём.

Сем гадоў не бачыліся — раз,
Замуж выйшла,
Добра ладзіш з мужам;
Дзе ж ты, карусель? За ўсё адкружым,
Як усё кружылася за нас.

Добры дзень, знаёмыя мясціны,
Карусель,
Крылатая душа!..
Гай шумлівы, гоман кірмаша,
Печанага хлеба водар кмінны.

*Люты 1939 г.*

## ШЭРШНІ

Мы хадзілі некалі сюды
Насыпаць у кайстры жалуды.
Потым ты сядзела пад дуплом
Гаспадыняй,
Я — гаспадаром.
Жалудоў дзве кайстры —
Твой пасаг...
Гралі шэршні-майстры
На басах.
Пад равеснікам суровых
Продкаў
Чай пілі мы з жалудовых
Сподкаў.
А цяпер? Мінуўся гульняў час,
Сподкі замалыя ўжо для нас,
А дупло для нас зацесны дом:
Цёмна ў ім,
Не свеціць ён агнём.
Мы з табою хітрымі былі,
Раскідалі попел па зямлі,
Пахавалі сподачкі ў траве,
Хто цяпер у доме тым жыве?
Мусіць, шэршні там звілі гняздо
І гудуць, гудуць. Я знаю хто.
То гудзе мой сум. Ён сёння злосны,
Ён ляціць.
(Заходзіць сонца ў сосны).
Злосны ён ад нашых стрэч, ад згадак.
Вечарэе.

Полем крочыць статак.
Сум ляціць. А па вачах яму
Б’е трава высокая, касая;
Ён бадаецца, кароў кусае.
Як і мне, і ім маркотна:
— Му…

*Ліпень 1939 г.*

## НА СОТАЙ ВЯРСЦЕ

Ля Поплава лазню
Таплю ад паўдня;
Ля Поплава злазіць
Дзяўчынка з каня.

На вольхах даўгі
Калыхаецца цень.
Прысела. Шляхі
Затамілі за дзень.

Сто вёрст адскакала
Пякельных, як вар,
Сто вёрст загарала —
Нябёсы без хмар.

— Дазволіш,— смяецца,—
Папарыцца мне?..
Ты ж banшчык, здаецца?
Адказваю:
— Не.

Я так — летуценнік,
У бацькі ў гасцях,
Бярозавы венік
Трымаю ў руках.

Пяю табе славу,
Духмяны лісток,
Ты жаркую паву
Прыбавіў здалёк.

Яна маладая
І я — малады.
Размова такая:
— Адкуль вы?
Куды?..

Кароткая стрэча
На сотай вярсце.
З маланкай пад вечар
Хмарынка расце,

Спяшае наехаць,
Нахлынуць на нас;
Развітвацца — нехаць,
А трэба, а час.

З трывогай на хмарку
Глядзім, а маглі б
Ісці з ёй да парку —
Да школьных да ліп.

Конь пасвіўся б сыта
У лузе, а мы б
Пад самае жыта
Пабегчы маглі б.

Пасеўшы ў зацішша,
Вязалі пражмо б,
А сонца ўсё ніжай
І ніжай ішло б.

У хвалі прымала б
Яго збажына...
Куды ж паскакала
Так рана адна?

Касынкай-зарой
З жытніх бліснула хваль.
Як сэрца за ёй
Парываецца ўдаль!

Эх, коні-стаеннікі,
Пыл за сялом...
Духмяныя венікі,
Чэрвеньскі гром!

*Люты 1939 г.*

# МЛЫН

З дзеўчынай развітваўся юнак,
Аддаваў яе шляхам, далінам.
— Лепш бы млынам стаць...—
Падумаў так,
І зрабіўся на тым месцы млынам.
Людзі жыта носяць дзень у дзень,
А драўляны млын слухмяна меле.
Замест сэрца — б'юцца жорны ў целе,
А замест крыві —
Вады струмень...
Кажа нам паданне пра яго,
Што не можа ён з тых чараў выйсці,
Як не перамеле усяго,
Што яму належала калісьці.
Як належала яму не шмат,
Дык спадзе з яго палон драўляны,
Прыйдзе зноў ён вольны да дзяўчат,
Ні ў адну яшчэ не закаханы.
А як шмат?.. Але гадаць не след,
Бо адзін ён ведае пра тое,
Што яму належаў цэлы свет,
Як хадзіў з дзяўчынай у жытное.

*1939 г.*

## ХАТКА

У дружбакоў маіх згарэла хата,
Ім новую будуе талака.
У лесе, дзе імшарышчаў багата,
Я моху наскубу для іх кутка.

Цясляр ці з пілкай ходзіць, ці з сякерай,
Ці высякае вугал, ці акно.
Я не цясляр, хаджу з цяслярскай
меркай,
На вушакі пілую бервяно.

Старанна печкуры кладуць цагліны,
Загнетак выведуць, правесяць шнур.
Я паднясу ім і вады, і гліны,
І печку пахвалю, хоць не пячкур.

Пад новым дахам за сталы паселі
Будаўнікі, калгасныя майстры.
За ўсіх прысутных п’ю на наваселлі,
За нашу дружбу даўнюю, сябры!

Мы абняліся ўтрох, сыходзім з ганку,
Мінаем з песняй вокны — вочы хат,
Нам разам будзе
Менш чым шэсцьдзесят,
Нас кліча адвячорак на гулянку.

На ціхай сенажаці за сялом
У свежым сене нам ляжаць не колка;
Пра хатні клопат наша перапёлка
Пяе таму, хто едзе бальшаком.

Спявае мне.
Ёсць і ў мяне хацінка,
Дагэтуль не абжытая нікім.
Калі мая нясмелая дзяўчынка
У хатку зойдзе з клуначкам сваім?

Далёка недзе,
Вёрст за дзвесце, можа,
Ёй птушка вечаровая пяе
І сэрца тым жа клопатам трывожа,
Як вам і мне, таварышы мае!

У вашай хаце не сціхае гоман,
Там людзі ўсе, нібы адна сям’я.
Дыміць у небе першым дымам комін...
У вас такая ж хатка,
Як мая.

Паўз хату вашу ў поплаў ходзяць цені,
Ім трэба, мусіць, слухаць салаўя.
Ад вокнаў электрычнасць на бярвенні...
У вас такая ж хатка,
Як мая.

Заходзь жа ў хату, родная дзяўчынка,
Мой клопат тут, мой журавінны мох!
На нас,
Як пераступіш ты парог,
Вясёлым вокам гляне журавінка.

## БЮРО ДАВЕДАК

Выпускнік вясковай сямігодкі
Падышоў пад школьны ганак. Сходкі
На спякоце летняй млеюць, спяць,
Узыходзіць ён:
Ледзь-ледзь рыпяць.

Ён вучыўся тут гадоў з сямі,
Потым свет пабачыў не ў лятунках,
Тросся ў пасажырскім па чыгунках —
Адвыкаў ад школьнае сям'і.

Не адвык.
Цяпер рашае гэтак:
Ад дажджу зайдуся, ад расы,
Кінуся ва ўсе бюро даведак,
Пазнаходжу хлопцаў адрасы.

З невядомае для нас прычыны
Не з хлапцоў пачаў ён, а з дзяўчыны
Пошукі вандроўныя свае
(А для гэтага прычын стае).

Вопратка яго з дажджу дыміцца —
Ён яшчэ пад сонцам не прасох;
Шлях размыты,
На траве пясок...
Тут прайшла нядаўна навальніца.

Кій нясе.
У бакавой кішэні

Залатое вечнае пяро.
Хмар апошніх адплываюць цені.
На краю сяла стаіць бюро.

Ён бяжыць з гары,
Мінае гаці...
Там жыве тае дзяўчыны маці,
У яе даведку можна ўзяць.
А яна? Падумае, што зяць.

Цяжка дыша, адчыняе дзверы,
У руках пяро з лістком паперы —
Вось і скончыў пошукі свае...
Вось і маці.
Ён пазнаў яе.

Маці зяця кліча да стала,
Шчасця міскай поўнаю частуе,
Згадвае пра дочку дарагую,
Што ў гасцях нядоўга пабыла.

Як гасціла тут і як даўно,
І куды паехала — патроху
Маці ўсё раскажа.
У акно
Госць глядзіць на доўгую дарогу.

А назаўтра
Затапіла печ...
А яму дамоў збірацца трэба,
Толькі шкода (вось якая рэч!)
І хацінкі гэтае і неба.

А чаму — не знае сам як след.
Ён не муж дзяўчыны, не каханак.

А яна яму, як светлы ранак,
Як юнацкі непаўторны свет.

Маці за руку гасця ўзяла,
Колькі слоў сказала напаследак.
Адрас ёсць!

Дыміць бюро даведак
Пад гарою, на краю сяла

*Ліпень 1939 г.*

## МУЗЫКА

Выходзяць з хат усе.
(Чаго? — каб іх спыталі).
Максім гармонь нясе —
Яго прэміравалі.

Ідзе,
Знаёмы шлях
І шмат знаёмых згадак:
Шмат у яго руках
Перабыло трохрадак.

Юнацкія часы! —
Гармоні выпісныя,
Як срэбра — галасы…
Адна бяда —
Чужыя.

Ён марыў юнаком:
«Сваю гармонь набуду,
І першым жаніхом
На ўсю на воласць буду.

Жыць буду ў згодзе я
З вясёлаю трохрадкай —
І жонка ў нас свая,
І сіні дым над хаткай».

У шахту, у забой
Спусціўся ён глыбока;

Яна над галавой
Звініць,
Звініць далёка.

Над рэчкай да цямна
Ён забівае сваі;
Пяе,
Звініць яна,
Як салавейка ў маі.

Не мала страціў зім,
Не мала з’ездзіў свету.
Не вытрымаў Максім,
Рашыў:
Дадому еду.

Спяшаецца Максім:
І поле залатое,
І воблака над ім...
Адна бяда —
Чужое.

Спяшаецца сялом,
Дзяўчына сустракае
І не з пустым вядром...
Адна бяда —
Чужая.

Так з марай юнака,
Без музыкі,
Без жонкі
Дажыў да сарака
І сеў на трактар гонкі.

І даўніх меж няма —
Працуйце, калі ласка!..

І музыка? — сама
Прыйшла —
Не сон, не казка.

Ідзе ён. Гарманіст
Заняў яму дарогу:
— Дай глянуць, трактарыст,
Дай страданўць
Хоць троху!

І гарманіст-мастак
Іграць спрабуе ўсяк;
Гармонік —
Як належа,
Гармонік —
Сэрца рэжа.
— Свой узамен даю.
Прадай!..
— Не прадаю.

*

Зірне зары прамень —
Ён замыкае хату.
Працуе цэлы дзень —
Дымок плыве з-за саду.

Пад вокны падбяжыць
Дзяўчынка маладая:
Вісіць гармонь?
Вісіць.
Калі ж яна зайграе?

І засумуе:
«Нам
Не чуць яе ні разу».

Максім — не грае сам,
Няма, гаворыць, часу.

Купіць? —
Не прадае;
Маўчыць гармонь Максіма
І жалю задае,
І ўсе праходзяць міма.

І гарманіст ідзе
І, нібы ненарокам,
Па вокнах павядзе
Зайздросным,
Злосным вокам.

Ён не глядзець гатоў,
Сябе самога лае:
«Няхай хоць сто гадоў
Вісіць,
Бяда малая!»

А што Максім?
Як след
І сам яшчэ не знае —
Прыносіла абед
Дзяўчынка маладая.

Прыйшла сюды з сяла,
Адзета, як на свята,
Жартуючы, звяла —
Сама смяецца,
Рада.
Здалёк мігціць яму
Знаёмая касынка —
Як сумна аднаму...
Прапаў,
Прапаў Максімка!

Надыдзе вечар.
Сон
Хіліць яго не будзе:
Гармонік возьме ён
І выйдзе з ім у людзі.

Ён пойдзе ўздоўж прысад,
Ад шчасця нецвярозы.
Як дваццаць год назад,
Зашалясцяць бярозы:
«Максіму —
Дваццаць пяць,
Ён —
Гарманіст любімы».

Не станем дакараць —
Мы ўсе крыху Максімы.

Ён ходзіць па расе,
Між топкіх крочыць купін,
І хлопцы па чарзе
Б’юць горда ў гулкі бубен.

І я з ім сябраваў,
І я спяваў «Дасаду»,
І ў бубен падбіваў,
І танцаваў да ўпаду.

*1939 г.*

## ГЛУШЦЫ

І вось сяджу адзін,
Як сталы, на кані,
І вось
Вязу на млын
Людскія працадні.

Амаль шаснаццаць год
Я маю за спіной,
І мне даверыў сход
Управіцца з мукой.

Хоць гонару зашмат,
Настрой, папраўдзе,
Дрэнь...
Я еду.
Сам не рад.
Выходны заўтра дзень.

Выходны дзень, браткі,
І не абы-які,
Па лесе нацянькі
Я бег бы ў дзень такі.

Нас клікалі б глушцы,
І нас туман,
Хлапцы,
Ахутваў бы, як дым...
А хто са мной?
Максім.

(Калісьці пра яго
Расказвалася вам.)
Максіма аднаго
Я кідаю,
А сам…

Далёка ехаць?
Не…
Змалоць за сёння б льга,
Ды, мусіць, на млыне
На тры вярсты чарга.

Ужо глушцоў ніяк
Не давядзецца біць.
І еду так.
І так
Не знаю, што рабіць.

Слухмянага каня
Не падганяю:
«Но!..»
К Максіму еду я
Паціху пад акно.

Знаёмы
Позні дым
Ідзе ў блакіт з трубы —
Печ запаліў Максім,
Прыйшоўшы з малацьбы.

Дзве стрэльбы
(Сняць гушчар)
Сумуюць у кутку.
Яешню гаспадар
Пячэ на камінку.

Ён засцілае стол,
Частуе ён мяне.
А я што?
Вочы ў дол...
— Дык рушым заўтра?
— Не...

Здзівіўся ён:
— Чаму?
— Здарылася бяда...—
І ўсё сказаў яму,
І ён сказаў:
— Шкада.

Я з хаты выйшаў.
Ён
Таксама сеў на воз.
І нас, маркотных, конь
Уздоўж прысад павёз.

*

З пясчаных каляін
Мы ўз'ехалі на гаць.
— Куды, хлапцы?
— На млын...
— А вы?
— Мы хлеб здаваць.

Пастараніўся конь
І прапусціў абоз.
Зноў восеньскі агонь
Ляціць на шлях з бяроз.

У жоўтых лісцях —
Плёс...

Над краем светлых фарб
У вырай жораў нёс
Птушыных песень скарб.

І вёў сяброў у сінь,
І ім відзён з вышынь
Абоз чырвоны.
Ён
Паехаў у раён.

Спытаюць журавы
У жыхароў зімы:
— Застаяцеся вы?..
— Застаямося мы.

Пашлюць прывет яны —
Хто крыллем,
Хто рукой:
— Да новае вясны!
— Сустрэнемся з вясной!

Паўз лес мы едзем.
Лес
Узлез на касагор,
Гарыць, звініць увесь
І рукі нам прасцёр.

Ад лёгкіх павуцін
Аслеплі пні, сукі.
Абапал каляін
Лішайнік —
Мох сухі.

Балота блізка!
Там
Усё знаёма нам —

І кожны цень,
І куст,
І хварасцінкі хруст.

У паляўнічы кут
Прывёў дакладны шлях.
Глушцовым пер'ем тут
І мох
І ліст прапах.

Тут і пільнуй,
Хлапец,
За цёмны стаўшы корч,
Дзе будзе твой глушэй
Садзіцца спаць на ноч.

Хай дрэмле
Ягамосць;
Ты ж кроч у свой шалаш
І, калі сала ёсць,
На пруціку засмаж.

І можаш спаць,
Браток
(Цяпельца ёсць, шалаш):
Сухіх лістоў —
Пад бок,
Пад галаву — ягтдаш.

Устань
Раней зары,
Максіма пабудзі,
Ружжо, ягдташ бяры,
На цёмны корч ідзі.

Я так бы марыў шмат
Хвілін, а мо гадзін,
Аж чую голас:
— Брат,
Паеду я адзін...

— А я?
— А ты злязай...—
Я выслухаў і злез.
Навошта? Адгадай
Хоць ты, чытач, хоць лес.

Мо я стаю затым,
Кут аглядаю наш,
Што загадаў Максім
Мне будаваць шалаш?

Не знаю:
Так ці не...
Мо іншы ёсць загад —
Па стрэльбы бегчы мне,
І я пабегчы рад?

Чытач!
На ўсё свой час —
На сум, на весялосць.

Я злез.
Надзея ў нас
На паляванне ёсць.

*

Ну, вось і млын.
Ну, вось
І месца для тугі —

Стаіць Максімаў воз,
Чакаючы чаргі.

На новую бяду,
На горшую нуду,
На большую тугу
Я да млына бягу.

Стаміўся.
Бег я шмат.
Стаяць кругі ўваччу.
— Памерла жонка, брат!
Максіму я крычу.

Дзядзькі сышліся ў круг,
Распытваюць яны.
А ён?
Нібы аглух,
Аглух ад навіны.

Нясуць Максімаў хлеб
На млын малоць яны.

А ён?
Нібы аслеп,
Аслеп ад навіны.

Дзядзькі з мяхоў даўно
Засыпалі ў каўшы.
А ён?
Маўчыць адно —
Кажы ці не кажы.

Ды й размаўляць з ім —
Грэх...
Трымае мех рука,

Цярушыцца ў той мех
І скруха, і мука.

І ўсім,
І мне відзён
Яго збялелы твар,
Як быццам ён — не ён,
А быццам ён —
Млынар.

Пасля нядоўгіх спраў
Зноў
У дарогу нам,
Ён моўчкі шапку зняў,
Падзякаваў дзядзькам.

Сказаў (і загула
Чарга ад краю ў край):
— А жонка
Як жыла,
Дык і жыве няхай.

Вясёлы ён.
Чаго?..
Бо весела было,
Бо жонкі ж у яго
Быць нават не магло.

Ён — халасцяк стары,
І ў зман дзядзькоў увёў,
І ён хацеў,
Сябры,
Са мною біць глушцоў.

І будзем біць! Дамоў
Кірую я каня:

Ні кпін,
Ні крыўдных слоў...
Здзіўленне.
Цішыня.

Маўчаць дзядзькі ў чарзе,
На нас глядзяць усе.
Нам —
Некуды глядзець,
Нам —
Недзе вочы дзець.

Адзін гаворыць:
— Сват,
Такіх не бачыў век.
Другі махае:
— Ат!..
Прапашчы чалавек.

І жораў рэжа сінь,
Ляціць над плынню рэк,
Крычыць:
— Максім... Максім,
Прапашчы чалавек.

Ад гэтага ўсяго
Я й сам
Як нежывы...
Што хочуць ад яго
Дзядзькі і журавы?

Пытаю ў птушак я
(Хоць я не адвакат):
— Крылатая сям'я,
У чым ён вінават?

* * *

Ужо з другім заручана дзяўчынка,
А я — юнак — хаджу халасцяком.

Вярнулася ў мой апусцелы дом
Дзіцячых мар таварышка — сцяжынка.
Я расказаў ёй пра сваю бяду,
Зарок даваў ёй, што з мяне даволі
Дзявочых стужак і што я ніколі
З яе пясчанай стужкі не сыду.
Я прысягаў ёй, а яна маўчала,
Наперад бег я, а яна — назад.

Тым дням, адкуль яна пачатак брала,
Прыйшоў канец у рэчышчы прысад,
Дзе, як ручай, сцяжынка палявая
Пераліласе хвалямі пяску
У сталасці шырокую раку —
Гасцінец-шлях... А ён куды ўпадае?

*1963 г.*

* * *

Лес адпалаў і чорным стаў ад страты —
Агонь з галін абсыпаўся ўначы.
Завея гоніць лісцяў абручы
Па гулкіх уладаннях аўтастрады,
Туды, дзе халады і снегапады.

Аддаўшы лета бабінага жар
Кюветам, а нябёсам — павуціны,
Бярозы голыя чакаюць хмар,
Гатовыя зарыцца ў іх пярыны
Ад бессаромных сцюж і зыркіх фар.

Дзён залатых, раскіданых па свеце,
Не шкода мне — з дарог не падбяру.
І я гатоў, як дрэў трывалых вецце,
Пераступіць яшчэ ў адну пару
Свайго жыцця, пакінуўшы ў кювеце
Прыгожую ману аб вечным леце.

*1963 г.*

* * *

Палын не трэба ні млынам, ні зводкам.
Нядолі дар, ён быў адвечным сродкам
Гаротных жней, якія ад грудзей
Гаркотаю адваджвалі дзяцей,—
Каб стаць хутчэй маглі яны на ногі,
Каб адкрывалі, з дапамогай рук,
Хат курадымных бітыя парогі...

Я з ім жыццё прайшоў — былы хлапчук —
Ад першых крокаў пад бацькоўскай лавай
Да баявых сцягоў, што мы са славай,
Не падаючы, неслі праз вайну,—
За гэта ўсё мы ўдзячны палыну!

Палын — і клопат матчын, і дарога,
І слёзы, і ўспамін сіроцкіх меж,
І горыч малака таго, якога
Ніякай смагай з вуснаў не сатрэш.

*1963 г.*

* * *

Салдатаў веку, што па грозных цэлях
Вядуць агонь з траншэй перадавых,
Ужо не забіваюць на дуэлях
Забойцы каранованыя іх.

Аб паядынку не папераджае
Іх, як калісьці, секундант маны,
Ланцуг — яго вялікасць —- іх знішчае,
Душу ад цела вее бог вайны.

Хваробай вокамгненнаю — інфарктам
Расстрэльваюць кароткае жыццё,
І незлічоных страт агульным актам
Спяшаюцца спісаць у небыццё.

Але, сярод ахвяраў незлічоных
Не спісаныя памяццю жывых,
Яны агонь вядуць па цэлях чорных
З магіл сваіх! З траншэй перадавых!

*1963 г.*

***

Завея лісцяў у сняжынак пух
Перацвітае пад маім наглядам,—
Як быццам я камандую парадам,
Спатканнем дзвюх варожых завірух,
Змаганнем снегападу з лістападам.

Як быццам я ўладар дарог і рэк,
Рэгуліроўшчык каруселі гэтай,
Як быццам не праносіў над планетай
Мяне лістком, сняжынкаю, ракетай
Праз атмасферны ціск суровы век.

Быў пылам я ў імклівым карагодзе
Гадоў, трухой і зернем на таку,
Хацеў бы век, які ўжо на зыходзе,
Забраць мяне з сабой, а я руку
Гарачую працягваю прыродзе —
З дваццатага ў трыццатае стагоддзе.

*1963 г.*

* * *

Бег цень мой на гару, каціўся з кручаў,
Ніяк не мог угнацца я за ім,
Калі ён ранак дня майго раскручваў
На палатне дарогі суравым.

А ў поўдзень мой спякотны, незваротны
Ужо кароткім крокам мераў цень
Шляхоў шыракатканыя палотны,
Жадаючы нібы прадоўжыць дзень.

Парой вячэрняй з хуткасцю абознай
Ён цягнецца так доўга ад таго,
Што не жадае на вярсце апошняй
Гаспадара пакінуць аднаго.

Маё сяброўства — цень мой пажыццёвы,
З якім прайшоў праз дым, агонь, ваду,
Якому не здраджаў, які гатовы
Са мною ўпасці там, дзе я ўпаду.

*1964 г.*

* * *

Сябры, каго вайна скасіла кулямі,
Дыханне ваша чую за спіной.
Зноў грозна, разварушанымі вуллямі,
Гудуць франты... Не ціхне вечны бой.

Зноў прыпадае з жалем Бесядзь родная
Да каранёў дуброў, да ног сяліб —
Хвалюецца, што нечысць вадародная
Даверлівых яе атруціць рыб.

Дубы глядзяцца ў глыб ракі, і кволыя
Спяшаюцца да завадзяў сады,
Каб стрэсці з плеч напалмавае полымя,
Што прагне перакінуцца сюды.

Вам цяжка дыхаць, вы ў адчаі просіце
Зямлю, каб адпусціла вас назад
На вольны свет. Я знаю, вы зайздросціце
Жывым. А ім хіба лягчэй нашмат?

*1964 г.*

## МАНАЛОГ

*Памяці паэтаў*
*З. Астапенкі і Ю. Таўбіна*

* * *

Калі і дзе, я ўдакладняць не стану
Таго, што больш не выклікае прэк,
Бесчалавечнасць выпаліла рану
На часе тым, што адышоў навек.

А забыццё, каб сцерці з нешматслоўнай
Зямлі бесчалавечную віну,
Схавала месца смерці безназоўнай
Пад дыванам, сатканым з дзірвану.

І хоць дзірван, што рану ўкрыў старанна,
Стаў палыном на мёртвай глебе той,
Не зарасла зямлі жывая рана,
А зарасла зямля яе травой.

Дзе б я ні быў, дзе б мне ні давялося
Убачыць дол сівы ад палыну,
Пякуча сэрца сціс823нецца, і лёс я
Загінуўшых без весткі памяну.

* * *

Сябры мае! Пад пустак дыванамі
Ці не абрыдла безназоўнасць вам?
Дзе дзверы, што замкнуліся за вамі?
Як вас знайсці? Якіх пытацца брам?

Маўчыць нябыт каменных пліт паважных,
Дзе з надпісаў дажджы змываюць пыл,
Там я блукаў, але імёнаў вашых
Не адшукаў на вокладках магіл.

Няма куды сваю жалобу ўскласці
Ні жонкам, ні знаёмым, ні бацькам.
Сябры мае, хіба аб гэтым шчасці
У маладосці марылася нам?

Вяло нас музы строгай блаславенне
На шлях цяжкі, ды што казаць аб тым…
Я — ваша памяць, вы — маё сумленне,
Я — дрэўка, вы — трывалы сцяг на ім.

* * *

Устоіць той, хто варт,
На старт, сябры, на старт!
*Юлі Таўбін*

Быў кожны з вас адважных стартаў варты,
Шкада, што фініш быў не вартым вас.
Па-рознаму адлегласць паміж стартам
І фінішам нам адмярае час.

Адным, хто доўга жыў, зрабіўшы мала,—
Кароткім падарожжам за труной;
Другім, хто шмат зрабіў, пражыўшы мала,—
Адлегласцю ў бяссмерце даўжынёй.

Нядоўгім быў ваш век, як век падзёнак,
Мае сябры!.. Суровы сівер змёў
Са старту вас. Вы — кнігі без старонак,
Лісты без дрэў, дарогі без слядоў.

Нялёгка мне працягам быць тых самых
Няходжаных шляхоў, быць вартым тых
Спраў абарваных, кніг недапісаных,
Якім не ўзняцца з фінішаў сваіх.

* * *

Не бачыўся я ўсё жыццё амаль
З сябрамі незабыўнымі маімі.
Зноў выклікае на размову з імі
Навекі разлучыўшая нас даль.

Каня свайго сядлаю і ў дарогу,
Цяжэйшую з усіх былых дарог,
Кіруюся адзін,— як маналог
На пошукі жывога дыялогу.

Але ці след спяшацца мне, калі
Цень падаўжэў, конь пакалечыў ногі,
І там, куды я еду, дыялогі
Спяць вечным сном, набраўшы ў рот зямлі?

Не прыпыняйся, не жахайся, слова!..
Хай адвячорак доўгім ценем лёг —
Магчыма немагчымая размова
Датуль, пакуль магчымы маналог.

* * *

Як мне сябрам паклон адважыць нізкі,
Дзе адшукаць іх захавання дол?
Ляглі маўклівым сведчаннем на стол
Адзіныя іх помнікі — дзве кніжкі.

Друкарняю адціснуты як след
На вокладках два прозвішчы і даты
Іх нараджэння новага на свет.
Два томікі, як два чырвоных святы!

Смяротнага спаборніцтва з пяром
Не вытрымаў ні штык, ні сталь рыдлёўкі,
І не змагла імгла нямой дамоўкі
Верш задушыць халодным забыццём.

Два томікі — два помнікі. З партрэтаў
Глядзяць сябры. Мы дружбе служым зноў...
Інакшых служб не трэба для паэтаў —
Ні ладана, ні жаласных прамоў.

* * *

Глядзіце без дакору і пагарды
Вы на мяне з экранаў вашых кніг,
Як кінастужак спыненыя кадры,
Гатовыя крануцца кожны міг.

На старце вы. Ад быстрае пагоні
Мне не ўцячы, а вам не перагнаць
Мае маршчыны і сівыя скроні,
Якім рукой да фінішу падаць.

Для тых, хто вас не бачыў, вы — партрэты
Адстартаваўшых год. А для мяне —
Вы назаўжды майго юнацтва леты,
Што не падставяць скроняў сівізне.

Для іншых вы — ахвяры радавыя
Крутых гадоў, бязлітасных судоў.
А для мяне — вы маршалы, якія
Камандавалі б арміямі слоў.

* * *

Так, мы — сябры па сэрцу і па зброі,
Вядомы арсенал байцоўскі наш:
Чарніла і чарніліца, пяро і
Хімічны альбо просты карандаш.

Мне нечым перад вамі ганарыцца,
Сябры!.. Адны ў нас пушчы і палі,
Засмаглымі радкамі з іх крыніц мы
Адзін і той жа халадок пілі.

Мне на жыццёвых шалях перавагі
Лёс не адважыў. Толькі ў тым яна,
Што доўгі шлях маёй няўтольнай смагі
Не абарвала ранняя труна,

Што я далей друкую крок, нібыта
Па бітым шкле — па муках, па вайне...
А ўсё, што мною знойдзена, набыта,
Належыць дружбе нашай, а не мне.

* * *

Адзіным дрэвам дружбы мы раслі.
З трох два сукі сякера смерці ссекла.
Не трапілі яны ні ў рай, ні ў пекла,
Працяг іх існавання — на зямлі.

Дагэтуль іх, нібы руку — бязрукі,
Нагу — бязногі, адчувае ствол,
Жывая верхавіна помніць мукі,
Рукой гвалтоўнай кінутых на дол.

Асуджаныя лёсам на знішчэнне,
Яны не падуладны сілам зла:
Карэнні ў дрэва ёсць апроч ствала,
Апроч карэнняў прагных ёсць насенне.

Праходзячы кругазваротны шлях,
Яно і іх вяртае ў схоў глыбокі,
Адкуль для новых дрэў карэнне сокі
Бярэ, зямлю трымаючы ў руках.

* * *

Адзін памёр ад тыфусу брушнога
За кратамі, сярод муроў сырых.
Без стужак, без вянкоў, без некралога,
З кляймом абвінавачання цяжкога,

Згубіўся ён сярод магіл глухіх.
Другі на фронт з таежнага барака
Шчасліва ўцёк. За валам агнявым
Яго салдацкі штык вяла атака,

Там ён на смерць пад прозвішчам сваім
Хадзіў і пахаваны разам з ім.
Хай згублены сляды іх захавання,
Не страчаны іх сувязі з зямлёй.

Яна для іх — не вечны супакой,
А месца пасмяротнага спаткання,
Прызначанага ў памяці маёй.
Пакуль жыву, яны жывуць са мной.

* * *

Яны ў мае наведваліся сны,
Праходзілі дарогамі былога
Адлегласць ад калыскі да труны.
Яны ў мяне на ўсё жыццё адны,
А ў іх, апроч майго радка скупога,
На ўсёй зямлі не знойдзеш больш нікога.

Як без мяне ім быць, а мне без іх?
Адна ў нас засталася на траіх
Мая дамоўка. Не хачу, каб з ёю
Засыпалі халоднаю зямлёю
Жывую памяць аб сябрах маіх.

Пакрыўджаную выракам суровым,
Яе не зацярушыць змрок сляпы,
Пакуль над захаваннем палыновым
Да іх, жывых, з непахаваным словам
Звяртацца будзе мой радок скупы.

* * *

Датуль мне ў снах з'яўляліся яны,
Пакуль не сталі вершамі маімі.
Час надышоў мне развітацца з імі —
Нібы застолле, апусцелі сны.

Згубіліся аблічча, змоўклі словы,
Зноў я адзін. У розныя бакі
Краіны той, дзе вечныя іх сховы.
Раз'ехаліся моўчкі дружбакі.

Няўжо даволі з іх той сціплай меры —
Трох метраў непрытульнае зямлі?
Той памяці, шматка тае паперы,
З якой яны радкамі прараслі?

А можа гэта — самазахаванне,
Катораму без сноў такіх лягчэй?
А можа — абавязку выкананне?
Дазвол сумлення — рухацца далей?

* * *

Хваробу, што здароўе падкасіла,
Нібы быка, за рогі мы бяром,
Пакуль жыве ў нядужым целе сіла
З уладай таямнічай над пяром.

Лепш цяжка жыць,
чым быць бадзёрым трупам —
Гарэць агнём, якога ўжо нямаш,
Былой уладай пахавальны марш
Забараняць іграць крытычным трубам.

Лепш вечны сон, чым гэткай явы сны.
Хай на парозе небыцця такога
Мяне ў калыску з труннае сасны
Кладуць жывога так, як нежывога.

Нашто мне зрок, навошта гучны крок,
Хвілін імклівасць, цішыні хвіліны,
Турботы дня, апошнія навіны,
Крывёй не перагнаныя ў радок?

* * *

Мой маналог, як палымяны конь,
Пачуўшы подых бур, стрыжэ вушамі,
Спяшаецца, паразмаўляўшы з вамі,
Ад вечнага агню ў жыцця агонь.

Між намі лёс правёў размежаванне:
Вы — скрыжаванне рук, я — крокаў рух.
Аднак саюз мужчынскі — не каханне,
Дзе трэці лішні пакідае двух.

Наш брацкі вузел не парве, я знаю,
Ні адгрымеўшы, ні наступны бой.
Я, ваша памяць, вас не пакідаю,
Бяру з сабой, як клятву, як набой.

Злучыліся: з дарогамі дарога,
З лістамі дрэва, са слязою пыл,
І ў сэрцы тым, дзе ўсёй зямлі трывога,
У тры разы прыбавілася сіл.

*1964—1965 гг.*

## ПРА АСІНЫ

Развесіўшы з самай зары на вятры
Сушыць павучыныя сеці,
Аблытала бабіна лета бары
Маной аб нягаснучым леце.

Аблытала дот, што зарос бур'яном,
Бліндаж, што не вытрымаў буры,
Асіны, што лісцяў гарачым агнём
Закрылі агонь амбразуры.

Асіны, асіны! Між цёмных ялін
З нізін прабіваюцца ўгору
Іх яркія вогнішчы!.. Хто на ўспамін
Пакінуў іх змрочнаму бору?

Хто іх запаліў тут? Бязлітасны шквал
Пякельнае артпадрыхтоўкі?
А можа пяхоты апошні прывал,
Каманд пахавальных рыдлёўкі?

«Хіба ўжо,— трывожыцца полымя іх,—
Не кружыцца смерць над дамамі,
Братэрства і згода пакуты жывых
З калючых дратоў паздымалі?..»

Глытаючы вецер акопны і пыл,
Суровымі сведкамі часу,
Яны — нібы ўдовы на варце магіл —
Застылі ў чаканні адказу.

Як камень халодны нямых курганоў,
Гняце іх цяжкое чаканне.
І полымем вечным жалобных кастроў
Над светам палае пытанне.

## ЗІМА УЦЯКАЕ НАЧАМІ...

Светлых дзён баючыся,—
Мутнымі ручаямі,
На пачарнелай крызе,
Зіма ўцякае начамі.

Ёй на шляхах світальных
Не ваяваць з туманамі,—
Ад іх абдымкаў знішчальных
Зіма ўцякае начамі.

Цёмных завей заслонай
Ёй не звісаць над палямі,—
Ад першай руні зялёнай
Зіма ўцякае начамі.

Ужо ёй здрадзілі хмары
І праліліся дажджамі,—
Ад перуновай кары
Зіма ўцякае начамі.

Кожнай вясною гэтак,—
З сэрца — цяжкімі снамі,
Нечай крывёй — з планеты,—
Зіма ўцякае начамі.

*1966 г.*

* * *

Я з юнацкіх дзён лічуся вязнем,
Бо зарок з мяне зямля ўзяла —
Я за лёс яе прыкуты ўласным
Ланцугом пакуты да стала.

Я на ўсё жыццё абраў дарогу,
На якой калючак больш, чым руж.
Сэрца — як набат, што б’е трывогу
За мільёны падгарматных душ.

А калі ў смяротным грозным гуле
Упаду я, кінуты на дол
Ранняю хваробай альбо куляй,
І асірачу пісьмовы стол,—

Аб такім не пашкадую лёсе,
Бо, юнацкі помнячы зарок,
Паўтарыў бы зноў, каб давялося,
Я жыццё сваё — за крокам крок

*1967 г.*

## 7 ЛІСТАПАДА 1966 ГОДА

Упершыню Кастрычніцкае свята
Я сустракаю тут,
Дзе для мяне бальнічная палата
Горш, чым астрожны кут.

Адгэтуль выйсце мне закратавала
Хвароба — мой жандар,
Знясіленае цела прыкавала
Да ложка, як да нар.

Зняволення расклад для вязня строгі —
Не варухнуцца мне,
Дранцвеюць ногі, цёплы пыл дарогі
Іх грэе толькі ў сне.

Ды пагарджае ўладай неадступных,
Скаваўшых цела страт,
Душа — былых гадоў, гадоў наступных
Няўпынны дэманстрант.

Яе да месца прыкаваць не здольны
Пакуты ланцугі,
Яна ляціць, ляціць, як вецер вольны,
Да вас, да вас, сцягі!

Яна — той самай буры парыванне,
Што ў свет вы несяце.
На волі — вы, я тут вяду змаганне
Са смерцю, за жыццё.

*1967 г.*

* * *

Пасля хваробы доўгай і цяжкой
Сябе я адчуваю як на фронце —
Не ў медсанбаце, не ў трафейнай роце,
А пехацінцам на перадавой.

Там дзень як век, світанне як вітанне,
Апроч атак, няма там іншых дат.
А баявое выканаў заданне —
Лічы, вярнуўся з вечнасці, салдат.

Мяне знішчаюць там агонь і сцюжа,
Хістае ледзьве чутны земляўздрыг,
І снайперская куля крывадушна
На мушку сэрца ловіць кожны міг.

Аб іншым я цяпер не мару шчасці,
Калі з імглы калючы бачу дрот:
Лаз для сяброў зрабіць у ім і ўпасці
Грудзямі на варожы кулямёт.

*1967 г.*

***

Сноп апошні залатога жыта
Застаецца ў памяці палос...
Гэтак і цябе не скосіць лёс —
Мною ты не можаш быць забыта.

Нават і тады, калі б імгла
Вочы мне засыпала зямлёю,
Калі б я забыты быў табою,
Мною б ты забыта не была.

*1967 г.*

## ПРА БОЛЬ

Дзе пачалося болю ўтаймаванне,
Ніхто з жывых не ведае, на жаль.
Час — лекар болю, а яго шпіталь —
Без краю, без пачатку памяшканне.

Не ведае ніхто, дзе недарод
Пачаў перадавацца полем полю,
Дзе, кленучы сваю цяжкую долю,
Пачаў людзей трывожыць з роду ў род

Спакой, што выбухае раптам боем,
Бой, што нясе адвечны супакой,
Дзіцяці боль, што парадзіхі болем
Народжаны, каб стаць пасля зямлёй.

Час — лекар болю, боль — жывая рана,
Дзіця, не ўтаймаванае нічым:
Ні вечнай калыханкай акіяна,
Ні вечнасці надвор’ем штармавым.

*1967 г.*

* * *

Пашанцавала тройчы мне,
Я тройчы, выпрастаўшы рукі,
Ляжаў не ў ложку, а ў труне...
Я знаю, што такое мукі.

Пад сэрца ледзь улоўны стук
За хвіляй хвілю адзначала
Хвароба крыжыкамі мук —
І страшным могільнікам стала.
А я, між яваю і сном
Час перабыўшы, ставіў коску —
Цярпліва, як за косткай костку,
Нябыту кідаў дзень за днём.
Адбыўшы восень і зіму,
Я ўстаў, вясны пачуўшы гукі.
Яны гучней чуваць таму,
Хто знае, што такое мукі.

Не горка мне было ў труне
Ляжаць відовішчам маркотным,
А горка, калі свет засне
У хатнім ложку сном смяротным.
Навокал сонца я лячу
Зямлі кругазваротным шляхам,
Лячу, бо я яшчэ хачу
Быць самаго сябе працягам.
Яшчэ адзін, другі віток
Рабі па правілах навукі,
Зямля — жыцця майго выток...
Я зведаў, што такое мукі.

Я нарадзіўся зноў на свет...
Як свет пасля цяжкой хваробы —
Кійком, абмацваючы тропы,
Пішу трывожны запавет.
Пішу: я ўстаў не для таго,
Каб дыхаць пыльным тлом
магільным,
А каб, мінаючы яго,
Сачыць за смерцю вокам пільным.
Пішу: я, сведка ўсіх падзей,
Сірочых слёз, вайны, разлукі,
Жадаю шчасця для людзей...
Я знаю, што такое мукі.

***

Глыбокі лістапад
у Белавежы.
Шуміць лістота
пушчы векавой,
Пытаецца шчымліва,
быццам вершы
За ўсё жыццё
напісаныя мной:
— Скажы,
хіба нас не паліла смага,
Не абдаваў
дажджоў лагодны душ?
Няўжо навек
нас замяце няўвага
Сляпых завей,
бесчалавечных душ?
Няўжо шыпамі вострымі
падкова
Праб'е далоні нам?..
Хіба памром,
Гвалтоўнай смерці
трапіўшы пад кола?
Няўжо мы станем
снегам, пылам, тлом?
А я маўчу.
А я маўчу, як дрэва
Асенняе,
згубіўшае свой дах.

Вакол мяне —
направа і налева —
Лісты, лісты, лісты
заслалі шлях.
Пакуль яшчэ
не замялі іх сцюжы,
Пакуль ляжаць
духмянаю капой,
Хачу я, нібы ў вір,
заткнуўшы вушы,
У скаргу іх
зарыцца з галавой.

*1968 г.*

## САСНА І БЯРОЗА

Трымаюць Зямлю без падважнікаў тых,
Без мудрага троса,
Жывымі рукамі карэнняў сваіх
Сасна і бяроза.

Ад дыму да пары ў пякельных катлах
Судна, паравоза
Прайшлі яны поруч гарачы свой шлях —
Сасна і бяроза.

Лягла на іх плечы цяжарам вайны
Акопная проза:
Служыла салдатам сасна — для труны,
Для крыжа — бяроза.

Знікала з тузоў, гандляваўшых крывёй,
Пыхлівая поза,
Калі перад імі ўставалі з пятлёй
Сасна і бяроза.

Ад явы крывавай не вынайшлі лек...
І ўзнікла пагроза,
Што могуць пад крыжам закончыць свой век
Сасна і бяроза.

Ужо на насенне, якое ў раллі,
Паглядваюць коса
Аратыя смерці, каб больш не раслі
Сасна і бяроза.

Над імі ракетны ўзрываецца гук
І гул бамбавоза...
А што як Зямлю нашу выпусцяць з рук
Сасна і бяроза?

*1968 г*

* * *

Даўно закончыліся спрэчкі
Зімовай цемры і святла,
Даўно ўжо ў ручаі і рэчкі
Вясна зляжалы бруд змяла.

А лес пад шаты не запросіць
Гасцей, бо для ягоных крон
Яшчэ не скончылася восень,
Зімы не адасніўся сон.

Ну як яму пралескам верыць,
Што расцвілі на ўскраі дзесь,
Калі прапахлы снегам верас
За дзень не выхадзіць увесь?

І будзе спаць ён, недарэка,
Пакуль яго дрымотны плот
Не пералезе з трэскам рэха
Цярплівасць страціўшых грымот.

*1968 г.*

* * *

Не сустракацца
мне больш ніколі
З маім маленствам
у чыстым полі,
З маім юнацтвам
у лесе цёмным,
З маім ваенным
жыццём бяздомным.
Па ціхіх вулках,
па трактах гулкіх
Прайшлі маленства,
юнацтва леты
І,
перакуленыя ў рачулках,
Сплылі з вадою
на край планеты.
Яны ўжо —
кропля святла ў сусвеце.
А я, не вечны
і нецярплівы,
Чакаць не згодны,
што нехта, недзе
Праявіць некалі
іх негатывы.
Мне б хуткасць думкі,
бляск уяўлення,
Каб мог я словам
дагнаць праменне

І нечаканым
спыніць экранам
Гады былыя
на вокамгненне.
Я б галавою
прыпаў ссівелай
Тады б да ног іх,
ад шчасця плакаў
У чыстым полі
паперы белай,
У цёмным лесе
чарнільных знакаў.

*1969 г.*

## ПАД ГАРОЮ

### *(З народнай песні)*

*Піліпу Пестраку*

Пад гарою, дзе бур'ян,
Паміраў казак ад ран:
— Скажы, маці, хто мяне
Будзе ў цёмным бур'яне
Даглядаць і абымаць,
Боль ад сэрца адымаць?

Адказаў сівы арол:
— Абымацьме цябе дол,
Буду я, арол сівы,
Пасярод глухой травы
Даглядаць і вартаваць,
Боль ад сэрца адымаць,
Твае раны выпіваць,
Твае вочкі выбіраць,
Цалаваці твае губкі,
Выбіваці твае зубкі.

*1970 г.*

## БАЛАДА

Можа брамкі позні рып
Патрывожыў слых?
Можа гэта рэчкі ўсхліп
Даляцеў і сціх?

А калі не брамкі рып,
Можа быць, тапор
Абуджае неруш рыб,
Патаемнасць нор?

Што за гук, што кожны год
Непакоіць сны,
Перайшоўшы цераз брод
Лета і вясны?

Гэта ноччу, каля тых
Лугавых ракіт,
Драч майструе для малых,
Дробных дзетак плыт.

Хоча ён сваіх сыноў
Хвалям перадаць,—
І рыпіць, рыпіць з лугоў
Нецярпліва снасць.

*1970 г.*

## НАД СПАЛЕНАЙ ВЁСКАЙ

Над спаленай вёскай,
адзетай жалобным гранітам,
Званы абзываюцца
рэхам вайны незабытым.

Хай вечны агонь,
што запалены ў памяць Хатыні,
Як рунь і як неба,
палае — зялёны і сіні,
Няхай яго полымя
жытам спякотным і спелым
Схіляецца ў ногі
Хатыні дварам скамянелым,
Парогу халоднаму,
прызбе маўклівай пры хаце,
Хай гора, заснуўшае ў камні,
прачнецца ў набаце.

*1970 г.*

* * *

Я хаце абавязаны прапіскаю —
Калыскаю, падвешанай пад столь.
Я маці абавязан кожнай рыскаю,
Драўлянай лыжкаю, глінянай міскаю —
Усім, чым працы абавязан стол.

Я — матчын спеў, я — матчыны трывогі,
Я — матчын гнеў, які ўставаў на ногі,
Гнаў смерць на Захад — у нару з нары —
Трацілаваю пугай перамогі.
Дыміліся сямі франтоў дарогі
За мной, як дынамітныя шнуры.

Пазбавіўшы ад грознага відовішча
Свет, не дазволю я, каб дым і пыл
Зямлю ператварылі ў бамбасховішча,
Мільярд прапісак — у маўклівы прысак,
Мільярд калысак — у мільярд магіл.

*1963 г.*

**І думак не стрымаць,**

**адважны іх намеры,**

**І рыфмы лёгкія**

**насустрач ім бягуць.**

**І пальцы просяцца к пяру,**

**пяро к паперы,**

**Хвіліна - і радкі**

**натхнёна паплывуць.**

*А. С. Пушкін*

*З А. Пушкіна*

## 19 КАСТРЫЧНІКА

Скідае лес барвовы свой убор,
Заслаў мароз дыван бялюткі ў полі,
Дзень выгляне, як быццам мімаволі,
І знікне зноў за край вакольных гор.
Свяці, агонь, на камінку пустэльным;
А ты, віно, пад восені выццё,
У грудзі мне пралі з настроем хмельным
Хвіліннае мук горкіх забыццё.

Самотны я: са мной няма сяброў,
З кім горкае запіў бы развітанне,
Каму б сказаў ад сэрца пажаданне
Вясёлага жыцця на шмат гадоў.
Я п'ю адзін: дарма маё ўяўленне
Збірае навакол сяброў маіх;
Знаёмага не чутна набліжэння,
Не чутна сэрцу крокаў дарагіх.

Я п'ю адзін, на беразе ж Нявы
Сябры сягоння без мяне святкуюць...
Але ці многія там з вас балююць?

Каго не дачакаліся там вы?
Хто здрадзіў нашай шматгадовай звычцы?
Каго яшчэ чакаеце дарма?
Чый голас змоўк на брацкай пераклічцы?
Хто не прыйшоў? Каго між вас няма?

Няма між вас сягоння спевака
З агнём душы, з гітарай красамоўнай:
Пад міртамі Італіі чароўнай
Ён ціха спіць, і брацкая рука
Не вывела на камені магілы
На рускай мове колькі родных слоў,
Каб некалі прывет сабе знябылы
Сын поўначы, там ходзячы, знайшоў.

Ці ты сядзіш сярод сяброў сваіх,
Каханак даляў і нябёс няродных?
Ці зноў плывеш да тропікаў спякотных,
Ці да паўночных мораў ледзяных?
Шчаслівы шлях!.. З ліцэйскага парога
На карабель ты жартам узышоў,
І з тых часін між хваль твая дарога,
О сын любімы ўспененых валоў!

З ліцэя захапіў з сабою ўдаль
Ты весялосць і леты маладыя:
Ліцэйскі шум і забаўкі былыя
Ты ў марах меў сярод бурлівых хваль.
Ты прасціраў да нас з-за мора рукі,
Ты нас адных у юным сэрцы нёс
І паўтараў: на доўгі час разлукі
Нас асудзіў, відаць, таемны лёс!

Сябры мае, цудоўны наш саюз!
Нібы душа, ён непадзельны, вечны,
Ён непарушны, вольны і сардэчны,

Ён рос пад засенню сяброўскіх муз.
Куды б нас ні закінула судзьбіна
І шчасце нас куды б ні павяло,
Мы тыя ўсе: нам цэлы свет чужына;
Нам бацькаўшчынай Царскае Сяло.

Выгнаннікам я на зямлі слыву,
Па свеце гнаны доляю суровай,
З сардэчнай шчырасцю да дружбы новай
У стоме нахіліў я галаву...
З тужліваю, з мяцежнаю мальбою,
З даверлівай надзеяй год былых
Сябрам другім аддаўся я душою;
Ды горкім быў прывет нябрацкі іх.

І тут цяпер у глушыні пустой,
Дзе выюць толькі сцюжы і завеі,
Мае збыліся мары і надзеі:
Я вас траіх, сяброў душы маёй,
Тут абдымаў. О Пушчын, браце родны,
Наведаў першы ты апальны дом;
Ты ажывіў выгнання дзень маркотны,
Зрабіў яго ліцэя светлым днём.

Зазнаў ты рана шчасце, Гарчакоў,
Хвала табе! — фартуны бляск халодны
Не змог змяніць твой горды дух свабодны:
Той самы ты для чэсці і сяброў.
Нам рана разысціся давялося:
Я шлях абраў адзін, шлях іншы — ты,
Ды, стрэўшыся на палявой дарозе,
З табой мы абняліся, як браты.

Калі зазнаў я горкія часы,—
Для ўсіх чужы, выгнання не пазбыўшы,
Цябе чакаў я, галаву схіліўшы,

Пясняр дзяўчат пермескіх, іх красы.
І ты прыйшоў, натхнёны сын ляноты,
О Дэльвіг мой: твой голас абудзіў
Агонь душы, што спала ў дні маркоты,
І я бадзёра долю блаславіў.

Дух песень мы адчулі з год малых,
Мы хваляванне светлае зазналі;
Да нас дзве музы змалку прылятаблагі,
І шчаснымі былі мы з ласкі іх.
Ды ўжо любіў я воплескі людскія,
Ты, горды, пеў для муз і для душы;
Я дар губіў, як леты маладыя,
Ты геній свой выхоўваў у цішы.

Служэнне муз не любіць мітусні;
Спакоем дыхаюць мастацтва чары:
Але шумлівыя нас клічуць мары,
І спакушаюць нас юнацтва дні...
Апамятаемся,— ды позна! самі
Здзіўляемся, як хутка ўсё прайшло.
Скажы, Вільгельм, а ці не так і з намі,
А ці не тое ж самае было?

Пара! пара! не варты гэты свет
Пакут душы; пакінем спакушацца!
А ці не час ад мітусні схавацца!
Прыходзь, мой брат, мой дарагі паэт,—
Чакаю я; з табой у добрым часе
Пагутарым пра дні былыя зноў,
Пра бурныя падзеі на Каўказе,
Пра Шылера, пра славу, пра любоў.

Пара і мне... прыйшла чарга мая!
Ёсць прадчуванне добрае ў паэта;

Сябры мае, вы не забудзьце гэта:
Год праміне, і з вамі буду я!
Убачу я здзяйсненне мар апальных;
Год праміне, ізноў нас злучыць лёс!
О колькі слёз і воклічаў вітальных
І колькі чаш, узнятых да нябёс!

І першую паўней, сябры, паўней.
І піце ў гонар нашага саюза!
Благаславі, усцешаная Муза,
Благаславі: няхай жыве ліцэй!
Удзячна паднясём да вуснаў чашу
Яшчэ мы за настаўнікаў сваіх,
За тых, што зберагалі юнасць нашу,
За ўсіх, за ўсіх, за мёртвых і жывых.

Паўней! ад сэрца шчырага свайго.
Зноў да канца, да кроплі выпівайце!
Ды за каго? о другі, адгадайце...
Ура, наш цар! так! вып’ем за яго.
Ён чалавек! пачуццяў раб аддany.
Настроі, чуткі для яго закон;
Забудзем мы, што ім сурова гнаны,
Ён браў Парыж, ліцэй засноўваў ён.

Балюйце ж, покуль лёс яднае нас!
Шкада, наш круг сяброўскі ўсё радзее;
Хто ўжо ў труне, хто ў далях сірацее,
Лёс сочыць, вянем мы; мінае час;
З нас кожны непрыкметна халадзее
І да астатніх блізіцца гадзін...
Хто ж з нас, сябры, дзень нашага ліцэя
Пад старасць будзе святкаваць адзін?

Няшчасны брат! між пакаленняў новых
Дакучны госць, ён на зямлі чужой

Успомніць нас і дні сустрэч вясновых,
Закрыўшы твар дрыжачаю рукой...
Дык хай той дзень, хаця б і ў час маркотны,
Ён правядзе, пазбыўшыся нягод,
Як я сягоння, вязень ваш самотны,
Яго правёў без гора і турбот.

## ВОСЕНЬ

***(Урывак)***

**Чего в мой дремлющий тогда не входит ум?**

*Дзяржавін*

I

Кастрычнік надышоў — і гай ужо стра**с**ае
Апошнія лісты з пустых сваіх галін;
Дыхнулі халады — дарога падмярзае.
Булькочучы, бяжыць яшчэ ручай за млын,
Ды ўжо ставок застыў; на ранку выязджае
Сусед мой паляваць сярод лясоў, далін,
І топчуць рунь палёў яго ліхія коні,
І будзіць брэх сабак дубровы ў час пагоні.

II

Цяпер мая пара: мне сумна жыць вясной;
Адлігі не люблю; слата — вясной я хворы:
Бунтуе кроў; пачуцці сціснуты тугой.
Больш даспадобы мне зімовыя прасторы,
Суровыя снягі; як хораша зімой
Імчаць з сяброўкаю, калі іскрацца зоры,
Калі пад собалем, сагрэтая ў вазку,
Яна гарыць, дрыжыць і цісне вам руку!

Як люба абуваць жалезам вострым ногі
І коўзацца зімой па люстры роўных рэк!
А свят, зімовых свят, бліскучыя трывогі!..
Ды трэба й меру знаць; паўгода снег ды снег,
Нарэшце гэткае і жыхару бярлогі,
Мядзведзю, збрыдае. Няможна ж цэлы век
Нам ездзіць у вазках з Армідамі сваімі
Альбо ў цяпле гібець за вокнамі двайнымі.

IV

Ох, лета краснае! сябе б я зваў тваім
Каханкам, каб не пыл, не камары ды мухі,
Ты здольнасці душы знішчаеш назусім,
У спёку гінем мы, як поле ад засухі;
Мы марым аб рацэ, аб халадку лясным —
І згадваем зіму-бабульку не без скрухі.
Праводзячы зіму блінамі і віном,
Памінкі ладзім ёй марожаным з ільдом.

V

Дні позняй восені нам зняважаць не дзіва,
Ды я яе люблю, чытач ласкавы мой,
За ціхую красу, штоззяе скрозь маўкліва.
Так да нялюбага дзіцяці ўсёй душой
Цягнуся я. І вам прызнаюся праўдзіва,
Што рады больш за ўсё я восені адной,
У ёй шмат добрага; адданы ёй душою,
Знайшоў прывабнае ў ёй марай я сваёю.

## VI

Мне падабаецца даўно яна адна,
Як часам, можа быць, сухотная дзяўчына
Вам падабаецца. Асуджана яна,
Штодзень бліжэй яе смяротная хвіліна.
Усмешка на губах на выцвіўшых відна;
Не ведае яна, што стацца з ёй павінна;
Як ружа твар яшчэ гарыць, але дарма,
Хоць сёння і жыве, ды заўтра ўжо няма.

## VII

Маркотная пара! вачэй замілаванне!
Прыемны сэрцу бляск знікаючай красы —
Люблю прыроды я ўрачыстае згасанне,
У чырвань з золатам убраныя лясы,
Ў іх засені вятроў шумлівых парыванне,
І сонца рэдкае, і зранку маразы,
І тонкаю смугой пакрытыя нябёсы,
І ледзь прыкметныя сівой зімы пагрозы.

## VIII

І з кожнай восенню я расцвітаю зноў;
Карысны для мяне наш рускі холад ранні,
Да дробезяў быцця зноў чую я любоў,
Прыходзіць пасля сну зноў голад на світанні,
І лёгка, радасна віруе ў сэрцы кроў,
Юнацкія ў маёй душы кіпяць жаданні;
Я поўны зноў жыцця — такі мой арганізм
(Прабач мяне, чытач, за лішні празаізм).

### IX

Падводзяць мне каня: у лёце нечуваным
Ён конніка імчыць да дальніх пушчаў, сёл,
Пад капытом яго надзейна падкаваным
Трашчыць бліскучы лёд, звініць замёрзлы дол.
Ды хутка гасне дзень — на камінку цагляным
Агонь ізноў гарыць — ліе святло вакол
Ці тлее ледзь — а я перад агнём чытаю
Ці ў марах доўгі час, забыўшыся, лунаю.

### X

І забываю свет, і так прыемна мне
Аддацца ў цішыні прыемным адчуванням,
Пачуцці светлыя паэзія крane:
Душа сціскаецца лірычным хваляваннем,
Уся трымціць, гучыць і прагне, як у сне,
Нарэшце выліцца натхнёным парываннем.
І да мяне ідзе гасцей нябачны рой,
Сяброў, што мараю народжаны маёй.

### XI

І думак не стрымаць, адважны іх намеры,
І рыфмы лёгкія насустрач ім бягуць,
І пальцы просяцца к пяру, пяро к паперы,
Хвіліна — і радкі натхнёна паплывуць.
Так дрэмле карабель, ў туман схаваны шэры,
Але прыслухайся! — спяшаюцца, паўзуць
Матросы ўгору, ўніз — вось ветразі паднялі;
Скрануўся карабель і рассякае хвалі.

### XII

Плыве. Куды ж нам плыць?..

*З М. Лермантава*

## ЖАБРАК

Каля святых варот царквы
Стаяў, нядоляю прыкуты,
Бядняк змарнелы, ледзь жывы
Ад смагі, голаду, пакуты.

Ён міласці, якою жыў,
Прасіў тут у людзей і ў неба,
І нехта камень палажыў
Яму ў руку замест хлеба.

Так з непазбыўнаю тугой
Маліў цябе я, закаханы;
Вось так сардэчны клопат мой
Табой навекі ашуканы!

## ВЕТРАЗЬ

Бялее ветразь адзінокі
Там, дзе блакітны небасхіл.
Чым вабіць свет яго далёкі?
Чым родны край яму не міл?

Б'е хваля, вецер завывае,
І мачта гнецца і рыпіць;
Ды не! ён шчасця не шукае
І не ад шчасця прэч бяжыць!
Пад ім струмень святлей за просінь.
Над ім прамень нябесны той:
А ён, бунтоўны, буры просіць,
Нібыта ў бурах ёсць спакой!

## БАРАДЗІНО

«Скажы мне, дзядзька: хоць шугала
Агнём Масква, ды каштавала
        Французам страт яна.
Былі ж хвіліны баявыя,
Ды, кажуць, не абы-якія!
І помніць нездарма Расія
        Пра дзень Барадзіна!»

— Так, знаў людзей я ў нашым часе,
Парода волатаў звялася,
        Не той народ — не вы!
Цяжкая іх сустрэла доля:
З іх мала хто вярнуўся з поля...
Каб не святых нябёсаў воля,
        Не аддалі б Масквы.

Мы доўга моўчкі адступалі.
Злаваліся, баёў чакалі
        Вусатыя дзядзькі:
«Што ж? На зімовыя кватэры?
Хіба варожыя намеры
Стрымаць не могуць афіцэры
        І рускія штыкі?»

І вось знайшлі мясціну ў полі:
Ёсць развінуцца дзе на волі!
        Збудованы рэдут.
Не будзе ворагу спагады!
Ледзь ранак асвятліў гарматы

І цёмна-сіні лес зубчаты —
Французы тут як тут.

Забіў зарад я ў жэрла туга
І думаў: пачастую друга!
Чакай, браток мусью:
Што хітравацъ, выходзь да бою;
Ужо як рушым мы сцяною,
Ужо адкажам галавою
Мы за зямлю сваю!

Два дні са стрэльб мы білі ўдала,
Ды сэнсу ў страляніне мала.
Чакаўся трэці дзень.
Скрозь гаманілі, як на вечы:
«Час дабірацца да карцечы!»
І вось на поле грознай сечы
Упаў паўночы цень.

Я лёг паспаць каля лафета
І песні чуў да ранку — гэта
Узрадваўся француз.
А наш бівак маўчаў пагрозна:
Хто ківер чысціў свой дапозна,
Хто злосна штык вастрыў і злосна
Кусаў даўжэзны вус.

Ледзь ранне неба асвятліла,
У рух прыйшла двух станаў сіла;
За радам рад — пайшлі.
Быў наш палкоўнік зухаваты:
Слуга цару і брат салдатам…
Шкада: загінуў пад булатам,
Спіць у сырой зямлі.

Сказаў ён, бліснуўшы вачамі:
«Браткі! Ці ж не Масква за намі?

Памром жа пад Масквой,
Як нашы продкі памiралі!»
І мы памерці абяцалі,
І клятву гэтую стрымалі
Мы ў Барадзінскі бой.

Праз дым, што засцілаў абшары,
Французы рушылі, як хмары,
І ўсё на наш рэдут.
Уланы з яркімі значкамі,
Драгуны з конскімі хвастамі,
Ўсе прамільгнулі перад намі,
Перабывалі тут.

Не бачыць вам таго ніколі!..
Сцягі, што цені, беглі ў полі
З бугра і да бугра,
Карцеч над намі візгатала,
І сталь штыкоў калоць прыстала,
І ядрам лётаць замінала
Крывавых цел гара.

Зазнаў чужынец, тройчы кляты,
Што значыць рускі бой зацяты,
Наш рукапашны бой!..
Зямлю трасло — як нашы грудзі,
Паблыталіся коні, людзі,
Цяжкіх гармат тысячагуддзе
Вісела над зямлёй...

Ды вось сцямнела. Але новы
На ранку бой пачаць суровы
З нас кожны быў гатоў...
Затраскаталі барабаны —
І адступілі басурманы.
Тут пачалі лічыць мы раны,
Лічыць сваіх сяброў.

Так, знаў людзей я ў дні былыя,
Асілкі не абы-якія,
    Не гэткія, як вы!
Цяжкая выпала ім доля:
З іх мала хто вярнуўся з поля.
Каб не святых нябёсаў воля,
    Не аддалі б Масквы.

## СМЕРЦЬ ПАЭТА

Адпомсці, гасудар, адпомсці!
Укленчыўшы, прашу цябе:
Праўдзівы будзь і пакарай забойцу,
Каб пакаранне будучым вякам
Твой справядлівы суд апавясціла,
Каб прыклад бачылі злачынцы ў ім.

Памёр паэт! — закатаваны
Велікасвецкаю маной —
Упаў, з агнём смяротнай раны
І з помсты прагаю святой!..
Не вытрымаць было паэту
Няславы гонару свайго,
Адзін ён супраць думкі свету
Паўстаў... і вось няма яго!
Няма!.. Не трэба ні прызнанняў
Пустых яму, ні горкіх слёз,
Ні вартых жалю апраўданняў...
Прысуд суровы вынес лёс.
Хіба не вы так злосна гналі
Яго высокі, вольны дар
І для пацехі раздзьмувалі
Гатовы выбухнуць пажар?
Што ж? смейцеся...— Жыцця нягоды
Спынілі сэрца мерны крок:
Згас дзіўны светач, назаўсёды
Завянуў генія вянок.
Забойца свой удар спакойна
Навёў... асуджаны паэт.
Пустое сэрца б’ецца роўна,
Не скалануўся пісталет.

Што ж дзіўнага?.. яго з чужыны,
На лоўлю шчасця і чыноў,
Вандроўны лёс уцекачоў
Прывёў да нашае айчыны.
Яму закон наш — не закон,
Чужы наш звычай, нашы справы;
Не шанаваў ён нашай славы;
Не разумеў у час крывавы,
На што наводзіў зброю ён!..

І ўзят паэт сырой зямлёю,
Як той пясняр з натхнёнаю душою,
Ахвяра рэўнасці глухой,
Якога ўзнёс ён лiраю сваёю,
Забіты, як і ён, бязлітаснай рукой.

Навошта дружбы свет пяшчотны,
прастадушны
Ён прамяняў на свет зайздрослівы і душны
Для сэрца вольнага свайго і пачуцця?
Навошта даў руку паклёпнікам нікчэмным,
Навошта верыў ён прысягам іх дарэмным,
Ён, рана зразумеўшы сэнс жыцця?..
Ранейшы скінуўшы вянок — яны цярновы
Надзелі, лаўрамі ўпрыгожаны, вянок:
Калючкі тайныя сурова
Палілі скронь, сляпілі зрок;
Атручаны яго хвілін апошніх мары
Каварства шэптамі і невуцтвам людзей,
І ён памёр — з дарэмнай прагай кары,
З таемнай прыкрасцю нязздзейсненых надзей.
Змоўк дзіўных песень лад віхурны,
Ім больш ніколі не гучаць:
Яго прытулак цесны, хмурны,
На вуснах песняра пячаць.

*

А вы, пыхлівыя патомкі
Вядомай подласцю праслаўленых бацькоў,
Вы топчаце пятой нявольніцкай абломкі
Здрадлівай доляю пакрыўджаных радоў!
Забойцы Генія, і Славы, і Свабоды,
З нахабнай прагнасцю вы абступілі трон!
Законы вас ахоўваюць заўсёды,
І вам ні суд, ні праўда — не закон!..
Але ёсць божы суд, распусту ён карае!
І ёсць суддзя: чакае ён;
Ён думкі ўсе наперад знае,
Яго сумленнасці не купіць срэбра звон.
Не засланіцца вам аховай тою:
Яна вас не ўратуе зноў,
І вы не змыеце ўсёй вашаю крывёю
Паэта праведную кроў!

***

1

Калі паспелую хвалюе ветрык ніву,
І верхавін лясных кранаецца рукой,
І ад спякоты сад малінавую сліву
Хавае ў халадку лістоты трапяткой,

2

Калі, расой апырсканы духмянай,
Ружовым вечарам ці ранішняй зарой
Мне ландыш серабрысты з нечапанай
Густой травы ківае галавой;

3

Калі цурчыць ручай, ратуючы ад смагі,
І, акунаючы душу ў няясны сон,
Ляпеча мне радкі таемнай сагі
Пра мірны край, адкуль імчыцца ён;

4

Тады сцішаецца душы маёй трывога,
Знікае на чале маршчын суровых сецць,
І шчасце на зямлі магу я зразумець,
І адчуваю ў небе бога!..

* * *

Пасля разлукі твой партрэт
Я на грудзях маіх нашу;
Як здань былых і зім і лет,
Ён радуе маю душу.

Аддаўшы сэрца іншым дням,
Я разлюбіць яго не змог:
Так храм пакінуты — ўсё храм,
Кумір нізрынуты — ўсё бог!

***

Я не хачу, каб свет чытаў
Маю таемную аповесць;
Аб тым, як жыў я і кахаў,
Я не яму складаю споведзь!..

Бог і сумленне суддзі ёй,
Да іх пакутай я прыкуты;
І хай мяне карае той,
Хто вынайшаў мае пакуты;

Дакор пусты, дакор людскі
Душы высокае не ўзрушыць;
Няхай шуміць прыбой марскі —
Уцёса хвалямі не зрушыць;

Стаіць ён, дзвюх стыхій жыхар:
Вышынь пахмурых, хваль шалёных,
І, апрача грымот і хмар,
Ніхто не знае дум ягоных...

* * *

Спяшаюся з чужога краю
Дамоў, адбыўшы свой палон,
Табе, Казбек, я пасылаю
З шляхоў вандроўніцкіх паклон.

Ты ўзняў між небам і зямлёю
Чало, спавітае чалмой,
І гул людскога неспакою
Не ўзрушыць горды твой спакой.

Ды сэрца ціхага маленне
Ты аднясі з тваёй скалы
Туды, дзе зорнае праменне
Прастола вечнага Алы.

Малю, каб дзень сышоў халодны
На дол гарачы, пыльны шлях,
Каб я ў пустыні ў час спякотны
Мог адпачыць на камянях.

Малю, каб бура не застала,
З маланкай, громам і дажджом,
На кручах змрочнага Дар'яла
Мяне са стомленым канём.

Ды ёсць яшчэ адно жаданне! —
Падумаць жудасна аб тым! —
А што, калі з часоў выгнання
Мой край забыў мяне зусім!

Ці там патраплю я ў былыя
Абдымкі шчырых дружбакоў?
А ці пазнаюць дарагія
Пакутніка праз шмат гадоў?

Альбо на могілках халодных
Наведаю, як позні госць,
Я прах сяброў высакародных,
Са мной дзяліўшых маладосць?

О, калі так, ліхой віхурай,
Казбек, засып мяне хутчэй
І па сваёй цясніне хмурай
Без жалю тло маё развей.

## ПАЭТ

Кінжал мой зіхаціць аздобай залатой;
Клінок надзейны, без заганы;
Захоўвае булат гарт таямнічы свой —
Усходам ратным дараваны.

Нямала зім і лет ён конніку ў гарах
Служыў без платы за паслугу;
Правёў ён страшны след не па адных грудзях
І не адну прадраў кальчугу.

Ён забаўкі дзяліў, як паслухмяны раб,
Крывёй змываў абразы сорам;
Багатая разьба ў той час яму была б
Ганебным і чужым уборам.

За Тэракам яго казак адважны ўзяў
На трупе ворага халодным,
І доўга ён пасля закінуты ляжаў
У гандляра мяху паходным.

З героем слаўны шлях прайшоўшы на вайне,
Ён родныя пакінуў ножны
І цацкай залатой зіхціць на дыване,
Нікчэмны і бездапаможны!

Яго з увагаю і клопатам былым
Рука не лашчыць баявая,
Ніхто не чысціць сталь і надпісы на ім
У час малітвы не чытае.

У спешчаны наш век хіба не так, паэт,
Сваё ты страціў прызначэнне,
Не падначальваеш уладзе лірнай свет,
Прадаўшы золату натхненне?

Бывала, мерны гук тваіх магутных слоў
Вёў ратнікаў на поле бітвы,
Быў неабходны ён, як чара для сяброў,
Як фіміям дзеля малітвы.

Твой верш, як божы дух, лунаў над грамадой
І рэхам дум высакародных
Гучаў, нібы набат, на вежы вечавой
У дні і свят і бед народных.

Ды надакучыў нам твой просты, горды сказ,
Нас вабяць штучнасці падманы,
Як драхлая краса, хлуслівасцю акрас
Наш свет стары падфарбаваны.

Ці ты прачнешся зноў, абсмеяны прарок?
Альбо, пакліканы да бою,
Ты з ножан залатых не вырвеш свой клінок,
Да рэшты з’едзены іржою?..

## МАЛІТВА

Калі душа сціскаецца
Гаротаю глухой:
На памяць вымаўляецца
Адна малітва мной.

Ёсць сіла жыватворная
У гуках слоў жывых,
Чаруе непаўторная
Краса святая іх.

Душа пераіначыцца,
Тугі цяжар міне —
І верыцца, і плачацца,
І лёгка, лёгка мне...

## ПАМЯЦІ А. І. АДОЕЎСКАГА

### 1

Я знаў яго — блукалі сярод гор
Усходніх з ім мы... і ту гу выгнання
Дзялілі там; зноў родны свой прастор
Убачыў я; часы выпрабавання
Мінуліся законнаю чаргой;
А ён не дачакаўся далі роднай:
Пад беднаю палаткаю паходнай
Хваробай лютай скошаны, з сабой
Забраў ён у труну лятучы рой
Нявыспеўшых натхненняў, хваляванняў,
Няздзейсненых надзей і горкіх
шкадаванняў...

### 2

Радзіўся ён для тых надзей святых,
Паэзіі і шчасця... нецярплівы —
З пялюшак рана вырваўся сваіх
І кінуў сэрца ў вір жыцця шумлівы,
І свет не даравў — і лёс не ўзнёс!
Але пранёс ён па шляхах пакутных
Сярод людзей, сярод пустынь бязлюдных
Сардэчнасць пачуцця, праўдзівасць слёз,
Не згаслі вочы колеру нябёс,
І ён не страціў шчырасці дзіцячай
І веры ў род людскі, што будзе жыць іначай.

### 3

Ніхто з сяброў не крочыў за труной...
Мір сэрцу мужнаму, мой любы Саша!
Укрытае чужых палёў зямлёй,
Хай ціха спіць яно, як дружба наша
У могільніку памяці маёй.
Памёр ты, як і многія,— без шуму,
Ды з цвёрдасцю. Запозненую думу
Тваё чало таіла перад тым,
Як вочы змрок ахутаў назусім.
І тое, што сказаў ты ў час журботны,
З пачуўшых голас твой не зразумеў ніводны.

### 4

Што ты сказаў?.. Вітаў свой родны край,
Ці можа ўспамінаў сяброў імёны,
Альбо, перамагаючы адчай,
Цяжкой хваробе пасылаў праклёны,
Хто скажа нам! Апошніх тых хвілін
Глыбокае і горкае значэнне
Загублена... Задум і спраў здзяйсненне
І летуценне зніклі ў міг адзін,
Як цені вечаровыя хмарын:
Ледзь выплывуць, іх вецер зноў зганяе...
Куды яны, чаго? — адкуль? — хто іх
спытае...

### 5

І гіне ў небе іхні след, як сон
Дзіцячай закаханасці маркотнай,
Як мары хлапчука, якія ён
Не давяраў прыязнасці пяшчотнай!..
Такой бяды!.. Сярод сыноў сваіх

Хай свет твайго не ўспомніць існавання:
Нашто табе вянкі яго прызнання
І церні дзікія паклёпаў злых?
Не быў ты служкай спраў яго пустых,
Яго ланцуг адкінуўшы здрадлівы:
Любіў ты мора шум і сіні стэп маўклівы

**6**

І змрочных гор зубчастыя хрыбты...
Там, дзе твая згубілася магіла,
Усё, чаму ў жыцці быў рады ты,
Дзівосна доля ў горкі час злучыла.
Маўклівы стэп сінее, і вянком
Яго Каўказ суровы абкружае;
Над морам ён, пахмуры, спачывае,
Як волат, што схіліўся над шчытом,
Прыслухаўшыся да вячыстай далі,
А мора Чорнае шуміць і гоніць хвалі.

## І СУМНА, І НУДНА

І сумна, і нудна! — і некаму слова сказаць
Сяброўскае ў момант у гэты...
Жаданні... ці варта дарэмна і вечна жадаць?
А леты мінаюць — найлепшыя леты!

Кахаць — а каго? — захапляцца часова не след,
А вечна кахаць немагчыма...
Душу варухнеш? — знойдзеш толькі
нікчэмнасці след.
І радасць і гора пранеслася міма.

Пачуцці? — іх слодыч, што палкімі вуснамі
п’еш,
Ад слова развагі знікае,
І наша жыццё, як з халоднай увагай зірнеш,—
Такая мізэрнасць і марнасць такая!

## КАЗАЦКАЯ КАЛЫХАНКА

Спі, мой родны, спі, мой шчасны,
Лю-лі, сынку мой.
Ціха свеціць месяц ясны,
Шле нам промень свой.
Не заўважу цёмнай ночкі
З песняй над табой;
Ты ж засні, заплюсні вочкі,
Лю-лі, сынку мой.

Паміж скал струменіць Церак,
Плешча мутны вал;
Там чачэн паўзе на бераг,
Точыць свой кінжал;

Але знаў твой бацька войны,
Вёў няроўны бой;
Спі, маленькі, будзь спакойны,
Лю-лі, сынку мой.

Прыйдзе час, учуеш стрэлы
Баявога дня;
Стрэльбу возьмеш ты і, смелы,
Сядзеш на каня.
Разуквечу скрозь сядло я
Ніткай дарагой…
Спі, дзіця маё малое,
Лю-лі, сынку мой.

Будзеш дужы з росту-стану
І казак душой.

Выпраўляць цябе я стану —
Ты махнеш рукой.
Колькі тайных слёз пральецца
Горкай ночкай той!..
Спі салодка, маё сэрца,
Лю-лі, сынку мой.

Буду я чакаць, нудзіцца,
У трывозе жыць;
Буду цэлы дзень маліцца,
Ноччу варажыць;
Думаць, што па мне ўздыхаеш
На зямлі чужой...
Спі, пакуль турбот не знаеш,
Лю-лі, сынку мой.

Дам табе я на дарогу
Свой абраз святы:
Перад ім маліся богу
Шчырым сэрцам ты;
Бой жа грымне небяспечны —
Маці памятай...
Спі, анёлак мой сардэчны,
Лю-лі, лю-лі, бай.

## ПАЛОННЫ РЫЦАР

Моўчкі сяджу і гляджу я за краты;
Горка быць вязнем, і бачыць мне сорам
Сіняе неба і вырай крылаты,
Што адгукаецца ў сэрцы дакорам.

Вусны цураюцца грэшнай малітвы;
Не пра любоў вымаўляюцца словы:
Помню я толькі мінуўшчыны бітвы,
Панцыр жалезны і меч шматпудовы.

Сёння мой панцыр — турмы камяніца,
Скінуць каменны свой шлем не магу я,
Шчыт мой ні стрэл, ні мяча не баіцца,
Конь мой бяжыць, ім ніхто не кіруе.

Час, што спяшаецца,— конь мой нязменны,
Краты на вокнах — як шлема забрала,
Панцыр каменны — высокія сцены,
Шчыт мой — астрогу чыгунная брама.

Час, не спыняйся, спыняцца нягожа!
Душна пад новай бранёю мне стала!
Стрэмя пакінуць мне смерць дапаможа;
Злезу і скіну я з твару забрала.

## ХМАРЫ

Сініх нябёсаў вандроўнікі вечныя!
Разам зазналі мы долю суровую —
Гоніць выгнанне вас, хмаркі сустрэчныя,
З поўначы любай у далеч паўднёвую.

Хто асудзіў вас на ўцёкі імклівыя?
Зайздрасць патайная? Злосць непазбытая?
Альбо гнятуць вас злачынствы жахлівыя?
Альбо паклёпы сяброў ядавітыя?

Не, вам абрыдалі нівы бясплодныя...
Вы ні пачуццяў, ні гора не знаеце;
Вечна — халодныя, вечна — свабодныя,
Вы — без айчыны, выгнання — не маеце.

## ЗАПАВЕТ

Сам-насам зараз мне з табой
Хацелася б пабыць:
На свеце мала, браце мой,
Мне застаецца жыць!
Паедзеш хутка ты дамоў,
Дык ведай...
Лёс мой, з тых часоў,
Як выбраўся я з дому,
Не ў галаве нікому.

Пра долю, можа быць, маю
Спытаюць... Гавары,
Што я, паранены ў баю,
Загінуў без пары;
Сумленна за цара памёр,
Паслаўшы лекарам дакор;
Што матчынаму краю
Паклон свой адбіваю.

Але бацькоў маіх наўрад
Ці знойдзеш у жывых...
Засмучваць сумнай весткай, брат,
Я не хацеў бы іх.
Калі жывуць, скажы ім ты,
Што не люблю пісаць лісты,
Што полк мой у паходзе
І што чакаць ім годзе.

Суседка ёсць у іх адна...
Даўно расстаўся там
Я з ёй!..
Ды пра мяне яна
Пытаць не стане... Сам
Ты раскажы ўсю праўду ёй;
Ты не шкадуй душы пустой:
Паплача хай, нябога...
Што ёй з таго?.. Нічога!

## СПРЭЧКА

Неяк раз перад сям'ёю
Волатаў-братоў
Шат сівы з Казбек-гарою
Доўга спрэчку вёў.
«Пільны будзь! — казаў Казбеку
Асцярожны Шат.—
Недарэмна чалавеку
Ты скарыўся, брат!
Набудуе келляў курных
Ён на схілах гор;
У тваіх цяснінах хмурных
Загрыміць тапор.
Прагавітая лапата
Волю будзе мець,
Здабываючы зацята
Золата і медзь!
Бач, мінаюць караваны
Строму той скалы,
Дзе туман насіўся цьмяны
Ды цары-арлы.
Людзі хітрыя! Хоць трудны
Першы быў скачок,
Сцеражыся! Мнагалюдны
Чуць з Усходу крок!»

— Хоць Усход і недалёка,—
Адказаў Казбек,—
Род людскі там спіць глыбока,
Спіць дзевяты век.

Глянь: у засені чынары
Слодыч пенных він
На узорныя шальвары
Сонны лье грузін;
І, схіліўшыся ў ляноце
На дыван, як пан,
У кальянавай пяшчоце
Дрэмле Тэгеран.
Каля ног Ерусаліма
Папялішчам лёг
Нерухома, нелюдзіма
Край, што знішчыў бог;
А далей, святлом заліты,
Мые жоўты Ніл
Спёкай паленыя пліты
Велічных магіл;
Бедуін забыў напады,
І каля шатроў
Ён спявае, зорам рады,
Пра сваіх дзядоў.
Тут увесь абшар вакольны
Спачывае ў сне…
Не, Усход стары не здольны
Паланіць мяне!
«Выхваляйся, ды не дужа! —
Кажа мудры Шат.—
Там, дзе Поўнач, там, дзе сцюжа,
Нешта рушыць, брат!»

Быў Казбек усхваляваны
Сумнай навіной
І, на поўнач скіраваны,
Кінуў позірк свой.
І глядзіць туды знямелы,
Поўны тайных дум;
Бачыць рух незразумелы,

Чуе звон і шум.
Ад Урала да Дуная,
Да славутых хваль,
Калыхаецца і ззяе
Штыкавая сталь.
Развяваюцца султаны
Кавылём-травой,
Уздымаюць пыл уланы
Над сухой зямлёй.
Батальёны скрозь радамі
Шчыльнымі ідуць;
Пад узнятымі сцягамі
Барабаны б'юць.
Батарэі медным строем
Скачуць і грымяць,
І кнаты, як перад боем,
Дымныя, гараць.
Крочыць, грозячы вачамі,
Генерал сівы,
Што не раз прайшоў з палкамі
Шлях іх баявы.
Войска дужае паволі
Сунецца здалёк,
Страшна так, як хмары ў полі,
Шумна, як паток.

І Казбек, высока ўзняты,
Змрочны ад трывог,
Стаў лічыць штыкі, гарматы —
І злічыць не змог...
І, зірнуўшы на суровы
Гурт братоў сваіх,
Шапку ён напяў на бровы
І навек заціх.

## СОН

У спёкі час на ўлонні Дагестана
Свінцом смяротным быў прыкуты я;
Глыбокая яшчэ дыміла рана;
Па кроплі кроў сачылася мая.

Ляжаў адзін я на пяску даліны,
Абкружан скалаў жоўтых ланцугом;
Гарачыня пякла іх верхавіны,
Пякла мяне — ды спаў я мёртвым сном.

І родны сніў я край, і вечаровы
Баль бачыў я, і чуў мой востры слых,
Як пра мяне вясёлыя размовы
Сярод жанок вяліся маладых.

Але адна, пад люстраў яркім ззяннем,
Да жартаў прычыніцца не магла,
І сумным сном, трывожным прадчуваннем
Душа яе ахоплена была;

Ёй сніўся дол спякотны Дагестана;
Знаёмы труп на доле сніўся ёй;
І дымная ў грудзях ягоных рана
Сцякала халадзеючай крывёй.

* * *

Ад роднай галінкі дубовы лісток адарваны,
У стэп пакаціўся, бязлітаснай бураю гнаны;
Засох і завяў ён ад холаду, спёкі і гора;
І вось дакаціўся нарэшце да Чорнага мора.

Ля Чорнага мора стаіць маладая чынара;
З ёй ветрык дурэе, галін не зазмрочвае хмара;
Гайдаюцца райскія птушкі на веццях зялёных,
Марскую царэўну ўслаўляюць у песнях натхнёных.

Вандроўнік прыпаў да карэнняў чынары высокай,
Прытулку шукаючы, гэтак, з тугою глыбокай,
Ён просіць: «Я бедны лісточак з галінкі дубовай,
Да тэрміну выспеў і ўзрос я ў краіне суровай.

Адзін і без мэты даўно я па свеце блукаю,
Без ценю засох я, ні сну, ні спакою не маю.
Прымі ж, прытулі ты чужынца між лісцяў нябесных,
Нямала я ведаю песень і казак дзівосных».

«Навошта ты мне? — маладая гаворыць чынара.—
Ты жоўты і пыльны — сынам маім свежым не пара.
Ты шмат чаго бачыў — навошта мне байкі ды былі?
Мой слых і без іх ужо райскія птушкі стамілі.

Ідзі, не спыняйся, вандроўнік! Цябе я не знаю!
Любімая сонцам, я тут для яго расцвітаю;
Пад небам галіны раскінула я на прасторы,
Карэнні глыбока ў халодным купаючы моры».

* * *

**1**

Я адзін выходжу на дарогу;
Ноч імглой ахутала яе;
Даль прыціхла, молячыся богу,
Зорка зорцы голас падае.

**2**

У нябёсах велічна і згодна!
У блакітным ззянні спіць зямля...
Што ж мне так і цяжка і маркотна?
Што са мной? Чаго шкадую я?

**3**

Не шкадую дзён, пражытых мною;
Лепшых мне не бачыць і не чуць;
Я шукаю волі і спакою!
Я б хацеў забыцца і заснуць!

**4**

Ды не так, як спяць пад крыжам людзі...
Я б жадаў такія ўбачыць сны,
Каб жыццё мае ўздымала грудзі,
Каб паціху дыхалі яны.

## 5

Каб да слыху далятаў з пяшчотай
Спеў кахання і, пад гэты спеў,
Надо мной зялёнаю лістотай
Цёмны дуб схіляўся і шумеў.

## ПРАРОК

З дзён, як суддзёю спраў зямных
Прарока дар мне дараваны,
Чытаю я ў вачах людскіх
Старонкі злосці і заганы.

Натоўпу абвяшчаў не раз
Я праўды і любві вучэнні:
Мне бліжнія мае ў адказ
Шалёна кідалі каменні.

Бег жабраком я з гарадоў
Услед за злоснай пагалоскай
І вось жыву сярод пяскоў,
Як птушка, дарам ежы боскай;

Мне паслухмяна дзень пры дні
Там служаць земныя стварэнні;
І шлюць мне зоры з вышыні
Свае ўрачыстыя праменні.

Калі ж праз горад я, жабрак,
Іду адзін хадой імклівай,
Старыя дзецям кажуць так
З усмешкаю самалюбівай:

«Глядзіце: вось урок для вас!
Вось прыклад гонару пустога:
Дурны, хацеў упэўніць нас,
Што ён гаворыць мовай бога!

Глядзіце ж, дзеці, як зусім
Ён змізарнеў: які ён бледны!
Які худы, які ён бедны,
Як пагарджаюць людзі ім!»

## *З С. Ясеніна*

***

Адыходзім, нібы ў падарожжа,
Мы ў той край, дзе вечны супакой.
Хутка і мая чарга, быць можа,
Тленныя пажыткі браць з сабой.

Любыя бярозы па-над кручай!
Ты, зямля! Прастор мой дарагі!
Перад гэтай доляй немінучай
Не магу я не адчуць тугі.

Вельмі ўжо любіў я ўсё на свеце,
Што ў палон душу маю ўзяло.
Мір асінам, што, прасцёршы вецце,
Заглядзеліся ў рачное шкло.

Шмат я думаў у цішы маркотнай,
Шмат я песень аб сабе злажыў,
І на гэтай на зямлі гаротнай
Тым шчаслівы, што кахаў і жыў.

Тым шчаслівы, што на цёплых межах
Кветкі рваў, валяўся на траве
І звяр'ё, як пабрацімаў меншых,
Колькі жыў, не біў па галаве.

Знаю я, што шыяй лебядзінай
Не звініць там колас ні адзін.
Вось таму і вее дамавіннай
На мяне тугой ад дамавін.

Знаю я, што ў тым краі не будзе
Ніў, заліўшых золатам палі.
Вось таму мне любы свет і людзі,
Што жывуць са мною на зямлі.

* * *

Адгаварыла восень залатая
Вясёлай мовай залатых бяроз.
І выраю, што ўдалеч адлятае,
Ужо нічый не дораг болей лёс.

Чым даражыць? Жыццё, як
вандраванне —
Прайшоў, зайшоў і дом пакінуў свой.
Аб адышоўшых мроіць канаплянне
З шырокім месяцам над заваддзю рачной.

Стаю адзін сярод раўніны голай,
А журавоў знікае чарада,
Аб маладосці думаю вясёлай,
Ды мне ў былым нічога не шкада.

Мне не шкада ні светлае хвіліны,
Мне не шкада пражытых марна дзён.
Гарыць агонь чырвонае рабіны,
Але нікога не сагрэе ён.

Не абгараць рабінавыя кісці,
Пажоўкласць не загубіць асакі.
Так, як раняе дрэва ціха лісце,
Раняю я маркотныя радкі.

І калі час завеяю суровай,
Як смецце, іх зграбе ў адзін грудок…
Скажыце так… што залатою мовай
Адгаварыў бярозавы лясок.

## ДА САБАКІ КАЧАЛАВА

Дай, Джым, на шчасце лапу мне,
Такое лапы я не бачыў зроду.
Пры месяцы, што свеціцца ў акне,
Давай з табой пабрэшам на пагоду.
Дай, Джым, на шчасце лапу мне.

Ты не ліжыся, калі ласка, Джым.
Паслухайся мяне — жыццё не жарты,
Яго не разумееш ты зусім,
Не ведаеш, што жыць на свеце варта.

Твой мілы гаспадар і людзям рад,
І з гучнай славаю ён у сяброўскім ладзе,
Таму ў яго гасцей бывае шмат
І кожны з іх цябе па шэрсці гладзіць.

З тваёй даверлівасцю і красой
Пёс ні адзін не можа параўнацца.
І, не спытаўшы згоды нічыёй,
Як друг п'яны, ты лезеш цалавацца.

Мой любы Джым, у родных сценах тых
Ты з рознымі знаёміўся гасцямі.
Але адной, сумнейшай сярод іх,
Не гаваркой, не прыкмячаў часамі?

Яна яшчэ сустрэнецца з табой.
Ты за мяне ёй, гасцялюб заўзяты,
Лізні руку за ўсё, чым перад ёй
Я вінаваты і не вінаваты.

## ПЕСНЯ

Ёсць адна прыгожая песня салаўіная —
Па маёй галовачцы скарга дамавінная.

Цвіла — бесшабашная, расла — нажавая,
А цяпер схілілася, нібы нежывая.

Думы мае, думы! Насланнё праклятае!
Змарнаваў юнацкія дні свае без ладу я.

Як такое сталася, сам таго не знаю.
Ноччу сэрцам да падушкі жорсткай прыпадаю.

Ліся, песня звонкая, скаргай салаўінаю.
Абдымаў, мне снілася, я сваю адзіную.

За акном гармоніка ўсхліп і ззянне месяца.
Знаю, што ніколі ўжо гэтым снам не здзейсніцца.

Эх, любоў-калініца, кроў — зара вішнёвая,
Як гітара даўняя і як песня новая.

З той жа самай любасцю, радасцю і мукамі,
Што дзядамі пелася, зноў пяецца ўнукамі.

Дык балюйце, юныя, дык не схібце, смелыя! —
Адцвіце каханая, як чаромха белая.

Я адцвіў не знаю дзе — нават не пытаюцца
Тыя, што гарнуліся, а цяпер цураюцца.

І аб тым прыгожая песня салаўіная —
Па маёй галовачцы скарга дамавінная.

Цвіла — бестурботная, была — нажавая,
А цяпер схілілася, нібы нежывая.

* * *

Невыказнае, сіняе, ўсцешнае...
Сціх прастор пасля грому і сцюж,
І душа мая — поле бязмежнае —
Поўна водарам мёду і руж.

Я ўжо іншы. Жыццё праляцела
І не вернецца, плач ці не плач.
Нібы тройка мая ашалелая
Па краіне прамчала наўскач.

Коні дол здраталі. Насмецілі.
Зніклі ў пыле пад д'ябальскі свіст.
А цяпер пад ляснымі веццямі
Нават чутна, як падае ліст.

Ці то бомы? Ці рэха? Спакойнымі
Б'ецца тонамі сэрца ў грудзях.
Стой, душа, мы з табой, нібы коннікі,
Праскакалі прызначаны шлях.

Разбярэмся са справамі нашымі
І з людзьмі і з краінай сваёй,
І даруем, дзе крыўдна зняважылі
Нас па нашай віне і чужой.

Толькі ў трыццаць гадоў прызнавацца мне
Горка ў марнасці п'яных забаў,
Як і ў тым, што ў свой час ад юнацтва
Вельмі мала я патрабаваў.

Але ж гнуцца дубочкі зялёныя
Гэтаксама, як гнецца трава…
Эх, юнацтва, юнацтва залётнае!
Залатая сарві-галава!

* * *

Кожнай працы я жадаю ўдачы!
Рыбаку — каб з рыбай невады,
Сейбіту — каб плуг яго і кляча
Дабывалі хлеб на ўсе гады.

П’юць ваду са шклянак адмысловых,
З конавак таксама можна піць,
Можна піць са сподкаў жалудовых,
Калі дуб над рэчкаю стаіць.

Добра мне ў траве ляжаць духмянай
І ў падманную глядзецца гладзь,
І раўнівы позірк закаханай
На сабе, астылым, прыгадаць.

Драч рыпіць... рыпіць, рыпіць у лузе...
Вось чаму не смуціцца народ,
Што, з вясёлай працай у саюзе,
Апрасцеў пад ношаю турбот.

Толькі я забыў часы былыя
І цяпер аб тым спяваю сам,
Сузіральнік марны — што чужы я
Дарагім мне нівам і лясам.

Нібы нехта некага шкадуе,
Нібы хто ад родных ніў адвык,
І таму над багнай лемантуе,
Плача ў сэрца каня і кулік.

•ккк

Я іду далінай. Набак збіта кепі,
У пальчатцы белай смуглая рука.
Ружавеюць далі ў неабсяжным стэпе,
Ціха гоніць хвалі сіняя рака.

Я ў жаданнях сціплы. Сэрцам бестурботным
Толькі б слухаць песні — адгукацца ім,
Толькі б дыхаць вольна ветрыкам лагодным,
Толькі б не згінацца станам маладым.

Выйду за дарогу я туды, дзе плёсы,—
Колькі там святочных мужыкоў і баб!
Штосьці шэпчуць граблі, штосьці свішчуць
косы.
«Эй, паэт, паслухай, слаб ты ці не слаб?

Ты любіў бы працу так, як любіш долы.
Ці не час спускацца на зямлю з нябёс?
Ці вясковым хлопцам ты не быў ніколі?
Спрыт свой пакажы нам, правядзі пракос».

Ах, пяро не граблі, ах, каса не ручка —
Ды радкі выводзяць і касы лязом.
Пад дажджом, пад сонцам гучна і не гучна
Іх чытаюць людзі сенакосным днём.

К чорту я скідаю свой касцюм англійскі.
Што ж, касу давайце, я вам пакажу —

Ці я вам не свойскі, ці я вам не блізкі,
А ці ўвагай вёскі я не даражу.

Ямы не зашкодзяць, пні не перашкодзяць.
Хораша касою ў ранішні туман
Тыя травяныя мне радкі выводзіць,
Каб і конь чытаў іх і вітаў баран.

А ў радках тых — песня, а ў радках тых —
слова.
Вось таму і рады я за касільном,
Што чытаць іх можа кожная карова,
Плацячы за гэта цёплым малаком.

## З ПАЭМЫ «САРАКАЎСТ»

Ці бачылі вы,
Як імчыць з начы,
У тумане рачным па пояс,
Жалезнай наздрой храпучы,
На лапах чыгунных поезд?

А за ім
Па густой траве,
Як на гонках шалёных, няйначай,
Капыты закідваючы к галаве,
Жарабя танканогае скача?
Ну куды, пацяшаючы ўсіх,
Неразумнае, любае, гоніцца?
Хіба не ведае, што коней жывых
Абагнала стальная конніца?
Хіба не знае, што ў прасторах зялёных
Не абудзіць ягоны бег
Той пары, калі пару красунь палонных
Аддаваў за каня печанег?
Перайначыла доля кірмашамі сучасся
Наш абуджаны скрогатам плёс,
І за тысячы пудоў конскай скуры і мяса
Купляюць цяпер паравоз.

*З М. Іванаўскага*

**МАЙСТРЫ ЗЯМЛІ**

У далях, дзе травы, як збожжа, раслі,
Дзе жыта ўзнялося сцяною,
Стаялі майстры ураджайнай зямлі,
Вядомыя славай сваёю.

Не верачы нібы ў свой поспех буйны,
Нібыта ўсё гэта здалося,
Глядзелі на поўнач,
На поўдзень яны
І жоўтае рвалі калоссе.

Сваю перамогу прыйшлі правяраць,
Бо блізка ўжо час умалота;
Вось тут, дзе квітнее цяпер сенажаць,
Дыміла сівое балота.

Крывое карэнне сваё лазнякі
У глебу пускалі глыбока,
Зялёныя пікі глухой асакі
Цалялі прахожаму ў вока.

І быў гэты край краем цёмным дасюль,
Бярлогаю чорнаю смерці,
Праз тысячы год
Забабонных бабуль
Пужалі балотныя чэрці.

Ды людзі паўсталі, каб знішчыць чарцей,
Каб светлыя здзейсніць намеры,

На ногі паставілі
Жонак, дзяцей,
Далі ім лапаты, сякеры.

І там, дзе не кожны мог пеша прайсці,
Дзе падалі коні ад змогі,
Яны правялі пад’язныя пуці,
Яны пратарылі дарогі.

Маўклівасць дрымотную кожнай вярсты
Знішчалі яны
Сваёй працай высокай.
І поле ўлілося ў зямныя пласты
Вясёлай
Жытнёвай затокай.

Ляглі перад імі, як мора, лугі,
Зара іх святлом залівае,
І свежага сена крутыя стагі
Духмяней цэйлонскага чаю.

І ў свята, як чутны гармоняў лады,
А косы пад стрэхамі немы,
Глядзець на багацце прыходзяць сюды
Героі і творцы паэмы.

Нібы зачараваны сном дарагім,
Стаяць у жытнёвым затоне,
Пад шум яго ўсцешаны зернем буйным,
Якое ляжыць на далоні.

Стаяць, размаўляюць ледзь чутна
майстры,
І моўкнуць размовы іх тыя,
Здаецца, што рукі ад промняў зары
У кожнага з іх —
Залатыя.

## У ВАНЮШЫ ПАЛІ НЕЎЗАРАНЫЯ

У Ванюшы палі неўзараныя,
Закруціла Ванюшу каханая.
Што ні дзень там, дзе ельнік канчаецца,
Ён з дачкой млынара сустракаецца.

Засыпае дзяўчыну ён ласкамі,
Дагаджае прыгожымі казкамі,
Забаўляе яе ён размовамі
Пра каханне высокімі словамі.

А ў сяле, каля студні, як водзіцца,
Дзе кума ды з кумою сыходзіцца,
Слова сказана ўжо канчатковае
Пра вяселле абавязковае:

«Хлопец ладны, нявеста выгодная...»
Але выйшла якраз адваротнае.

Сход ячэйкі вясковай прызначылі,
Там вымову хлапцу прымастачылі
За такія да справы адносіны,
Што ўступіў з кулаком ён у зносіны
І што ў летнюю ночку сінюю
Пакрывіў камсамольскую лінію.

Прысмалілі яму, прымастачылі
І пра ўсё ў пратаколах адзначылі:
Не хадзі на парогі чужацкія,
Не глядзі на харомы кулацкія.

## У ЗАШТАТНЫМ ГОРАДЗЕ

У драўляным горадзе
з дахамі зялёнымі
Ёсць глухія вулачкі,
ціхія куткі,
Там жывуць дзяўчаты
і чытаюць «романы»,
У альбом запісваючы
чулыя радкі.
Валасы ўпрыгожваюць
стужкамі ды кветкамі,
І, калі міне
семнаццаць ім,
Сціплымі пісулькамі,
томнымі сакрэткамі
Прызначаюць стрэчы
ў садзе гарадскім.
Словы ўсё таемныя,
словы ўсё трывожныя,
З марамі аб кудзерах
аб залатых,
Ставяць шэраг кропак
пасля сказа кожнага
І зусім не ставяць
косак тых.

І ў адказ на пісьмы,
на тугу сардэчную,
І насустрач цішы,
змрокам і вясне

Дзынкне мандалінай
старана Зарэчная,
І заскачуць гукі
па густой струне.

Даль нябёс над лініяй —
чыстая і сіняя,
За млыном старэнькім —
цёплы плёс ракі.
І стаяць над рэчкай,
і брыдуць па лініі,
Дзе праходзяць хуткія
цягнікі.

Цягнікі згадаюць
светлымі вагонамі,
Сінімі, зялёнымі,
бемскім шклом сваім,
Што за кіламетрамі
ды за перагонамі
Людзі ёсць і справы ёсць
іншыя зусім.

І рванецца сэрца
з горада заштатнага
У прастор шырокі,
непазнаны свет,
І самотна зробіцца
маладым дзяўчатам,
І ўздыхнуць дзяўчаты
цягнікам услед.

## РАЗВІТАННЕ

Ёсць загад: яму — на захад,
Ёй — другая старана...
Разлучала камсамольцаў
Грамадзянская вайна.

У паход яны спяшалі,
Пакідалі ціхі край.
— Ты мне, родная, што-небудзь
На дарогу пажадай.

І дзяўчына адказала:
— Я жадаю ўсёй душой —
Калі смерці, то раптоўнай,
Калі раны, то малой.

А яшчэ жадаю, дружа,
Я табе ўсяго мацней,
Каб дадому з перамогай
Ты вяртаўся як хутчэй.

Ён, пацiснуўшы руку ёй,
Паглядзеў у вочы зноў:
— А яшчэ цябе прашу я —
Напішы мне пару слоў.

— А куды пісаць я стану?
Як дазнацца, адкажы?
— Ўсё адно,— сказаў ён ціха,—
Куды-небудзь... напішы.

## АПАВЯДАННЕ ПРА СЦЯПАНА І ПРА СМЕРЦЬ

1

Да хаты Сцяпана вясной, перад вечарам,
Смерць ціха прытупала сцежкай глухой.
— Сцяпан Аляксеевіч! Думаць тут нечага...
Сцяпан Аляксеевіч! Я — за табой.
Як бачу, прапала ўжо сіла жалезная,
Ляжыш дармаедам, як я пагляджу...
— Што праўда, то праўда — хварэю ўсю весну я,
Што праўда, то праўда — на печцы ляжу.
Даўно ўжо задумаў я думу няўцешную,
Даўно адышоў ад палёў і двара...
— Ну, што ж, падрыхтуй, брат, душу сваю грэшную,
Сягоння твая надыходзіць пара...
— Гатоў я. І дошкі абчэсаны... вось яны...
І выбрана месца... Дарога адна...
Аднак ці не лепш пачакаць бы да восені?
Такая ўжо добрая сёння вясна.
Хачу перад ноччу сваёю бясконцаю
Апошняе лета пажыць між людзей,
Хачу на святло наглядзецца, на сонца я,
Каб спаць у зямлі той было мне лягчэй.
Ды зноў жа, сама зразумей, хоць і хворага,
Хоць старага, ды непакоіць мяне —
Што нашыя вырашылі пра ворага,
Што будзе, як будзе далей на вайне.
Дазнаюся ўсё і памру я, усцешаны,
Ні словам, ні справай табе не зману...

І смерць адказала:
— Да снегу да першага
Даю табе часу, знай ласку маю.

2

Вось лета мінула. Пакосы пакошаны,
Хлябы абмалочаны. Ціха вакол.
Сцяпан паглядзеў у акенца: парошаю
Засланы і стрэхі, і дрэвы, і дол —
І сумны зрабіўся, бо ўбачыў — спяшаецца
Знаёмая госця з касою праз гай.
— Сцяпан Аляксеевіч! Тэрмін канчаецца...
Сцяпан Аляксеевіч! Слова стрымай...
— Што праўда, то праўда... Прыйшла за мной, значыцца,—
Гаворыць Сцяпан,— адслужыў і ў запас.
Вось толькі тут справа такая прадбачыцца,
Што мне паміраць немагчыма, не час.
За ўсё ўжо сумленне пасля адквітаецца,
А сёння патрэбна было б мне пажыць:
У нашым у доме прыбытак чакаецца —
Нявестка мне ўнука павінна радзіць.
І хочаш не хочаш, прычына знаходзіцца.
Мне тут паблукаць бы з дазволу твайго,
Мне б тут дачакацца, калі ён народзіцца,
Дазнацца б — які ён, чым клікаць яго.
І часу ці многа патрэбна на гэтае?
Ну, месяц, ну, два... Пагадзіся са мной!
Калі будзе мір, да таго ж, я не ведаю,
На ворагаў лепш падалася б з касой.
А там — і прыходзь. Адмярай тры аршыны мне,—
Не будзе Сцяпан турбавацца нічым.
І ляжа ў зямлю ён той самай хвілінаю,
Спакойны, здаволены племем сваім.
Салдата, што ў бітвах мінулых адзначаны,

Паслухаць не грэх... Я прашу, не ганю...—
І смерць адказала:
— Хітруеш ты, бачу я,
Ды добра, я згодна, знай ласку маю.

3

Мароз адрыпеў. Адшумела мяцеліца.
Прачнулася ўсё ад зімовага сну.
Туман вечаровы над рэчкаю сцелецца,
На ўзлессі гукаюць дзяўчаты вясну.
Ручай пакаціўся з узгорка і, звонячы,
У поплаў пабег, малады баламут...
Сцяпан з дому выйшаў — дзень выдаўся
сонечны
Рассеўся на лаўцы і ладзіць хамут.
І люба Сцяпану, і кліча прастор яго
Блакітны, вясновы, жыццёвы, людскі:
Не мелі, відаць, спадзявання на хворага,
А хворы той, вось ён, выходзіць, які!
І сам — хоць куды, і работа не валіцца
Са старых са спрытных Сцяпанавых рук.
А ўнукам напраўду Сцяпан не нахваліцца,
Ды як нахваліцца? — арол, а не ўнук!
З гадамі збярэцца ён з розумам, з сілаю
І смела — ў жыццёвы, людскі акіян!
Стары раздумоўваў... І гэтаю ж хвіляю
Пачуў за сабой:
— Ці гатоў ты, Сцяпан?
Сцяпан азірнуўся.
— Прыйшла зноў, з'явілася!
А я, прызнаюся, забыў пра цябе:
Састараў я, памяць, відаць, памуцілася,-
І помніць усё мне нялёгка цяпер.
— Ой, маніш,— вандроўніца з ім
не згаджаецца,
Зусім адурнеў ты з маёй дабраты!

Я думала — ўсё ўжо... А ён не спяшаецца —
Рассеўся і ладзіць сабе хамуты!
Няўжо я дарэмна даль гэткую мерала?
Нічога сабе, адудзячыў, аднак!
А я на сумленнае слова паверыла,
Маніць мне не станеш ты, думала так.
Стары не стрымаўся:
— Бач, бач, ускруцілася!
Ты думала? Думала, значыць, дарма!..
Ды, зрэшты, чаго сапраўды прычапілася,
Як быццам другога занятку няма?
За мною ўсё ходзіш адною дарогаю,
Стаіш над душой, а не знаеш таго,
Што хутка ўжо вернецца сын з перамогаю
І піша ён мне, каб чакаў я яго.
І як ні сустрэць яго песняю, працаю?
Дзень гэткі і мёртвага з месца скране.
Абразіцца сэрца вялікай абразаю,
Як прыйдзе святочны мой дзень без мяне.
Не ў час ты зваліць мяне прымеркавалася,
Не ў час захацела мяне загубіць:
І што б ні было там, і што б там ні сталася,
А Гітлера мусіць Сцяпан перажыць.
І што ні рабі, ні прыдумвай ты занава,—
Пакуль не пачую, што Гітлер падох,
Ты лепш не глядзі на акенца Сцяпанава,
Ты лепш не ідзі да яго на парог.
Кажу табе праўду, ні слова не тоячы,
Не стой нада мною, ідзі ўжо хутчэй!..—
Падумала смерць, памарудзіла стоячы,
Махнула рукою і знікла з вачэй.

## МАЛЕНСТВА

> Играйте же, дети, растите на воле,
> На то вам и красное детство дано.
>
> М. *Някрасаў*

1

Даўно ўжо было гэта, помню, са мною,
Ў смаленскай глухой старане,
У поле, за вёску, аднойчы вясною,
Маленства прыйшло да мяне.

Прыйшло і сказала:
— Твае аднагодкі
Ля сажалкі ў зборы з відна.
А ты сіратою сумуеш на ўзгорку,
Як быццам вясна — не вясна.

Няўжо сапраўды ты са мной не жадаеш
Лавіць матылёў на ляту,
Ручай пераскочыць ахвоты не маеш,
Згуляць на палянцы ў лапту;

На дуб высачэзны ўскараскацца мігам
Ці выразаць дудку-красу?..
— Мне хочацца вельмі,— адказваў я ціха,—
Ды, бачыш, я свінні пасу.

Спакою не маюць яны на папасе,
За імі глядзі ды глядзі.
І бегаць з табой, разумееш, не час мне,
Як-небудзь пасля ты прыйдзі,..

2

Ліпнёвай парою прыйшло залатое
Маленства ізноў к хлапчуку.
І слова ля прызбы гаворыць такое:
— Ты што гэта — зноў убаку?

Напэўна, забыў, што даспела маліна,
Што весела сёння ў бары?
Напэўна, не знаеш — якога наліма
Учора злавілі сябры?

— Я знаю,— сказаў я самотна на гэта,—
Ды толькі пайсці не магу:
Бацькі мае ў полі заняты ўсё лета,
Я ж хату ўвесь час сцерагу.

Са мной яшчэ брат мой малы, двухгадовы,
Не кінеш яго аднаго:
У лужыне ён захлынуцца гатовы
Ці бык забадае яго.

Дзень цэлы ганяю курэй з агароду,
Ніяк я ім рады не дам!
Зганю іх — як быццам не йдуць яны ў шкоду,
А гляну — і зноў яны там...

Я гэтак казаў — у сваё апраўданне,
Казаў, не шкадуючы слоў...
Махнуўшы мне палачкай на развітанне,
Маленства пайшло маё зноў.

3

Прыйшло яно зноўку халоднай зімою
У бедны, нярадасны дом,

Руку маю сціснула цёплай рукою:
— Ідзём жа,— сказала,— ідзём!

Прыдумаць я забаўку здольна любую,
Са ўсякай знаёма гульнёй:
Мы вылепім бабу з табой снегавую,
Пакідаем снежкі з табой;

На санках, як вецер, ляцець будзем з горкі,
Імчаць на каньках, як у сне...
— Я вельмі хацеў бы...— адказваў я горка,—
Ды, мусіць, не суджана мне.

Хіба ты забыла, што сёння не лета?
Мне выйсці няма ў чым, павер.
Сяджу я разуты, сяджу я раздзеты,
І хлеба няма ў нас цяпер.

Ты лепей вясной...— папрасіў я нясмела,—
Прыйдзі... калі цёпла... ў сяло...
Маўкліва яно на мяне паглядзела
І, цяжка ўздыхнуўшы, пайшло.

Маленства пайшло маё, знікла, прапала,—
Было гэта вельмі даўно...
А можа зусім яго не існавала,
Прыснілася толькі яно.

*З Т. Шаўчэнкі*

*  **

Каля гаю ў чыстым полі,
На самай магіле,
Дзве высокія таполі
Адна адну хіляць
І без ветру гайдаюцца —
Нібы б’юцца ў полі.
Дзве сястрыцы-чараўніцы
Гэтыя таполі.

Закахаліся абедзве
Ў аднаго Івана;
А Іван, казак звычайны,
Абаіх не ганіў.
А гуляў сабе то з тою,
То з гэтаю люба,—
Покуль у яры увечар
Стрэліся пад дубам
Усе трое.— Кат паганы! —
Дзяўчаты сказалі.
Труцця-зелля на Івана
Дзве сястры шукалі.
Труцця-зелля, каб Івана
Заўтра атруціці.
Знайшлі зелля, накапалі,
Пачалі варыці.
Заплакалі, зарыдалі,—
Ды трэба рабіці:
Варыць трэба! Наварылі,

Хлапца атруцілі,
Пахавалі каля гаю
Ў полі на магіле.
І ўсяго там? Але потым
Дзве сястры хадзілі
Штодзень божы раным-рана
Плакаць над Іванам,
Покуль сябе атруцілі
Тым зеллем паганым.
Бог іх людзям на навуку
Паставіў у полі
На магіле таполямі.
І тыя таполі
Над Іванам, на магіле,
Каля тога гаю,
І без ветру гайдаюцца,
І вецер гайдае.

* * *

Палюбілася я,
Павянчалася я
З нешчаслівым сіратою
Бо то доля мая!
Злыя людзі ўзялі
Яго з роднай зямлі
І павезлі да прыёму —
У салдаты здалі!
І салдаткаю я,
Адзінокаю я
Стараюся ў чужой хаце
Бо то доля мая!

* * *

Ой, я свайго чалавека
У дарогу паслала,
Ад карчомкі да карчомкі
Сцежачку таптала.
Да кумы я забягала
Пшана пазычаць
Мае дзеткі есці просяць
У халоднай хаце.
Есці гатавала
І спаць укладала,
Сама пайшла да дзяка
Здабываці пятака
Дый заначавала.
Ледзьве з Крыма мой дружок
Свае ногі давалок;
Валы паздыхалі,
Вазы паламалі,
З бізунамі чумачэнькі
Дадому дыбалі.
Увайшоў у хату,
Упаў на палаткі:
Лазяць дзеці галодныя
Ў запечку без маткі.
— А дзе ваша, дзеці, маці? —
Няшчасны пытае.
— Тата, тата! Наша маці
У карчме гуляе.

* * *

А навошта мне жаніцца?
Ды навек звязацца?
Будуць з мяне маладога
Казакі смяяцца.
— Ажаніўся,— яны скажуць,—
Галодны і голы;
Занапасціў, неразумны,
Маладую волю,—
Яно й праўда. Што ж рабіць мне?
Скажыце мне, людзі!
Хіба йсці да вас у наймы?
Ці да ладу будзе?
Я чужых валоў не буду
Пасвіць, заганяці;
Не буду я ў чужой хаце
Цешчу паважаці,
А буду я красавацца
Ў блакітным жупане
На коніку вараненькім
Перад казакамі.
Знайду сабе чарнаброўку
Ў стэпу пры даліне —
Высокую магілачку
На той Украіне.
На вяселле таварыства
Прыйдзе ўсёй грамадай
Ды вынесе самапалы,
Выкаціць гармату,
Будуць несці таварыша

Ў новыя пакоі,—
Загамоняць самапалы,
Загудуць набоі.
Як палажаць атамана
У новую хату,—
Загалосіць, нібы маці,
Голасна гармата.
Гукаць будзе, крычаць будзе
Не адну гадзіну,
Паразносіць тую славу
На ўсю Украіну.

***

Ой, крыкнулі шэры гусі
Ў яры на ставу;
На ўсё сяло пайшла слава
Пра тую ўдаву.
Не так слава, не так слава,
Як той нагавор,
Што заехаў казак з Сечы
Да ўдавы на двор.
— Вячэралі ў светлай хаце,
Мёд-віно пілі
І ў пакоі на пасцелі
Адпачыць ляглі...—
Не мінула тая слава,
Не марна пайшла:
Ўдава тая маладая
Сына прывяла.
Маленькага гадавала,
Да школы вяла,
А як скончыў сын вучыцца,
Каня набыла;
А каня яму купіўшы,
Вышыла сядло —
Яно ў золаце зіхцела
І ў шаўку было;
У чырвоным у жупане
Сын ішоў на шлях —
На каня яго саджала:
Ворагам на страх!
— Паглядзіце! — Маці з сынам

Ішла ўздоўж сяла
І, прывёўшы да абозу,
У войска здала,
Л сама яна ў манашкі
У Кіеў пайшла...

* * *

Ой, люлі, люлі, мой родны сыне,
Ўдзень і ўначы.
Пойдзеш, сыночак, па Украіне,
Нас кленучы.
Сыне мой, сыне! Не кляні татку,
Не памяні!
Кляні, мой родны, родную матку,—
Мяне кляні!..
Мяне не стане,— не йдзі ты ў людзі,—
Ідзі ты ў гай:
Гай не спытае, бачыць не будзе,—
Там і гуляй!
Там да каліны сябе, дзіцятка,
Ты прыхіні!..
Яе любіла я — твая матка,
Ў былыя дні.
У сёлы пойдзеш, у тыя хаты,
Дык — не нудзі;
А як пабачыш з дзеткамі маці,
Дык — не глядзі!..

* * *

У дзяўчыны Кацярыны
Хата на памосце;
З славутага Запарожжа
Наехалі госці:
Адзін Сямён Босы,
Другі Іван Голы,
Трэці, слаўны Ўдавічэнка,
Іван Ерашэнка.
— З'ездзілі мы Польшчу
І ўсю Украіну,
А такой, як Кацярына,
Не знайшлі дзяўчыны.
Адзін кажа: — Браце,
Каб меў я багацце,
Аддаў бы я ўсё золата
Гэтай Кацярыне
За адну гадзіну.—
Другі кажа: — Дружа!
Як быў бы я дужы,
Дык аддаў бы усю сілу
За адну гадзіну
Гэтай Кацярыне.—
Трэці кажа: — Дзеці!
Няма таго ў свеце,
Чаго я зрабіць не змог бы
Для красуні Кацярыны
За адну гадзіну.—
Падумала і трэцяму
Кажа Кацярына:
— Ёсць у мяне брат адзіны,

Што ў няволі гіне,
Недзе ў Крыме прападае.
Хто яго дастане,
Той з вас мужам, запарожцы,
Маім мужам стане.—
Разам паўставалі,
Коні пасядлалі,
Паскакалі ў стэп заўзята
Вызваляці брата.
У Дняпровым горле
Аднаго згубілі;
Другога ў Казлове
На кол пасадзілі;
Трэці, Іван Ерашэнка,
Слаўны Ўдавічэнка,
З лютай няволі,
Ды з Бахчысарая,
Брата вызваляе.
Заскрыпелі рана дзверы
У вялікай хаце.
— Падымайся, Кацярына,
Брата сустракаці! —
Як зірнула Кацярына,
Як загаласіла:
— То не брат мой, а мой мілы
Я табе зманіла.—
— Ты зманіла! — І дзяўчыну
Спаткала магіла
На парозе...— З гэтай хаты
Пойдзем, родны браце! —
Паехалі запарожцы
Вецер даганяці.
Кацярыну ў чыстым полі
Людзі пахавалі,
А слаўныя запарожцы
Там братамі сталі.

*З А. Малышкі*

## СЛОВА

Другія за ноч выціскаюць паўтысячы
Гладкіх радкоў, радкоў-недарэк,
Мне б слова адзінае крэсівам высечы,
Каб сэрца паліла не ноч, а век.

Каб не ўпадала ў скорагаворку,
Сядзела, як сторож, каля варот,
Курыла б са мною адну махорку,
Дзяліла б са мною і хлеб, і пот.

Мяне нагадвала б рысай кожнаю,
Любіла б вандроўкі і гром вясны,
З сініх дажджоў, пад смугой дарожнаю,
Ткала б зямлі маёй дываны.

Альбо, прыбраўшыся жвавым хлопчыкам,
Свет вымярала б з канца ў канец,
Са мной схіляючыся над акопчыкам,
Над кожным грудком, дзе ляжыць баец.

А як народзіцца вершык з голасам,
Не будзем пярэчыць мы, хай тады
Пшаніца звініць у ім спелым коласам,
Літаўрамі плошчаў гудуць гарады.

З тваімі трэмбітамі і патокамі,
Шляхамі, агнямі залатавокімі
Няхай працаўніца-зямля ўстае,
Слова маё!
Словы мае!

## ГРОМ

Гром спачатку ўдарыў над Падолам,
Залпам раскалоўшы сіняву,
Пракаціўся з рокатам вясёлым,
Маладую хілячы траву.

Сінім бляскам асляпіў крыніцу,
Верасамі, смолкамі запах,
І яго стальную калясніцу
У вільготных бачылі палях.

Як агонь чырвоны, бег па ўлонні
Свежых ніў, дажджом абмытых ніў,
Як ляцелі коні цераз гоні,
Заламаўшы бліскавіцы грыў!

Сцежкі і шляхі, лясы і хаты,
Хлебныя прасторы і лугі —
Беглі ўсе за громам, як салдаты,
Пад яго барвовыя сцягі.

## ЖАЎРУК

Над красавіковым наваколлем,
Над шырокім сінявокім полем,
Над дарогай, дзе грукоча гром,
Над дубком, з яго шумлівым голлем,
Ён трымціць, спявае, б'е крылом.

Заплятае ў песню-берасцянку
Гук матора ў полі на світанку,
І матор не чутны, а звініць
Між зямлёй і небам срэбра ніць.

А каб ліўся спеў у сэрца шчыра,
Ён падхопіць слова брыгадзіра,
Жыта шум, што ўсё расой цвіце,
І ў сваю мелодыю ўпляце.

Новы дзень арцельнае сядзібы.
Баразён нарэзаныя скібы,
Газы пах і гаркаваты дым,
Роўны гул матора на запраўцы,—
Ажывае ўсё і гімнам працы
Рвецца ў неба, радуецца з ім!

Жаўруку ж і гэтага замала,
Ён начы зрывае пакрывала,
Сее, сыпле ў зеляніну ніў
Золата плугоў, што сам адліў!

І, аддаўшы працадню даніну,
Як хлапчук на мяккую пярыну,

Падае ад стомы на раллю:
— Ўсю цябе ў свой шчэбет пералью!

Ад вачэй людскіх узяўшы чары,
Ад зямлі — абшары, зноў пад хмары
Непрыкметны кінуўся пасля.
І да жаўрука, нібы да мары,
Цягнецца з любоўю ўся зямля.

* * *

Я жыццё не пражыў за глухою
цяжкою сцяною,
Гаварыць буду тое,
што ў сэрцы запісана мною.
Жыў я голасам ніў
на дняпроўскім прыволлі
шырокім,
Бачыў збожжа разліў,
як яно наліваецца сокам,
Бачыў птушкі разгон,
што маланкаю
крэсліла хмару
Пасылаў наўздагон
акрыленую думку і мару,
Бачыў люстра крыніцы,
калі вар'яцела навала,
Бачыў бляск бліскавіцы,
што цёмную ноч асвятляла.
Дык скажыце цяпер,
ці я жыў за глухою сцяною?
Хочаш вер ці не вер —
гэта ў сэрцы запісана мною.
Шмат жыццё мне дало
і сяброў без хвальбы і без
здрады,
Бо хвальба — гэта тло,
а для здрады не трэба парады.
Я іх думамі жыў,
і сябры маіх дум не міналі,

Я з крыніцы іх піў,
і яны да маёй прыпадалі.
Я прыходзіў да іх,
як да ўласнага, роднага дома,
Ім да сенцаў маіх,
як да ўласных, сцяжынка
вядома.
І была ў нас гасціннасць,
што хлебам і соллю багата,
І была ў нас адзінасць,
як з братам у роднага брата.
Хочаш вер ці не вер —
гэта ў сэрцы запісана мною.
Дык скажыце цяпер,
ці я жыў за глухою сцяною?
На сцяжынцы расянай,
як зоры, свяцілі мне вочы.
Гэта позірк каханай
мне шлях асвятляў сярод ночы.
І яе пацалунак,
і шчырага сэрца прызнанне —
То зямлі падарунак,
гарачага стэпу дыханне.
Можа ў часе трывог,
у цяжкія гады неспакою,
Людзям я дапамог
і душою, і песняй малою,
Хай яна не глыбока
кранула іх мовай сваёю,
Толькі гэта далёка
не ўсё, што запісана мною.

* * *

Усё часцей у адрас мой папрокі:
На трох шляхах ён вышыні дасяг —
Юнацтва час, франтоў суровых крокі,
А потым — мір, працоўнай славы сцяг.
Маўляў — аддаўся пэўнай плыні ён
І круціцца ў замкнутым коле дзён...

А як жа мне: забыць свае гады,
Той непаўторны, ясны час дзіцячы,
Дзе каласы кладуцца ў сноп гарачы
І дзе цвітуць вішнёвыя сады.
Дзе круціць люты сівер завірух
І замятае шлях на небакраі,
Жалейка грае, сэрца разрывае,
Журба мая і мой сардэчны друг.

Дзе ўпершыню я вывучаў скрыжалі,
Напісаныя вяззю залатой,
Як чуў ад маці словы песні той,
Што мне ў душу на ўсё жыццё запалі.

Хіба, скажыце, ў тым мая віна,
Калі мне ў грудзі ўдарыла вайна,
Што аўтамат салдацкі ўзяў я ў рукі,
Слязу каўтаў, адчуўшы боль разлукі,
І гневам жыў, і гора піў да дна,—
За хлеб, за соль, за кожны каласок,
І за жальбы дзіцячай галасок,
І за ручай, крывёй афарбаваны,

За плынь ускаламучанай ракі,
За тое, што паўстануць мерцвякі
І прынясуць свае жывыя раны
На суд людскі?
За ўсё я гора піў:
За попел гарадоў і лямант ніў.

За чорны, люты холад у акопчыку,
За шлях бамбёжак аж да небыцця,
Дзе давялося мне, маломý хлопчыку,
Таксама забіваць — дзеля жыцця.
Усё на сэрца мне лягло тады
На ўвесь мой век, на ўсе мае гады.

І ўстане шчасце, і загоіць боль,
Я жыта палюбіў, а не куколь,
Мелодыю жалеза ў добрым плузе,
І палявую рунь, і кветкі ў лузе,
Працоўны супакой у роднай хаце,
Вяселляў гук, і першы крык дзіцяці,
І нават слёзы я любіць гатоў,
Што не вайна нясе нам, а любоў!

І сэрцам авалодала маім
Дарога зноў, адважных мар прыгода.
І праца зноў,— я толькі сын народа,
Малы лісток на дубе векавым!

* * *

Я не зайздрошчу ні душой убогім,
Ні іх жыццю, што ў сытым сне міне,
Няхай яны зайздросцяць тым дарогам,
Трывогам тым, што дасталіся мне.

Я не зайздрошчу дробным іх размовам,
Ліслівы тон душы не закране,
Няхай яны маім зайздросцяць словам,
Якія боль і радасць для мяне.

Яны, як жар, яны, як вугаль чорны,
Ад маці дар належыць мне такі,
Мне — сталь каваць з тых слоў у сэрца
горне,
А не разменьваць іх на пятакі.

* * *

Калі б я ў сэрца мог усю дазвання
Энергію ад атама забраць,
Што не дае спакойна людзям спаць
І набліжае хвілю руйнавання,—

Я выбухам знішчаў бы ўсю брыдоту:
І крывадушнай здрады чорны цень,
Нястач, і бед, і гора горкі дзень,
І крыўд каранаваную істоту.

Я б папярэдзіў выбухам з'яўленне
Людской няволі новай. Горы зла
Ператварыў бы я ў нікчэмнасць тла,
Як ганьбы знак, як шкоднае насенне.

Я б дэспатаў прымусіў даць адказ
За час крывавы іх, скруціў ім рукі,
І пасадзіў бы ў клетку, як на мукі,
І выставіў бы свету напаказ.

На ўзмежку дзён наступных і былых —
Не для злачынцаў подлых і ліхіх —
Сады ўзрасціў бы людзям раскаваным
І сэрца, з пачуццём замілаваным,
Паставіў бы на варце каля іх.

* * *

— Пакінь, браток, спяваць пра ручнічок,
Няўдзячную абраў для вершаў тэму.
Каб ты пісаў раман альбо паэму,
Эпохай кожны дыхаў бы радок,

Вось так было б!
— Ну што ж, усяк было...
Яно вось так у песні расцвіло,
Як вылілася з сэрца. Апаўночы
Той ручнічок мне трапіўся на вочы,
З чырвона-чорным колерам двайным —
Пажару і вайны, тугі і перамогі,
Святла зары і чарнаты дарогі
Ваенных дзён, што вышыты на ім.
Той ручнічок мне маці даравала,
Каб сэрца родны дом не забывала,
Дзе еў хлеб-соль, зазнаў салёны пот,
І радасці малыя, і няўдачы,
І першы сум, і першы цуд дзіцячы,
З барвоваю зарой каля варот.

Я разгарнуў яго, як шыр нябёс,
Як напамінак аб далёкай хаце,
Найдаражэйшы падарунак маці —
Мінулы мой і будучы мой лёс.
Яшчэ скажу, слоў шкадаваць не след:
Як ім утруся — лепей бачу свет.

* * *

Пытаю доўгі шлях з трывогаю глыбокаю,
Зірні — дубок малы, а прагне вышыні,
Ручай амаль сухі, а глянь — ракой
шырокаю
Ён праз вякі цячэ, набраўшы глыбіні.
А я ў напружанні, а мне, як вучню, сорамна
За ўсё, што вывучаў і вывучыць не змог,
І мне чарнавіком здаецца ўсё, што створана,
І песня не ўзышла яшчэ на мой парог.

* * *

Адсей куколь і адбяры насенне,
Засей прасторы ім і не спачынь на тым,
А працаю сваёй і доглядам сваім
Пільнуй, як гаспадар, пшаніцы нараджэнне.

Начэй недасыпай, зары не прасыпай,
Каб зашумела рунь зялёная, як гай,
Каб плыў, і плыў, і плыў, мароз пазбыўшы
лютыя,
Пад сонцам веснавым яе паток раскуты
Густымі хвалямі за сіні небакрай.

Пот выцершы, глядзі, як каласіцца стэп,
Тады ўжо будзеш знаць, які ясі ты хлеб.

* * *

Не абыходзь мяне, мой лёс,
На тым шляху, што сцелецца,
Дзе засыпае след з нябёс
Сумётамі мяцеліца.

Дзе як з вядра з-пад хмар вада
Бясконцай льецца лаваю
І чалавеку злыбяда
Сціскае горла лапаю.

Хачу я ўзяць бяду з сабой,
Далёкую і блізкую,
Рвануцца ў бой, рвануцца ў бой,
Хоць не арлом, дык пліскаю.

Не абмінай мяне зусім,
Мой лёс, сваёй турботаю,
Ні пылам тым, што курадым,
Ні чорнаю спякотаю.

Людзьмі мяне не аблічы,
Ні іх слязьмі, ні болямі,
Ні заранiцамі ўначы,
Ні полем за таполямі.

Не пакідай мяне ў бядзе,
Як зброя ў бітве воіна.
А шчасце ж як? А шчасце дзе?
А можа ў тым і ўсё яно?

* * *

Сярод пустэч сухіх душой не абмялей,
Дарог няпройдзеных нячытаны сувей
Трымай у памяці, як сэрца запаветы,
Дзе родны сок зямлі, дзе радасці прыкметы,
Дзе яравая рунь не жоўкне ад завей.

Упаў — устань хутчэй, адстаў — спяшайся
ўслед,
Да сэрца не прымай ты выпадковых бед,
Бо мнагалюдны шлях вядзе ў паход вялікі.
Зірні, як парастак ламае камень дзікі,
Каб сонцу паказаць сваё з’яўленне ў свет.

* * *

Бывае міг адзін дзён многіх даражэй,
Нахлыне выбухам і межы ўсе дазвання
Сатрэ і вынесе цябе ў прастор світання,
Абпаліць, як агонь, каб ты гарэў ярчэй.

Але ў будзённых днях не памыліся ты,
Бо ўсе яны ішлі ў рабоце, як браты,
І быў цяжкім іх крок, і твар умыт быў потам,
Каб у шчаслівы міг ператварыцца потым!

* * *

Хапае ўсяго табе: хлеба і солі,
З табою, як звонкіх калоссяў у полі,
Сяброў дарагіх незлічонае веча,
Чаго ж табе трэба яшчэ, чалавеча?

Ты шчасця жадаў — і яно на парозе,
І прагнуў дарог — ты заўсёды ў дарозе,
Любоў і надзею з'яднаўшы навечна...
Чаго ж табе трэба яшчэ, чалавеча?

Жалеза, і камень, і ў полі крыніца,
І ноч, і світанне, і шлях, і зарніца
Пыталіся дружнай адзінай сям'ёю —
Чаго табе трэба? Усе мы з табою.

Хіба вінаваты і ноч і світанне,
Што ў прагных вачах не згасае жаданне,
Каб сэрца паліць і трымацца як трэба:
Аблíччам — да буры, вачамі — да неба!

## РАМОНКАВА СКАРГА

Вочы ўсім я мазолю, палёў немаўлёнак,
І крытычным басам і газетнаму альту:
— Зноў у песні рамонак?
Куды ты, рамонак?
Адыдзіся ў старонку, змывайся з асфальту!

Без цябе тут марокі стае да паўночы —
За паэмай, за прозаю назірк крытычны,
А яшчэ ён цвіце і расплюшчвае вочы,
А яшчэ ён пішчыць — экземпляр батанічны!

Ну, а я не крыўдую, стаю сабе збоку,
На людзей пазіраючы ў гэту хвіліну,
Толькі крыху нап'юся вясновага соку,
Толькі кропельку сонца на вочы накіну.

І куды ж мне падацца з планеты агульнае?
Тут і сонца, і вецер, і я не скаруся,
Што ў мяне аднаго тут жыццё беспрытульнае,
Без прапіскі, без плошчы жыллёвай у лузе...

Узыду я на камень зялёнай хадою,
На граніт, не пытаючы згоды ні ў кога,
І праб'юся карэннем, каб кветкай жывою
Красавацца пад сонцам для шчасця людскога!

*З М. Нагнібяды*

## ЗЯРНЯТЫ

Расянаю парою
На стане палявым
Усе касцы вячэраюць,—
Сышліся па адным.

Агонь начны, як голуб,
Варкуе ў сіняве,
То згасне на хвіліну,
То зноўку ажыве.

Як хораша сысціся,
Калі гарыць агонь,—
І жарты, і ўспаміны,
І песня, і гармонь!

Касцы — хлапцы бывалыя,
Краса ўсяе зямлі —
Еўропу вызвалялі,
Ў Маньчжурыі былі.

І шчырую падзяку
З іх мае не адзін
За Будапешт, Варшаву,
Сафію і Берлін.

Пра ўсё касцы згадалі
Вясёлым часам тым,
Расянаю парою
На стане палявым.

І пра Дунай шырокі,
Пра мужных у баю,
Пра Прагу урачыстую,
Пра гвардыю сваю.

Ёсць што сябрам і ў бітве,
І ў мірны час згадаць...
Якія ў жніўні ночы
Духмяныя стаяць.

Снапы, нібы асілкі,
Паснулі на палях,
Далёкіх сёл сузор'і
Нанізаны на шлях.

Спяваюць малатарні,
Абуджаны такі...
Сябры ў паходзе марылі
Не раз пра час такі.

Прастор, як вокам кінуць,
Бясконцы, залаты,
Багацце краю роднага —
Жыты, жыты, жыты.

Над полем ураджайным,
Як пояс, Млечны Пуць.
Не спіць касец, спявае!
Дый як яму заснуць?

— А ну, даволі песень,—
Азваўся камбайнер,—
Маё апавяданне
Паслухайце цяпер.

Вязальшчыцы падселі
І хлопцы — люба ўсім

Апавяданне слухаць
На стане палявым.

— У дні вайны Айчыннай,
Паходаў баявых,
Я ўзяў з калгаснай нівы
Зярнятаў залатых.

Чатыры жмені кінуў,
Сыпнуў у ранец свой,
Я іх бярог, як зброю,
Калі хадзіў у бой.

Не высахлі ад спёкі
Зярняты з нашых ніў,—
У бойцы Сталінградскай
Агонь іх апаліў.

Калі мяне паранілі
У грозны час вайны,
У ранцы набракалі
Маёй крывёй яны.

Не згінулі ў шпіталі,
Я ачуняў і зноў
Са зброяю і зернем
Аж за Дунай пайшоў.

Як родных, у Румыніі
Нас стрэлі бednякі,
Вузенькія ў іх нівы,
Як тыя ручнікі.

У вёсцы за Плаешці
Полк прыпыніўся наш.
Паклікаў мяне ў хату
Бядняк Раман Чадаш.

Яму аддаў зярняты я,
Сказаўшы так:— Бяры!..
Як шчасце мець жадаеш,
Пасей іх на зары.

Сабраў іх з ніў я вольных,
Калгасных, залатых,
Праз бітвы, праз навалы
Табе прынёс я іх...

І часта, часта дома
Мне снілася пасля:
Пад сонцам каласіцца
Румынская зямля.

На ўсход схіліўся колас,
Хістае галавой,
Нібыта ўспамінае
Салдацкі ранец мой.

А што далей — вы знаеце...
Мы сеялі якраз —
З Румыніі сяляне
Прыехалі да нас.

Прыехалі наведаць
Калгас вялікі наш,
Гляджу я... і не веру,—
Між іх Раман Чадаш.

Мы з ім расцалаваліся,
Як родныя браты:
«Ну, як жывеш?» —пытае.
— Як след,— кажу.— А ты?

«Прымі падзяку,— кажа,—
За дар вялікі, брат,

Твой дар на нівах новых
Памножыўся нашмат.

Багаццем за Дунаем,
І шчасцем ён узрос,
І славаю народа,
Што нам яго прынёс...»

...Задумаліся, слухаюць
Пры вогнішчы начным
Касцы парой расянай
На стане палявым.

*З Л. Первамайскага*

## ПОПЕЛ

Знікае гліна пад цяжкім каменнем,
І гіне цвет, які не стаў насеннем,
І зарастаюць раны горкіх дзён,
Дзе шлях пралёг шырокай паласою,—
Чаму ж няма для попелу спакою,
Навошта будзіць жаль і слёзы ён?

Ці гора на зямлі і так не досыць?
Што попел той сваім маўчаннем просіць
У гэтых ліхтароў, дамоў і дрэў?
Ці не прасцей было б яму забыцца
Пра дым, з якога ўжо не адрадзіцца
Былому свету, што ў агні згарэў?

А попел, попел, попел б’ецца ў грудзі,
Ён не астыў, яму няма, не будзе
Ні забыцця, ні сну ў зямлі сырой,
На дол, на лісце зноў ляціць ён дзесьці,
Як папярэджанне ці як прадвесце —
Няўжо не чуе свет трывогі той?

Ён над сумленнем лёг, нібы пароша,
А мы, хто ран былых забыць не можа,
Страсаем з ботаў нашых грозны пыл,
Ці не таму, што горкі шлях не скончан,
Што будучых баімся кроваточын,
Спыніць якія мы не маем сіл?

## ПАЗНАННЕ

Без чалавека існаваць бы вечна
Мог у бязмежнай далечы сусвет,
І згінуць мог, як гіне недарэчна
У змрочным небе метэора след,
І адраджацца мог бы зноў у коле
Арбіт былых, але сваіх дарог,
Сваёй таемнай сутнасці ніколі
Без чалавека б ён пазнаць не мог.

Без радасці, без болю, без імкнення
Мільёны год, за векам доўгі век,
На свеце з пакалення ў пакаленне
Вёў бой за існаванне чалавек.
І хоць ён звера паляваў ляснога,
Хоць вынайшаў і кола, і вясло,—
А толькі доўгі час сябе самога
Пазнаць не мог,— бо песні не было.

* * *

Мяжа ўсяму наканавана.
Скарыся лёсу, не кляні
Таго, што запраграмавана
Табе — на справы ўсе і дні.

Я адкідаю немінучасць
І тым дарадчыкам кажу:
А што, як творчасць ёсць рашучасць
Парушыць гэтую мяжу?

* * *

Мінулага не пераборыш.
Цяпер мінула ці даўно —
Не за плячамі і не поруч,
Заўжды ў табе жыве яно.

Не забываецца, як гора,
Твой даўні недарэчны крок,
Як быццам ты зрабіў учора
Яго — знарок ці незнарок.

А каб жа, каб па волі ўласнай,
Уладнай сілаю рукі,
Мог сцерці ты, як з дошкі класнай,
Сваіх памылак груз цяжкі —

Пакуты, горыч, што не могуць
Цябе пакінуць на зямлі,
Што не самохаць і самохаць
На плечы некалі ляглі.

Сумленна прагнеш сэрцам чулым
Ты першароднай чысататы,
Але ў наступнае з мінулым
Сваім існі павінен ты.

І позні суд твайго сумлення
Не дзейсны — не пазбавіць ён
Цябе ад цёмнага мучэння
На рубяжы апошніх дзён.

## СТАРАСЦЬ

У цемры прачынаюцца сады,
Вясенняю абуджаныя марай,—
Спрабуе птушка першыя лады,
І хмарка нараджаецца з вады,
І ўпершыню ляціць у неба парай.

Яшчэ не блізка восені імгла.
Зіма далёка. Кружыцца няспынна
Планета ў зменах цемры і святла.
Яшчэ душу слязой не апякла
Ні роспач, ні туга, ні дамавіна.

Яшчэ на дрэвах завязь, а не плод,
Яшчэ ў юнацкіх снах маіх маячыць
Прывабны свет, які заве ў паход,—
Яшчэ мне толькі васемнаццаць год...
Як шкода, што таго ніхто не бачыць!..

## КАРУСЕЛЬ

Дзе ж вы, дзе, майго маленства коні,
Паскакалі без мяне куды вы?
Больш не чутна за спіной пагоні...
Дзе спынілі вы свой бег імклівы?

Шэрай, вараной, чырвонай масці,
Даўніх дзён сябры і пабрацімы,
Дзе вы зніклі з марамі аб шчасці,
З сёдламі на спінах залатымі?

Што замоўкла бітая дарога,
Што былыя сурмы не спяваюць?
Капыты драўляныя былога
З каменя агню не выкрасаюць.

Ох, негадаваны, незвычайны,
Мой табун! Гадоў далёкіх коні,—
З памяці выходзьце, як са стайні,
Вось і цукар на маёй далоні.

Як музыкі граюць, б'юць літаўры,—
Мабыць, васадуліўагародзе,—
Паліцы ўгару ўзнялі кентаўры —
Кружыць барадатае страхоцце.

Ліхтары начныя свецяць з боку,
Прадаюць пірожнае з бляшанкі,—
Выплываюць зданямі са змроку
І знікаюць зноў у змрок тачанкі.

У трамбоны дзьмухаюць салдаты,
Гоман грамады, як на вяселлі,—
Не забыць мне вас, маленства святы,
Іскры, бляскі, рытмы каруселі.

Коні, коні, мары парыванне,
Дружны ваш галоп, замкнёны колам,
Вечнае не скончыцца паланне,
Срэбраным не сцерціся падковам.

Ухапіцца б мне рукой за грыву,
На сядло б ускочыць мне з разгону
І ляцець пад музыку імкліва,
І кружыцца б гэтак — аж да скону.

Каб плылі ў вачах гарачых плямы,—
І нічога больш ужо не трэба!
Ты ляціш над лесам, над палямі
І над гарадамі — проста ў неба.

Проста ў неба, што яшчэ не знае
Наслання, якое бомбы сее,
Дзе зара адна, зара другая,
Нібы жыта ў полі палавее.

Коні масці вараной, мышастай,
Не знікайце гулкай чарадою.
Прыпыніся, мой табун грывасты,
Забяры хутчэй мяне з сабою.

Праплывае міма пабрацімства.
Коні, коні дыхаюць гарача.
Каруселі кружаць, а дзяцінства
Убаку стаіць маё — і плача.

## *З К. Куліева*

* * *

Сябе не шкадаваць,
Ісці, хоць снег па грудзі,—
Ісці і не крычаць
Аб гэтым, як аб цудзе —
Вось што такое паэзія!

Пракласці першы след,
Дзе, што ні крок — бяздонне,
І сэрца несці ў свет
Адкрытым на далоні —
Вось што такое паэзія!

Дарыць любоў сваю,
Яе набытак шчыры
Маламу ручаю
І мора шумнай шыры —
Вось што такое паэзія!

З любоўю да зямлі,
Ахопленай бядою,
Спяшацца ў час, калі
Сцякаеш сам крывёю —
Вось што такое паэзія!

І так хварэць душой
За ўсіх, каб быў мацней
Твой боль, чым боль бядой
Знясіленых людзей —
Вось што такое паэзія!

## ЖАНЧЫНА КУПАЕЦЦА Ў РАЦЭ

У рацэ купаецца жанчына.
Сонейка, што выйшла з-за хмарыны,

Замірае ў небе ад здзіўлення,
Кладучы на плечы ёй праменне.

Побач з ёй, кранаючыся кос,
Мокне цень берагавых бяроз.

Заціхаюць кветкі на лужку,
Мокрыя камені на пяску.

А яна купаецца ў вадзе,
Зла і смерці ўжо няма нідзе.

На зямлі няма ліхой зімы,
Ні жабрачай торбы, ні турмы,

Войн не знае ні адна краіна...
У рацэ купаецца жанчына.

## ГОРНЫЯ ВЯРШЫНІ

Перад вяршынь крутымі скатамі
Не раз я, грэшны, чырванеў,
Не раз вачамі вінаватымі
Я ім у вочы не глядзеў.

Вякоў сівымі старажыламі
Лічу вяршыні родных гор,
Таму і горка, як вяршынямі
Выказваецца мне дакор.

Затое з галавой узнятаю
Хаджу я, горды сам сабой,
Калі вяршыні гор парадую
Хаця б драбніцаю якой.

Каля вяршынь вальней я дыхаю,
І раскаваны верш, як плынь,
Імкнецца ў свет праўдзівай кнігаю
Каля вяршынь, каля вяршынь.

Адвага верх над баязлівасцю
Бярэ тады, калі радок
Упоравень з хмарын імклівасцю
Вісіць над прорвай, як масток.

І для мяне, не адзінокага,
Змаглі вы, ліху насупор,
Стаць меркаю ўсяго высокага,
Вяршыні гор, вяршыні гор!

Падараваўшы мне паходжанне
Сваёй завоблачнай зямлі,
Вы мару прагнага ўзыходжання
У грудзі мне ўдыхнуць змаглі.

Я вас люблю, мае суровыя,
За пахвалу і за дакор,
Настаўнікі сівагаловыя,
Вяршыні гор, вяршыні гор!

* * *

Не веру тым, чые нічым
Ніколі вочы не засмучаны.
Лье слёзы рэчка перад тым,
Як грудзі лёд скуе балюча ёй.

Маркотна ёй, як нам з табой,
Хоць ведае: надыдзе раніца,
Растае лёд, вярба вясной
Над ёй лістотай зноў апранецца.

Без жалю не ўпадзе лісток,
Без болю вецце не зламаецца,
Не трэсне без пакут лядок,
Пад снегам кветка не схаваецца.

На схіле дня ўяўляю я,
Як падае на шлях запылены
Сляза сялянскага каня,
Які паклажаю знясілены.

Паэты, ці адчулі вы
Адчай палетка здратаванага?
Альбо жанчыны боль жывы,
Што страціла свайго каханага?

Умельства беспакутна жыць —
Адменнасць сэрца бестурботнага,
Што можа матчын лёс забыць
І адцурацца брата роднага.

Не стане людзям весялей
Ад паказнога маладзецтва,
Любіць не цяжка ўсіх людзей,
Душой хварэць за чалавецтва,
Суседа палюбіць цяжэй.

## ПЕСНЯ КАМЕНЯ

Са мной не параўноўвай
Ты сэрцы — зло ў якіх.
Стаць попелам гатоў я,
Каб крыўд не чуць такіх,
Мне цяжка!

Я ўсіх, без наракання,
Ад бур і сцюж бярог,
З бяздушным параўнання
Я б вытрымаць не мог,
Мне цяжка!

Калі вы замярзалі,
Агонь я выкрасаў,
Калі вы паміралі,
Надтруннем я ўставаў.
Мне цяжка!

Я змрочны, як і ўчора,
Як сотні год назад,
Ці не таму, што гора
На свеце бачыў шмат.
Мне цяжка!

Мой крык, мой лямант чулі
Гром, вецер, пыл, імгла,
Мяне крышылі кулі,
Кроў па чале цякла.
Мне цяжка!

На жаль, і я не вечны,
Так, як і ўсё, бадай.
Ты тых, хто бессардэчны,
Са мною не раўняй.
Мне цяжка!

Узяў сабе за прыклад
Ты мой цярплівы лёс.
Мне гэта слухаць прыкра,
Балюча аж да слёз.
Мне цяжка!

## ТАМУ, ХТО ПРЫЙДЗЕ УСЛЕД ЗА МНОЙ

Даруй, не ўсе каналы з іх мастамі
Я пабудую ўласнымі рукамі.
Пасля мяне табе, нашчадак мой,
Работы хопіць. Над табой часамі
Кружыцца будуць беды груганамі,
Як над маёй кружылі галавой.

Ты да крыві не раз параніш ногі,
Кіруючы праз перавал круты,
І суму не пазбегнеш, і трывогі,
І, можа быць, не раз пасля дарогі,
Як я калісьці, стомішся і ты.

Усёй зямлёй, як спадчынай маёю,
Валодаць будзеш ты сваёй чаргою.
Ты будзеш слухаць свету цішыню,
Глядзець на дождж, нібы ён над зямлёю
З дня існавання льецца ўпершыню.

І, седзячы з каханай ля дубровы,
Ты ў радасці ёй скажаш ці ў журбе
Не новыя, як свет, прызнання словы,
Ты будзеш верыць, хоць і памылкова,
Што я не гаварыў іх да цябе.

І ты захочаш воляю разумнай
Пераіначыць спадчыну маю,
І песню нашых дзён палічыш сумнай,
І паспрабуеш праспяваць сваю.

Не ўмеем мы, не верачы былому,
Даверыць сэрца вопыту чужому,
Каб праўду ад маны адмежаваць.
І мудрасць мудрых правіл, хоць старую,
Каторай я сягоння наследую,
Ты сам адкрыеш, каб наследаваць.

* * *

Неаднолькавай долі,
Разнастайных патрэб,
Людзі ў лесе і ў полі
Здабывалі свой хлеб.

Вартавалі вякамі
Людзі гэтай зямлі
Той агонь, што не самі,
Продкі іх здабылі.

І служыў чалавеку
Службу верную ён,
Грэў, не гаснуў спрадвеку
Аж да сённяшніх дзён.

У агонь той нязменна
Кожны горац валок,
Хто дужэйшы — палена.
Хто слабейшы — сучок.

Я, не лепшы, не горшы,
На здабычу іду
І пасільныя ношы
На цяпельца кладу.

І яно не астыне...
Як мой хворает згарыць,
Нехта новы падкіне,
Ля агню пасядзіць.

* * *

Пярэчыць, што вялікіх спраў
Я не зрабіў — не будзем.
Затое я не прычыняў
Бяды і гора людзям.

Нікога я не ачарніў
Ганебным нагаворам.
Хлеб, што я еў, сумленным быў,
Мне за яго не сорам.

Я не прасіў узнагарод,
Мне і таго хапала,
Што сустракаў я сонца ўсход,
Быў рад траве і скалам.

Кішэнь грашыма не набіў.
Не ў іх мая патрэба.
Цаніў ручай, з якога піў
Ваду, хмарынку, неба.

Нашто нам слодычы спакус,
Адзнакі бляск і слава?
І не хлусіў я вам, бо хлус
Спяваць не мае права.

Я вам на ўсё даваў адказ,
Мае суседзі-горцы,
І не хаваў вачэй ад вас
Так, як рабілі іншы раз
Другія вершатворцы.

*З Г. Камянецкага*

## РАЗВІТАННЕ

Ты ўжо едзеш? Бывай.
Едзеш? — Не забывай
Тых часін, тых мінут,
Як ляжаў я вось тут,
Каля хваль, каля хваль,
І як цэліўся ўдаль
Ў афіцэрскі вагон —
Цягніку наўздагон.
Ты хвілінаю той
Страсянула сваёй
Залатой галавой,
Абвілася касой
І скрозь ночку пайшла,
І адтуль
Праз кусты
Несла ты
Дынаміт.
Я не цэліўся больш цягніку ў дымны хвост,
На вадзе
Між ракіт
Распрастаўся ўзарваны,
Разбураны мост.
І пайшлі мы, пайшлі
Па лясной па зямлі
І, скрозь лес ідучы,
Рагаталі ўначы,
А ў той час,
У той час,

Вёрст за дзвесце ад нас,
За тым шляхам глухім,
Пад тым дахам крывым
(Дзе старога мястэчка абрысы відны)
Твая маці шчаслівыя
Бачыла сны.
Быццам едзеш ты,
Едзеш праз долы, лясы
І вязе цябе конь
Выязное красы.
Што ні спіца, ні вось —
Пырскі сыпле агнём,
І каляска нагружана
Звонкім дабром,
І сядзіць пад паветкай,
Між скарбаў між тых,
У ласкавых шаўках
Твой вясёлы жаніх;
І табе, і табе
Ехаць радасна з ім,
Ззяеш, быццам лілея,
Ў адзенні сваім.
І скрозь ноч,
І скрозь ноч,
Праз даліны, лясы,
Вас дадому вязе
Конь славутай красы.
У святла паласе
Ноч ляжала ў расе,
Месяц плыў — і на сінім
Абрусе святла
Нам багатай вячэрай
Сялёдка была.
Стала весела нам,
Стала лёгка нагам,
Зноў з табой

Мы пайшлі
Па лясной
Па зямлі.
Недзе сыч галасіў у далёкім яры,
Дзве цыгаркі скруцілі мы
З горкай махры.
Ідучы
Паўз карчы,
Рагаталі ўначы.
Едзеш? Зноў я адзін.
Едзеш? — Не забывай
Ні тых дзён, ні часін,
Ні той год, ні той край.

*З І. Харыка*

***

Адсюль крычу я сэрцам і душою
Наступнага далёкім жыхарам:
Хай сённяшняе нашае, зямное
Жыццё-быццё не здасца цудам вам.

Далёка там, у прышласці шчаслівай,
Шукаць для нас не ўздумайце акрас,
Не аздабляйце лірыкай гуллівай,
Легендамі не карануйце нас!

Не карануйце нашыя галовы
Карункамі, сатканымі з святла...
Мы тут былі, мы тут жылі сурова,
І праўда нас суровая вяла.

Мы першыя цагліны закладалі,
І кожны ў мур цаглінай лёг жывой...
Мы ўсе да болю ў сэрцы смуткавалі
Аб пары крыл мяцежных за спіной.

Праз пыл руін мы крочылі калонай,
З’яднаныя ў адзіную сям’ю...
І суджана яшчэ адно было нам —
Пакінуць з песняй гэтую зямлю.

Таму і шлю без смутку, без тугі я
Ад нас, ад акрываўленых, наказ...
Адсюль крычу я ў заўтра:
Дарагія.
Крылатыя, не карануйце нас!

ЗМЕСТ

*З С. Ясеніна*



*З М. Ісакоўскага*



*З Т. Шаўчэнкі*

*З А. Малышкі*



*З М. Нагнібяды*



*З Л. Первамайскага*



*З К. Куліева*



*З Г. Камянецкага*



*З І. Харыка*

**Куляшоў А.**

к 90 **Збор твораў у пяці тамах. Том першы. Вершы. 1927—1970 гг. Мн., «Маст. літ.», 1974. 530 с. з іл.**

Паэзія Аркадзя Куляшова заўсёды вылучалася актуальнасцю, глыбокім лірызмам, філасофскім роздумам і высокім грамадзянскім пафасам. Кнігі яго выдаваліся на многіх мовах народаў СССР і ў іншых краінах.

Першы том новага выдання збору твораў народнага паэта складаюць вершы, напісаныя ім з 1927 па 1970 год, а таксама выбраныя пераклады з класічнай і сучаснай лірыкі розных паэтаў.

На белорусском языке

*Аркадий Александрович Кулешов*

Собрание сочинений в пяти томах

ТОМ ПЕРВЫЙ

Издательство «Мастацкая літаратура» Государственного комитета Совета Министров БССР по делам издательств, полиграфии и книжной торговли. Минск, Советская, 19.

Рэдактар П. Ф. Прыходзька. Мастак М. С. Басалыга. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар З. Г. Сень. Карэктар Л. М. Вайцяшэня.

АТ 04022. Здадзена ў набор 4/IX 1973 г. Падп. да друку 1 /II 1974 г. Тыраж 8500 экз. Фармат $70Х100^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 21,46. Ул.-выд. арк. 17,05. Зак. 434. Цана 1 руб. 84 кап.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.